

ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№1 (4545) 6 студзеня 2010 г.


## У нумары:







# Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка

**Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў належыць да пісьменнікаў глыбінных, тых, якія глядзелі на народнае жыццё без афіцыёзнай прадузятасці, бачылі ў ім і вялікія патэнцыі, і праявы бязладдзя, якое ішло ад чыноўніцка-бюракратычнага дыктату. Чыгрынаўскі талент сілкавала праўдалюбства, арганічна ўласцівае гэтаму пісьменніку. Доля адмерала яму толькі 61 год і 15 дзён зямнога жыцця. Па сённяшніх мерках гэта ўвогуле не багата. У літаратуры ён актыўна працаваў тры з паловай дзесяцігоддзі і здабыў шырокае, можна сказаць, сусветнае прызнанне.**



Да пастаяннай працы ў галіне мастацкай прозы Іван Чыгрынаў звярнуўся ў пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя. Выдаў тры зборнікі апавяданняў: “Птушкі ляцяць на волю” (1965), “Самы шчаслівы чалавек” (1967), “Ішоў на вайну чалавек” (1973). Пасля другога зборніка твораў у гэтым жанры Чыгрынаў узяўся пісаць раманы, якіх ён стварыў пяць: “Плач перапёлкі” (1970), “Апраўданне крыві” (1976), “Свае і чужынцы” (1983), “Вяртанне да віны” (1992), “Не ўсе мы зґінем” (1996). Атрымалася эпапея пра Вялікую Айчынную вайну, пра тое, як людзі жылі ў Беларусі ва ўмовах нямецкай акупацыі і як яны змагаліся супраць фашысцкай набрыдзі, уносячы свой вялікі ўклад у агульную перамогу чалавецтва над гітлераўцамі.

Гэты раманны цыкл стаў вельмі важным дасягненнем пісьменніка і хутка здабыў належнае грамадскае прызнанне. За два першыя раманы (“Плач перапёлкі” і “Апраўданне крыві”) І. Чыгрынаў атрымаў вельмі прэстыжную літаратурную прэмію імя А. Фадзеева, а ў дадатак да яе і сярэбраны медаль. І цалкам меў рацыю Максім Танк, які падкрэсліваў, што ў чыгрынаўскіх раманах “праўда вайны і змагання з ворагам выяўлена глыбінна, на філасофскім узлёце думкі і мастацкага пісьма”.

Можна прыгадаць, што за два тыдні да смерці, якая забрала Івана Чыгрынава 5 студзеня 1996 г., ён, разважаючы пра свой уклад у літаратуру, казаў, што беларускі народ будзе ўдзячны яму менавіта за раманы, бо імі зроблена справа сур’ёзная, гістарычная.

Іван Чыгрынаў не раз казаў, што папярэдняя літаратура пра вайну звычайна з большым ці меншым поспехам пісала, як людзі ваююць. Сам жа ён лічыў патрэбным адлюстраваць і тое, як яны жылі ў ваеннай віхуры. “У мяне чалавек хутчэй не на вайне, а ў вайне. Яна даставала ўсіх. А жыць усё роўна трэба было. І людзі жылі пры той жа акупацыі. Куды ім было дзецца? Пра гэта я і пішу. Пішу не так, як раней пісалі многія, а так, як было”, — настойваў Іван Чыгрынаў.

Сваю працу па асэнсаванні мастацкай літаратуры Іван Гаўрылавіч ацэньваў вельмі высока. Вынікі гэтай працы падсумоўваліся і ў кнізе “Новае ў жыцці, новае ў літаратуры” (1983). Тут ідзе гаворка не толькі пра беларускіх пісьменнікаў, але і пра майстроў мастацкага слова ў абсягу ўсяго былога Савецкага Саюза, гаворка ўдумлівая, тэарэтычна заглыбленая, з пастаноўкай цэлага шэрага тэарэтычных, асабліва жанравых праблем і з выхадам на некаторыя з’явы ў літаратуры сусветнай. Адсюль і высокая аўтарская ацэнка яго крытычных прац. “Я і крытыкай займаўся абсалютна сур’ёзна. У сваіх выступленнях, дакладах, артыкулах, мне здаецца, я сказаў шмат таго, што не сказалі вы, прафесійныя крытыкі”, — настойваў Іван Гаўрылавіч у гутарцы, якая адбылася ў ліпені 1994 года.

Важная дзялянка творчай працы Івана Чыгрынава — ягоная драматургія. Чыгрынаўскія п’есы вызначаюцца драматычнай напружанасцю. Мастак засяроджваецца ў іх на важных гістарычных падзеях, іх асэнсаванне нярэдка мае палемічны характар, скіравана супраць павярхоўных ці зусім памылковых трактовак, якія набывалі шырокае распаўсюджванне, станавіліся ўстойлівай заганнай традыцыяй.

Стварыў Чыгрынаў п’есы і па сваіх раманах “Плач перапёлкі”, “Апраўданне крыві”, “Свае і чужынцы”. Прымаў ён удзел і ў стварэнні сцэнарыя шматсерыйнага тэлефільма “Руіны страляюць”, пастаўленага ў 1973 годзе. За працу над гэтым сцэнарыем ён атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі (1974). Праз дваццаць гадоў за дасягненні ў літаратуры яму надалі і званне народнага пісьменніка Беларусі.

Іван Гаўрылавіч добра ведаў цану зробленага ім на літаратурнай і навуковай ніве і зробленым ганарыўся. У сваёй чулай, далікатнай душы ён насіў шмат дабрыні і чалавечнасці, але прыкрываў іх знешняй позай. Ён і хадзіў звычайна з высока ўзнятай галавой. Такую позу многія прымалі, а некаторыя добразычліўцы і зайздроснікі знарок імкнуліся выдаць за ягоную сапраўдную сутнасць, прыпісвалі яму саманадзейнасць і фанабэрыстасць. А ён і ў чалавечым сэнсе (не кажучы ўжо пра мастака) быў неардынарным, працаваў самааддана, пераадольваючы шматлікія перашкоды. Да іх трэба аднесці несправядлівыя нападкі афіцыёзнай крытыкі, якія абрушваліся на Чыгрынава ўжо з-за самых ранніх яго апавяданняў. Яны падвяргаліся тэндэнцыйнаму разносу за праўдзівасць, гуманістычную накіраванасць, пастаноўку вострых праблем, іх трактоўку не з вузка класавых, а з агульначалавечых пазіцый. Так было з апавяданнямі “Жыве ў крайняй хаце ўдава”, “Маці” (канчатковая назва “У ціхім тумане”) і некаторымі іншымі творамі гэтага жанру. Разносы зноў і зноў паўтаралі не толькі звычайныя афіцыёзныя крытыкі, але раздаваліся і з вуснаў больш уплывовых асоб, пісьменнікаў у рангу акадэмікаў, якія самі мастацкіх твораў ужо амаль не пісалі, і нават кіраўнікоў рэспублікі. Пісьменнікі творча актыўныя і дальнабачныя Івана Гаўрылавіча падтрымлівалі. Напрыклад, Максім Танк, які апублікаваў апавяданне “Маці” ў часопісе “Полымя”, і ў час разносу твора сказаў яго аўтару, што ён напісаў добрае апавяданне. “Чалавек вопытны, ён ведаў, што разносы мінуцца, а сапраўдная літаратура застанецца”, — з удзячнасцю згадваў пра Максіма Танка і яго падтрымку Іван Чыгрынаў.

Аддаваў шмат увагі Іван Чыгрынаў і моўнаму майстэрству. Ён увогуле лічыў мову найвялікшым набыткам нацыі і таму выказваў вострую заклапочанасць тым становішчам, якое беларуская мова займае ў нашым грамадстве. “Гэта ж не сакрэт, што яна прыйшла ў сённяшні дзень амаль з нулявым ужыткам. Ёсць вядомы выраз: мова — душа народа. А мы ў многім занядбалі гэту душу і з-за гэтага, дарэчы, многае страцілі і ў культуры. Пакуль што мы не разумеем, ці не жадаем разумець драматызму становішча. Але гэта вельмі сур’ёзна”.

Хваляваўся пісьменнік недарэмна. Бо і сёння, праз 20 гадоў пасля трывожнага роздуму Івана Гаўрылавіча, перамен у грамадскім стаўленні да беларускай мовы амаль няма. Змяненні тут калі і ёсць, дык не вельмі значныя. Праўда, цяпер у нашай моладзі, той, што праяўляе актыўнасць у нацыянальным пытанні, стала прэстыжным гаварыць па-беларуску. Зрэдку раздаюцца і галасы службоўцаў немалога рангу пра неабходнасць павагі да роднага слова. Але паўсядзённага практычнага прыкладу яны ў сваёй большасці не падаюць. А такі прыклад тут вельмі і вельмі патрэбны. Ён можа стаць вырашальным. Ці дачакаемся яго?

Усё, за што браўся Іван Чыгрынаў, ён рабіў ад душы, на поўную моц выкарыстоўваючы магчымасці свайго глыбіннага, праўдзівага таленту і з вялікай зацікаўленасцю лёсам чалавека і краіны, роднай Беларусі, са шчырым клопатам пра наша духоўнае багацце. І таму ягоная творчасць заняла трывалае месца ў беларускай літаратуры, узбагаціла яе здабыткамі, якія маюць доўгатэрміновае значэнне, будуць служыць многім пакаленням, паказваючы свету беларусаў у іх непаказной велічы.

Дзмітрый БУГАЁЎ

*Фота забяспечана музеем гісторыі беларускай літаратуры.*



## Пункцірам

Перад самым Новым годам у Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна) пачала дзейнічаць інтэрактыўная выстаўка "Чароўныя лялькі". Экспазіцыя знаёміць наведвальнікаў з абрадавымі лялькамі, што прадстаўляюць сабой нескладаныя канструкцыі з асновы і тканіны. Яны "апранутыя" і "неапранутыя", парныя, ёсць і шматпрадметныя кампазіцыі. Гэтыя экспанаты падкрэсліваюць выключнае месца такіх рэчаў у матэрыяльнай культуры славянскіх народаў. Дарэчы, усе лялькі пададзены ў атачэнні прадметаў з багатых калекцый ткацтва, этнаграфіі, керамікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што сабраны ў музеі.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Яднанню творцаў — быць

Другі раз пісьменнікі Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ па запрашэнні Культурнага цэнтра Беларусі (КЦБ) ў Польшчы і беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" наведалі Беласточчыну. Сёлета гэта былі Ала Нікіпорчык і Людміла Кебіч.

Падчас творчага візіту адбылася сустрэча з вучнямі Гайнаўскай беларускай гімназіі, на якой паэтэсы азнаёмілі прысутных са сваімі вершамі і новымі кнігамі, адказалі на шэраг пытанняў, звязаных з літаратурнай дзейнасцю. Вялікую зацікаўленасць выклікаў Музей і асяродак беларускай культуры, які таксама знаходзіцца ў Гайнаўцы. Прыветна сустрэлі гасцей супрацоўнікі ўстановы. Член Саюза мастакоў Польшчы Віктар Кабац з задавальненнем паказаў выстаўкі работ мастакоў — прафесіяналаў і аматараў, якія нядаўна адкрыліся ў музеі, правёў па этнаграфічных залах, расказаў гісторыю стварэння музея, а супрацоўніца бібліятэкі Анжаліна Масальская шчыра радавалася кнігам, якія прывезлі ў дарунак сваім замежным сябрам гродзенскія паэтэсы. Дарэчы, бібліятэка беларускай літаратуры налічвае там больш як 10 тысяч назваў!

У Беластоцкім універсітэце, на кафедры беларускай філалогіі, адбыўся "круглы стол" на чале з вядомым паэтам, перакладчыкам, гісторыкам рускай і беларускай літаратур, доктарам гуманітарных навук, прафесарам Янам Чыквіным. У пасяджэнні прымалі ўдзел кіраўнікі КЦБ у Беластоку, дыпламаты А. Карачун і Э. Швайко, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ А. Крэйдзіч, паэт Юры Баена і інш. У выніку сустрэчы былі акрэслены канкрэтныя шляхі супрацоўніцтва ў галіне літаратуры паміж пісьменніцкімі арганізацыямі трох памежных рэгіёнаў — Гродзенскай, Брэсцкай абласцей і Беластоцкага ваяводства.

Людміла ВАЙТУЛЕВІЧ

## Прэзентацыі

# Паэт трывогі і пакут

Прывітаць арганізатараў і ініцыятараў выставы "Юльюш Славацкі на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя" ў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прыйшоў сапраўдны "філакартычны актыў" сталіцы. Уся справа ў тым, што музей на працягу апошніх гадоў ладзіць далёка не першую выставу рэпрадукцый альбо саміх паштовак з калекцыі аднаго і таго ж збіральніка — мінчаніна Уладзіміра Ліхадзедава.





Большыня гэтых выстаў заўжды суправаджалася ячшэ і прэзентацыяй кніг-альбомаў з рэпрадукцыямі старых паштовак. Так і ў гэты раз. Гледачы змаглі пазнаёміцца ў музеі яшчэ і з кнігай Уладзіміра Ліхадзедава "Юльюш Славацкі на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя" (Мінск, "Тэхналогія", 2009 год), якая падрыхтавана і выдадзена пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. Прывітаць калекцыянера і аўтара праекта прыйшлі калекцыянеры, музейшчыкі, краязнаўцы, цікаўная да гісторыі моладзь. Руплівасць філакартыста віталі намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Стружэцкі, намеснік дырэктара музея Вялікай Айчыннай вайны Вячаслаў Казачонак, дырэктар Польскага інстытута ПётрКазакевіч, доктар філалагічных навук аглядальнік газеты "С.Б. Беларусь сегодня" Адам Мальдзіс, дырэктар выдавецтва "Тэхналогія" Вацлаў Багдановіч, старшыня таварыства "Беларусь — Польшча" пісьменнік Анатоль Бутэвіч, паэт і перакладчык Серж Мінскевіч.

І спрычыненне да філакартычнага жыццяпісу геніяльнага польскага паэта, і сам выбар часу выставы і часу выдання кнігі — усё зусім невыпадкова. Юльюш Славацкі, хаця і нарадзіўся ў 1809 годзе ва Украіне, а вучыўся ў Вільні, быў шляхамі сваімі, сябрамі, мастацкімі ідэямі звязаны і з Беларуссю. Вось што піша ў прадмове да кнігі, у якой прадстаўлены рэпрадукцыі 127 паштовак, Уладзімір Ліхадзедаў: "Падчас вучобы ў Віленскім універсітэце Славацкі штогод на вакацыях наведваў родны Крэменец… на радзіму… і назад дарога ішла праз беларускія землі. Паштовыя тракты, па якіх мог ехаць Славацкі, вялі праз Ашмяны, Воранава, Навагрудак, Ліду, Пінск, Іўе, Валожын, Стоўбцы, Лунінец, Столін, Нясвіж…". Цікаўнасць маладога паэта да гісторыі падштурхнула Юльюша да стварэння трагедыі "Міндоўг". Пераклад першай дзеі гэтага адметнага твора таксама надрукаваны ў кнізе-альбоме старых паштовак. Аўтар перавасаблення на беларускую мову — Серж Мінскевіч. Ён і заўважыў, у прыватнасці: "Для беларускага чытача "Міндоўг" — гэта своеасаблівая, несумненна каштоўная літаратурная інтэрпрэтацыя гісторыі нашага краю, напісаная класікам польскай літаратуры, малодшым сучаснікам Адама Міцкевіча і сведкам дзейнасці філарэтаў і філаматаў".

Кастусь ЛЕШНІЦА

На здымках: Уладзімір Ліхадзедаў; падчас знаёмства з выставай.

Фота Кастуся Дробава

## Канферэнцыі

# Багдановіч і сучаснасць

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь сумесна з Літаратурным музеем Максіма Багдановіча арганізавала і правяло Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную 100-годдзю першых публікацый паэта, — "Максім Багдановіч і сучасны літаратурны працэс".

З прывітальным словам да яе ўдзельнікаў звярнуліся дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Тацяна Шэляговіч, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Эдуард Агуновіч, Вольга Дашкоўская (з роду Багдановічаў) і дацэнт кафедры замежнай літаратуры БДУ кандыдат філалагічных навук Валянцін Трус.

Пленарным пасяджэннем кіраваў дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта БДУ кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька. На канферэнцыю было прадстаўлена каля сарака навуковых дакладаў. На думку намесніка дырэктара музея Ірыны Мышкавец, найбольш цікавымі сталіся выступленні кандыдата філалагічных навук Міхася Кенькі: "Максім Багдановіч і сучасны мастацкі пераклад"; доктара філалагічных навук Вячаслава Рагойшы: "Беларуская паэзія і творчасць Максіма Багдановіча ва ўзнаўленні Рамана Лубкіўскага"; доктара гуманітарных навук у галіне літаратуразнаўства Юрася Гарбінскага: "Максім Багдановіч і яго творы ў друку беларускай дыяспары на Захадзе, іх тэматыка і жанравы спектр"; кандыдата гістарычных навук Віталя Скалабана: "З гісторыі выдання першага зборy твораў Максіма Багдановіча". Навізной абранай тэмы вылучаўся і даклад Юліі Мацкук: "Пантэізм у творчасці Максіма Багдановіча і Анатоля Сыса".

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

## Сустрэчы

# З прапагандысцкай місіяй

Анатоль Зэкаў — з кагорты тых беларускіх пісьменнікаў, хто, пакінуўшы пасля заканчэння школы сваю малую радзіму, дагэтуль не парывае з ёй сувязі: нярэдка наведваецца ў родную вёску Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна, дзе жывуць бацькі, сустракаецца з землякамі, прэзентуе ім кожную новую кнігу. Ахвотна адгукаецца ён і на запрашэнні мясцовых улад паўдзельнічаць у мерапрыемствах, якія праводзяцца ў раёне.

Паэт — аўтар тэксту гімна Буда-Кашалёўскага аграрна-тэхнічнага каледжа, яго вершаваных радкі высечаны на ўзведзеным у райцэнтры помніку воінам-землякам, загінуўшым у Афганістане. За актыўны ўдзел у грамадскім жыцці раёна Анатоль Зэкаў узнагароджаны Ганаровай граматай райвыканкама, а нядаўна яго старшыня Аляксандр Грыгарэнка і старшыня раённага Савета дэпутатаў Алена Алексіна павіншавалі свайго земляка з 40-годдзем з дня публікацыі ў газеце "Піянер Беларусі" першага верша.

У той роднай зямлі Анатоль Зэкаў наведаў многія раёны Беларусі, аднак завяршыць яго вырашыў усё ж у сваім. І прыехаў на Буда-Кашалёўшчыну з канкрэтнай прапагандысцкай місіяй — падтрымаць у ходзе падпісной кампаніі на 2010 год раённую газету "Авангард", якая дала яму пуцёўку ў журналістыку і літаратуру.

Разам з супрацоўнікамі рэдакцыі, работнікамі ідэалагічнага аддзела райвыканкама і раённага вузла сувязі Анатоль Зэкаў наведаў вёскі Глазаўка і Марозавічы. Падчас сустрэч мясцовых жыхароў асабліва ўразіў той факт, што іх знакаміты зямляк выпісвае раённку нават цяпер, жывучы ў Мінску.

Лізавета ШЫЛАЙ

## Святы

# Міласць і ісціна сустрэнуцца

Учора ў Мінску завяршыў працу традыцыйны праваслаўны кірмаш. Прымеркаваны да свята Раства Хрыстова, ён адкрыўся 27 снежня і знітаваў мінулы ўжо 2009 год і той, што толькі што сустрэлі. Зазвычай у святочныя калядныя дні праходзіць шмат дабрачынных акцый і сустрэч і асаблівая ўвага — да неабароненых насельнікаў і дзяцей. На кірмашы акрамя традыцыйных калядных падарункаў, сувеніраў ды ласункаў багата было і імпрэз з удзелам творцаў. Тут і выставы карцін ды паэтычныя вечарыны, прэзентацыі кніжных навінак і "круглыя сталы". Госці кірмашу змаглі азнаёміцца з выставай карцін мастакоў Беларусі, з фотавыставай Веры Джукіч (Сербія), з экспазіцыяй дзіцячых малюнкаў. Насамрэч, светлае свята Раства зычыць шмат спадзяванняў на тое, што ўсе мы гэтым годам спазнаем шмат лепшага.

У Пасланні з нагоды свята Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, гаворыцца: "І сёння, калі мы ўступілі ў новы год грамадзянскага летазлічэння, мы з радасцю пераконваемся, што шматвекавы летапіс нашага гістарычнага быцця не перарваўся. Ён бачна прысутнічае ў цяперашнім часе, і мы працягваем яго напісанне — тут і цяпер". Насамрэч, 2010 год знакавы для нашай гісторыі, калі аб'ядноўваюцца людзі ўцэркаўлёныя і свецкія, навукоўцы і святары. Сёлета будзе адзначацца 100-годдзе перанясення мошчаў апякункі беларускай зямлі Еўфрасінні Полацкай. І цэнтрам падзей ды святкаванняў стане наш старажытны горад Полацк, дзе шчыравала на ніве асветы наша слынная зямлячка, дзе быў заснаваны скрыпторый і перапісваліся першыя кнігі, дзе ў вядомым на ўвесь свет храме — Сафійскім саборы — збіралася цяпер не менш вядомая Сафійская бібліятэка і дзе складаліся асноўныя прынцыпы унікальнай беларускай школы дойлідства. Пры канцы 2009 года стала вядома, што кінастудыя "Беларусьфільм" плануе стварыць мастацкі фільм пра нашу слынную зямлячку. Ён стане часткай вялікай тэмы нацыянальнага кіно. Цяпер на кінастудыі праектуюцца фільмы з гістарычным падмуркам. Плануецца, што рэалізацыя нацыянальнага кінапраекта пачнецца якраз у 2010 годзе. Не так даўно ў Мінску з'явілася вуліца Еўфрасінні Полацкай, яна размяшчаецца каля праваслаўнага комплексу прыхода іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасць".

Пры канцы мінулага года стала вядома і пра тое, што заснавана Патрыяршая (Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла) літаратурная прэмія імя святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія. Плануецца, што цырымонія ўзнагароджвання лаўрэатаў прэміі будзе прымеркавана да Дня славянскага пісьменства і культуры.

Ірына ТУЛУПАВА

# Прафесіяналізм — на карысць кнізе

## Літ-абсягі

У Мінску прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства гандлярак кнігарань ААТ "Белкніга". Лепшымі ў сваёй прафесіі сталі Ганна Корзун, Тацццяна Гатава і Алена Антонава. Падобныя мерапрыемствы не праводзіліся ўжо працяглы час. Але, як адзначыў дырэктар ААТ "Белкніга" Юрый Хмыроў: "Мы хацелі б, каб гэта быў штогадовы конкурс. Конкурс сапраўды прафесійнага майстэрства". Таму ёсць усе падставы меркаваць пра адраджэнне такога спаборніцтва.



Конкурс праходзіў у Доме кнігі "Светач". Удзел у ім прынялі семнаццаць працаўнікоў гандлю. Яны прадстаўлялі Цэнтральную кнігарню, кнігарні "Вільня", "Жывыя літары", "Кніжная скарбонка", Дом кнігі "Светач", "Далеч", "Кнігачэй", "Кнігарня "Эўрыка", (усе з Мінска), "Спадчына" (Маладзечна), "Кругагляд" (Вілейка), "Крыніца ведаў", "Слова" і "Кнігі" (Барысаў), "Крыніца" і "Жывое слова" (Салігорск), "Кніжны свет" (Жодзіна).

Лепшых у прафесіі вызначала журы, якое ўзначальваў намеснік міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак. Ігар Мікалаевіч у сваім слове падкрэсліў: "Кнігагандлярка — гэта твар кнігарні". А таму гандлярам трэба быць не толькі дасведчанымі, валодаць інфармацыяй пра ўсе кніжныя навінкі, але, што не менш важна, умець з усмешкай сустрэць кожнага пакупніка і прапанаваць яму патрэбную кнігу.

Конкурс складаўся з трох тураў. У першым удзельніцы паказвалі хатняе заданне, падчас якога гучалі вершы, прысвечаныя сваёй прафесіі, кнігарням. Арыгінальным выпрабаваннем для ўдзельніц (а сярод 17 канкурсантак не было ніводнага маладога чалавека) стала праверка іх ведання беларускіх пісьменнікаў у твар. Ім трэба было вызначыць імя літаратара, чый партрэт вісеў на кніжнай паліцы.

У другі тур конкурсу выйшлі дзесяць удзельніц. Ім прапаноўвалася толькі адно заданне —"Аўтар і яго твор". Трэба было назваць пісьменніка і два яго творы па прапанаваных варыянтах адказаў. Па выніках гэтага задання ў наступны, трэці, этап конкурсу выйшлі толькі пяць удзельніц. Далей ад іх патрабавалася толькі ўважлівасць. За непрацяглы час яны павінны былі запомніць імёны дзесяці аўтараў і назвы іх кніжак. Пасля чаго за дзве хвіліны трэба было ўсю інфармацыю запісаць на паперы.

У выніку журы прызавыя месцы размеркавала наступным чынам: 1-е месца — Ганна Корзун ("Кнігарня "Эўрыка", Мінск), 2-е месца — Тацццяна Гатава ("Слова", Барысаў), 3-е месца — Алена Антонава ("Спадчына", Маладзечна). Пераможцы былі адзначаны дыпломамі і памятнымі падарункамі.

Падчас конкурсу адбылася сустрэча з паэткай Валерыяй Куставай.

Павел РАДЫНА

На здымку: пераможца конкурсу Ганна Корзун.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Мастацтва без візаў і межаў



Знікаюць і з'яўляюцца краіны, змяняюцца кіраўнікі, растуць гарады, але мастацтва па-ранейшаму працягвае развівацца на закладзеным продкамі падмурку, які робіць адбітак нават на самыя постмадэрновыя праявы культурнага жыцця. Пацвярджэннем гэтаму стала сумесная выстава прац навучэнцаў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка (Беларусь), Нацыянальнай школы мастацтваў імя Чурлёніса (Літва) і мастацкага ліцэя імя Гротгера (Польшча) у гімназіі-каледжы мастацтваў.

Не трэба быць вялікім знаўцам культуры, каб зразумець, з якой краіны тое ці іншае палатно або скульптура… Толькі глянеш на адметныя, сакавітыя нацюрморты і партрэты, дзіўныя фантастычныя вырабы з керамікі польскіх навучэнцаў — адразу адчуеш сябе ўдзельнікам нейкага неверагоднага балю! Размашыста, ярка, свабодна… Ці не так колькі стагоддзяў таму шыкавала панства Кароны?! Адкуль жа гэтыя тонкія нітачкі гісторыі ў працах юных мастакоў? Вядома, не з падручнікаў. Менталітэт, шаноўнае спадарства!

Шмат кантрастнага ў працах навучэнцаў літоўскай школы. Частка карцін — увасабленне сонечнасці, бескалапотнасці сямейнага жыцця, кахання, радасці чалавечых узаемаадносін. Яны нават выкананы з тканіны, ваўняных нітак, што ўжо само па сабе сімвалізуе ўтульнасць, цяпло. Зусім іншы свет у працах, якія адлюстроўваюць уплыў навукова-тэхнічнага прагрэсу на чалавечую душу. Людзі існуюць у камп'ютэрна-віртуальным жыцці, губляючы сэнс рэальнага. Дамінуючыя колеры ў карцінах на гэту тэму — бела-чорна-чырвоныя. Чорны — безабліччнасць чалавека ў яго высока тэхнічным існаванні, чырвоны — бязлітаснасць, з якой віртуальны свет "забівае" жывы, пачуццёвы, белы — пустата, бессэнсоўнасць ва ўсім…

Своеасаблівы масток паміж польскай пышнасцю і літоўскай кантрастнасцю, псіхалагізмам — гістарычныя працы беларускіх навучэнцаў. Вобразы "сівой даўніны", адлюстраваныя дзіцячай рукой, не ўзвышаюцца над сучаснасцю, не глядзяць на нас зверху ўніз. Яны нібыта побач з намі, унутры нас. Бо мы іх працяг, мы — іх увасабленне ў гэтым свеце.

Калісьці Беларусь, Літва і Польшча былі адной магутнай краінай — Рэччу Паспалітай. Сёння ж на палітычнай карце нашыя тэрыторыі аддзеленыя тонкімі рыскамі адна ад другой. Але, на шчасце, гэтыя рыскі заўсёды знікаюць перад веліччу мастацтва, у якога, канечне, ёсць пашпарт "ва ўсе краіны свету"…

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: адна з работ экспазіцыі.

Фота аўтара

## Повязі

# Супольны навуковы свет

У Варшаўскім універсітэце адбылася чарговая Міжнародная навуковая канферэнцыя "Polsko-białoruskie związki literackie, językowe i historyczno-kulturowe", якая падвяла вынікі даследаванняў у гэтай сферы за апошнія гады. На пленарным пасяджэнні выступіла вядомы прафесар Эльжбета Смулкава, былы пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі з дакладам пра моўную камунікацыю на славянска-балтыйскім памежжы, у якім вялікая ўвага была нададзена беларускім гаворкам.



Узор маладога аптымізму і запалу прадэманстраваў прафесар і паэт у адной асобе А. Баршчэўскі, які працягвае даследаваць эміграцыйную літаратуру. Два дактары з Беларусі, М. Тычына і аўтар гэтага допісу, вялі гаворку пра творчасць А. Разанава ў славянскім і агульнаеўрапейскім кантэксце.

Затым праца канферэнцыі працягвалася ў трох секцыях: літаратуразнаўчай, мовазнаўчай і гісторыка-культуразнаўчай. Маладыя вучоныя Г. Гурскі і М. Вайцяхоўская з Варшавы выразна па-новаму прачыталі беларуска- і польскамоўную спадчыну Янкі Лучыны (Яна Неслухоўскага). Хораша раскрыты адметнасці спадчыны У. Караткевіча, а таксама ўспрыманне творчасці Янкі Купалы ў Польшчы на пераломе XX — XXI стагоддзяў (І. Рудзевіч з Ольштына) і аналіз польскай ды беларускай лагернай літаратуры (Р. Хжан з Вроцлава). Як заўсёды, надзвычай глыбокім і доказным было выступленне прафесара М. Хаўстовіча, аднаго з галоўных даследчыкаў літаратуры XIX ст. Таксама прагучалі паведамленні ўдзельнікаў канферэнцыі з Беларусі П. Навойчыка, М. Хмяльніцкага, І. Бурдзялёвай, З. Тычыны.

У секцыі гістарычна-культуразнаўчай выступілі даследчыкі з Варшавы, Любліна, Гданьска, Беластока, Гродна і Мінска. Разглежданы актуальныя праблемы сумеснай гісторыі. Цікава ўспрымаліся даклады пра культурны кантэкст драматычнай паэмы "Барбара Радзівіл" Р. Баравіковай (Б. Сівек), беларускае бачанне народных звычаяў пра жыццё пасля смерці ў творчасці А. Міцкевіча (М. Завадска), час і прастору ў беларускіх і ўкраінскіх калыханках (І. Дарафейчук).

Секцыяй мовазнаўства кіравала прафесар Ніна Баршчэўская, якая нядаўна ўзначаліла кафедру беларутэнікі Варшаўскага універсітэта. Яна ж выступіла з цікавым паведамленнем пра дзейнасць беларускіх асветнікаў у інтэрпрэтацыі дзеячаў эміграцыі.

У выступленнях калег з Польшчы былі прааналізаваны моўныя асаблівасці Кітаба Яна Лебедзя (др. пал. XVIII ст.), семантычны склад айконімаў Гродзенскай вобласці (адпаведна В. Старасціна і В. Трацяк з Варшавы), адметнасць беларускіх народных казак у славянскім кантэксце (В. Ляшук са Славакіі), памылкі ў пісьмовых тэкстах беларусаў, якія вучаць польскую мову (Р. Калета). Доказна і пераканаўча абгрунтаваў сваю канцэпцыю правіл перадачы на пісьме галосных у новым беларускім правапісе Уладзімір Куліковіч, які зрабіў прэзентацыю новай уласнай кнігі па гэтай праблеме.

Іван ШТЭЙНЕР,
доктар філалагічных навук

На здымку: удзельнікі канферэнцыі.

Фота аўтара

## 3-пад пяра

Часопіс "Вясёлка" — верны сябар нашых дзяцей. Мастацкім беларускім словам выданне вучыць чытачоў любіць сваю Айчыну, шанаваць родную мову, паважаць людзей, якія выводзяць іх на правільны шлях жыцця. Калектыў рэдакцыі ладзіць для дзятвы разнастайныя сустрэчы і мерапрыемствы. Так, нядаўна ў многапрофільным культурна-спартыўным комплексе "Мінск-Арэна" адбылася адметная падзея — спартыўнае свята дзяцей "Чэмпіён "Вясёлкі". Удзел у ім бралі спартыўныя, мужныя, вясёлыя, кемлівыя хлопчыкі 3 — 4 класаў з усіх дзевяці раёнаў Мінска і з Дзяржынскага раёна. Яны змагаліся за права называцца "Чэмпіёнам "Вясёлкі" па 12 відах спорту: фехтаванне, вольная барацьба, бокс... Сярод конкурсаў былі "Самапрэзентацыя", "Урывак з часопіса", "Мастацка-спартыўны нумар".

Гасцей і ўдзельнікаў незвычайнага свята віталі прадстаўнікі творчых саюзаў, улад, прафесійныя і самадзейныя артысты, алімпійскія чэмпіёны, майстры спорту.

А прызы і падарункі пераможцам конкурсу ўручалі ад прадстаўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта нашай краіны па горадзе Мінску, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага дзіцячага фонду, а таксама кампаніі "Свет мёду і здароўя" і часопіса "Вясёлка".

Віктар ЗАЯЦ

Нагодай для запрашэння паэтэсы Валянціны Паліканінай на сустрэчу з чытачамі, вучнямі сталічных сярэдніх школ № 170 і № 213, якая адбылася ў Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы, стала ўзнагароджванне літаратара "Залатым купідонам" па выніках рэспубліканскага конкурсу "Лепшы твор года" на Дні беларускага пісьменства ў Смаргоні.

Са слоў В. Паліканінай, трэба прыкласці нямала душэўных намаганняў, каб знайсці кантакт з аўдыторыяй, асабліва моладзевай. Часта бываючы на сустрэчах з паэтамі, упершыню пачула, як на пытанне Валянціны Пятроўны: "Дзеці, можа, хто-небудзь з вас складае вершы? Калі так, дык пачытайце", падняўся дзевяцікласнік Жэня Чарнышоў і ўпершыню ў сваім жыцці публічна прачытаў тры свае вершы.

Увогуле, сустрэча праходзіла ў цёплай і сардэчнай абстаноўцы. В. Паліканіна чытала свае вершы, адказвала на пытанні цікаўнай дзятвы.

Людміла ДУБРОЎСКАЯ

Пры канцы снежня ў абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылася прэзентацыя зборніка "Срэбны блюз" сяброў абласнога народнага клуба самадзейных паэтаў і кампазітараў "Жывіца", выданне якога было прымеркавана да 70-годдзя ўтварэння Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

Укладальнік кнігі, якая складаецца з двух частак: паэтычнай і музычнай, дзе змешчаны вершы і песні на беларускай і рускай мовах, — кіраўнік клуба "Жывіца" Ірына Карнаухава. Фінансавую падтрымку выданню аказалі кіраўнікі прадпрыемстваў горада Заслаўя (А. Карабінскі, В. Камар, А. Смурага, У. Шашлевіч, М. Харытончык), Мінска (А. Хургель, Ю. Кручковіч, Т. Кальцова, В. Буйкевіч), Вілейкі (У. Пінчук), а таксама жыхар Узды (А. Сташэўскі).

Распачала прэзентацыю сябра Нясвіжскага раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі" Жанна Левітан вершам "Срэбны блюз", назва якога і стала загалоўкам для ўсяго зборніка і які гучаў на фоне вальса стаўбцоўскага кампазітара Яўгена Карпуця.

Валянціна ШЧАРБАКОВА





# Дэпутату цяжэй, чым акцёру

Народны артыст Беларусі Генадзь Давыдзька працаваў і акцёрам, і рэжысёрам, і дырэктарам тэатра. Сёння ён намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі, шоумен і тэлевядучы (праграмы "Жарсці па культуры", "Беларуская часінка" на тэлеканале "Лад"). Але творчасць яго не адпускае. Вось і ў снежні на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага адбылася прэм'ера спектакля для дзяцей "Зоркі сёмага неба", пастаўленага Генадзем Давыдзькам паводле яго п'есы.

— Ці не сумуеце па сцэне, Генадзь Браніслававіч?

— Не. Маё захапленне тэатрам перайшло ў больш спакойную стадыю, сцішылася. Сёння я стаўлю спектаклі ў тэатры, а значыць рэалізую сябе і як акцёр, і як рэжысёр. Акцёрствую і ў кіно. Канечне, гэта нейкія маленькія ролі, эпізодыкі, але мне хапае…

— Вы значны час былі дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, няўжо не сумуеце?

— Тут іншая справа… Я вельмі люблю Купалаўскі. Гэта мой другі дом. Да мяне там вельмі добра ставяцца. Праўда, ніхто не крыўдуе, што я сышоў. Але, калі прыходжу ў тэатр, адчуваю сябе ніякавата. Неяк тужліва мне там. Гэта адчуванне мужчыны, які кінуў сям'ю, а потым зразумеў, што сям'ю ён вельмі любіць. Ён вяртаецца назад, а там — ужо іншы, новы муж… Разумееце, пра што я?.. Пэўная настальгія, безумоўна, ёсць.

— Вас задавальняе сённяшні ўзровень пастановак?

— Сапраўды, трэба нешта мяняць. Тэатр — жывая істота, якая павінна ўвесь час развівацца. Калі шмат гадоў паўтараецца адно і тое ж, гэта робіцца ўжо нецікавым. Я калісьці спрабаваў змяніць тэатр, падаваў нават рэвалюцыйныя ідэі, хоць сам больш люблю рэфарматараў. Выступаў за тое, каб у беларускім тэатры зусім не было штатных рэжысёраў. На мой погляд, павінна існаваць кніга — энцыклапедыя рэжысёраў Беларусі, а ў трупе патрэбны мастацкі кіраўнік, які разумее канцэпцыю тэатра, адчувае яго месца ў краіне, ён і будзе вызначаць, чаго не хапае ў рэпертуары, што хацелі б пабачыць гледачы. Напрыклад, калі патрэбная класіка — бярэ кнігу рэжысёраў Беларусі, гартае: ага, вось гэты падыходзіць. Тэлефануе, дамаўляецца і ставіць спектакаль ужо ў новым рэчышчы з новым рэжысёрам. І ў Інтэрнэце рэжысёры могуць змяшчаць свае прапановы: што б яны хацелі паставіць. Тады і трупе было б цікавей, і гледачу. А калі рэжысёр працуе ўжо 30 гадоў, ставіць 10-ы, 20-ы спектакль, ды з аднымі і тымі ж акцёрамі, ён не развіваецца. Паўторы, штампы, паўторы… Вельмі надакучвае. А, можа, я і не маю рацыі, можа, трэба так усё і пакінуць? Але гэта ж маё асабістае меркаванне.

— Але ж вы "не разышліся" з тэатрам?

— Я пішу п'есы. У горкаўскім тэатры, напрыклад, адбылася прэм'ера маёй казкі для дзяцей "Зоркі сёмага неба". Адна з папярэдніх прэм'ер — антрэпрызны мюзікл "Байкер" кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча. Цудоўны спектакль атрымаўся. Мы рабілі гэты праект такім чынам, каб трупа і ўсе дэкарацыі маглі змясціцца ў адзін невялічкі аўтобус. Хацелі, каб пастаноўка была мабільная, каб магла па свеце вандраваць. Можна сказаць, я душу ў спектакль уклаў, але пракат не атрымаўся. Не ўсё так проста, як падаецца... Непаразуменне ў творчым складзе... На жаль, сёння ў нас няма сапраўдных тэатральных прадзюсераў — праз гэта ўсе праблемы. Такія людзі павінны ўмець прадаваць "тавар", прыцягваць гледача. Летась я быў у Японіі. Прывёз адтуль вялізную кнігу "Стратэгія японскага кінематографа па заваёве сусветнага кінарынку". Большая частка гэтай кнігі адведзена не рэжысёрам і акцёрам, а дзейнасці прадзюсераў. Прадзюсер сёння — галоўная фігура ў мастацтве. Ён адказвае за праект цалкам, правільна акумулюе грошы. Ёсць выдатны прадзюсер — будзе цудоўны твор мастацтва.

— Дзе ж узяць добрых прадзюсераў?

— Трэба вучыцца, наладжваць кантакты з самымі моцнымі і буйнымі навучальнымі ўстановамі на Захадзе і накіроўваць туды людзей здольных, якія ўжо крыху паказалі сябе ў гэтай справе. Ёсць у нас шэраг законаў, якія так рэгулююць прадзюсерства, што проста... забіваюць яго. Няма магчымасці вучыцца на замежным вопыце, няма пэўнай свабоды. Трэба прымаць закон пра тэатр!..

— Кім для вас быць цяжэй: акцёрам ці дэпутатам?

— Ну, вядома, дэпутатам. За акцёра ўсе словы — напісаныя. Ён ведае, што сказаць, як сказаць, дзе сказаць. Адзіны акцёрскі клопат — як мага лепей выканаць волю рэжысёра. Як кажуць, зрабіць так, каб роля аж зайграла. У дэпутата ўсё інакш. На ўсе пытанні, з нагоды якіх у акцёра ўжо ёсць адказы, ты павінен адказваць сам. Перад тым як што-небудзь сказаць, кожнае слова трэба добра абдумаць. Бо калі што не так, дык потым столькі абраз у Інтэрнэце напішуць, проста жах! Выцягнуць фразу з кантэксту, якую можна трактаваць і так, і сяк, дый каментуюць на свой лад. Не спрачацца ж з імі!.. У свой час пачаўшы працаваць дырэктарам Купалаўскага тэатра, першае, што зразумеў — калі я буду заклапочаны тым, што пра мяне гавораць, дык не змагу ісці наперад, не змагу кіраваць. Вось у такіх сітуацыях самая галоўная мая мэта — абстрагавацца. Як мага меней да ўсяго пабочнага прыслухоўвацца.

Працаваць на тое, каб табе апладзіравалі, — не для мяне...

— Ці шмат часу заканадаўцы аддаюць праблемам культуры?

— Шмат. Стаўленне да культуры ў нашай краіне вельмі добрае, у тым ліку і з фінансавай пазіцыі. Новы малады, перспектыўны міністр Павел Латушка шмат робіць для культуры. Нельга сказаць, што эканамічны крызіс моцна націснуў на гэтую галіну. Дый дзяржава не павінна зарабляць на культуры — гэта тое ж самае, калі бацька зарабляе на прыгажосці сваёй дачкі.

Я нядаўна быў у Парыжы, там дзяржаўны лозунг — культура, а потым эканоміка. Бо культура развівае эканоміку, а не наадварот.

Гутарыў Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота аўтара

# Нацыянальная скарбніца ў сусветным сеціве



У краіне шырока абмяркоўваецца праграма развіцця культуры Беларусі на 2011 — 2015 гг. Адным з яе кірункаў можа стаць стварэнне Нацыянальнай электроннай бібліятэкі. Яе канцэпцыя распрацоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Пачаткам працы могуць стаць рэдкасныя CD-дыскі з лепшымі творамі класікаў беларускай літаратуры. Наш суразмоўца — дырэктар галоўнай кніжнай скарбніцы краіны Раман МАТУЛЬСКІ.

— Можна казаць, што нашай бібліятэкай створаны шэраг электронных бібліятэк, выдадзеных асобнымі дыскамі. Там ужо больш як 40 тысяч самых розных дакументаў — і старажытных, і сучасных. І калі мы вядзём гаворку пра развіццё інфармацыйнай прасторы з пункта гледжання інтэграцыі ў яе і бібліятэчнай справы, то неабходна сёння гаварыць пра дзве дзяржаўныя праграмы — канцэпцыю праграмы "Культура" і канцэпцыю "Праграмы развіцця інфармацыйнага грамадства ў Рэспубліцы Беларусь" на наступную пяцігодку (часцей яе называюць "Электронная Беларусь"). Падпраграмай у іх павінна ўвайсці праграма стварэння Нацыянальнай электроннай бібліятэкі.

— Раман Сцяпанавіч, электронная бібліятэка, так бы мовіць, будзе трансляваецца на ўвесь свет. І наш гонар — паказваць беларускія культурныя каштоўнасці. Відаць, размова тут найперш — пра нашы фаліянты, рэдкія выданні, якія маюцца ў фондах?

— Зразумела, нельга ўявіць сабе беларускую культуру без слова класікаў беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча. Немагчыма, гаворачы пра нашу нацыянальную адметнасць, не паказаць свету беларускую літаратурную спадчыну. Мы маем ужо, да прыкладу, электроннае выданне бібліятэкі Храптовічаў. Гэта матэрыялы па гісторыі існавання бібліятэкі Храптовічаў у Шчорсах — аднаго з буйнейшых прыватных кніжных збораў Беларусі XVIII — XIX стст. Некалькі выдатнейшых дыскаў выдадзена сёлета, назаву некаторыя з іх. "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай…": дыск да 170-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. "Запаветны напеў, запаветная даль… Белавежская пушча". Гэта мультымедыйнае выданне прысвечана 600-годдзю ўстанаўлення запаветнага рэжыму ў Белавежскай пушчы, адным з буйнейшых лясных масіваў Еўропы. Альбом "Radziviliana": дакументальныя помнікі з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі: іканаграфія Радзівілаў". Гэтае выданне — паўнатэкставая электронная копія знакамітага альбома гравюр, надрукаванага ў 1875 годзе, з партрэтамі роду Радзівілаў. Альбо "Слуцкае Евангелле. Беларускі рукапіс XVI ст.", дзе сабраныя матэрыялы сумеснага навуковага праекта Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. І яшчэ адзін дыск гэтай жа серыі — "Radziviliana" выдадзены быў крыху раней. У яго ўвайшлі дакументальныя помнікі з фондаў нашай бібліятэкі. Гэта выданні XVII — XVIII стст. прадстаўнікоў роду Радзівілаў: знакамітага твора Мікалая Хрыстафора Сіроткі "Перегринация" на лацінскай, польскай і рускай мовах, "Камедыі і трагедыі" Урсулы Радзівіл. Акрамя тэкстаў, на дыску змешчаны навуковыя артыкулы па гэтых творах. DVD-ROM "Жыве паміж намі дудар наш…" прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння паэта, драматурга, класіка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Яго юбілей адзначаўся ў 2008 г. пад эгідай ЮНЕСКА. Рэдкасны экземпляр для навукоўцаў — каталог "Інкунабулы. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі". А яшчэ мы маем унікальны дыск "Спадчына Напалеона Орды" — дзе наш зямляк прадстаўлены як кампазітар, мастак, педагог, грамадскі дзеяч. Можна назваць яшчэ хрэстаматыю "Электронная бібліятэка — школьнікам", каталог "Кніга Беларусі 1517 — 1917". Уявіце: аналізуецца кнігавыданне на працягу 400 год!

Пра нашы скарбы павінны ведаць і ў іншых краінах таксама! Самы просты шлях сёння — праз электронную бібліятэку.

Мы цяпер працуем у праекце "Сусветная электронная бібліятэка". Зрабілі першую падборку і спадзяёмся, што хутка ў гэтай сусветнай бібліятэцы будуць прадстаўлены беларускія выданні, беларускія творы. Сёлета Нацыянальная бібліятэка Беларусі далучылася да міжнароднай электроннай бібліятэкі манускрыптаў. І гэта выдатна, што сёння маецца магчымасць далучэння да сусветнай кніжнай спадчыны. Якраз у гэтым краіны, і праўда, не павінны мець межаў. Бо, калі мы гаворым пра кнігу — гаворым пра духоўнасць. І няхай яна пашыраецца!

Але тэма электроннай бібліятэкі — складаная не толькі з публіцыстычнага, а і з навуковага пункта гледжання. На маю думку, у электроннай бібліятэцы павінна быць так званая нацыянальная бібліяграфія. Гэта значыць, пералік усіх выданняў, рукапісаў і г.д., якія былі створаны на беларускай зямлі беларусамі з таго часу, як яны сябе самі памятаюць, і да сучаснага дня. Гэта велізарная праца, і яна неабходна з пункта гледжання прафесіянала.

— Чытачу ж, зразумела, хочацца, каб былі поўныя літаратурныя тэксты.

— І тут трэба каардынацыя намаганняў не толькі супрацоўнікаў нашай бібліятэкі і іншых кніжных скарбніц, а і сумежных арганізацый, міністэрстваў і ведамстваў. У першую чаргу — Міністэрства інфармацыі Беларусі, Нацыянальнай кніжнай палаты, выдавецтваў — для таго, каб сумесна мы маглі ствараць інтэграваны інфармацыйны рэсурс.

Мы з Нацыянальнай акадэміяй навук працуем вельмі шчыльна, асабліва з інстытутамі гісторыі і мовы і літаратуры. Супрацоўнічаем і з Нацыянальным інстытутам інфармацыйных рэсурсаў і тэхналогій. Філолагі, літаратуразнаўцы, гісторыкі будуць працаваць разам з намі над стварэннем самога рэсурса — у плане падборкі, адбору навуковых каментарыяў. Бо на дысках зазвычай — не толькі тэксты, а і навуковыя, крытычныя артыкулы да іх.

— Раман Сцяпанавіч, электронная бібліятэка — гэта адзін з кірункаў, хоць і вельмі важны. Але бібліятэкі маюць і шмат іншых клопатаў — па пашырэнні чытацкай аўдыторыі, павелічэнні абарачальнасці фондаў.

— Нам неабходна памятаць: калі сёння разважаюць пра кнігі і бібліятэкі — разважаюць пра духоўнасць. І гэта зразумела: кніга — сама духоўная каштоўнасць і ўтрымлівае сістэму каштоўнасцей. Але яна мае і матэрыяльны бок. Пры стварэнні электроннай кнігі ён асабліва важны. Мы ў праграму ўключылі раздзел, які павінен падняць матэрыяльны ўзровень бібліятэк. Не толькі звярнуць увагу на будынкі, якія, бясспрэчна, павінны быць утульнымі, ветлымі і цёплымі. Але і каб існавалі лініі сувязі — гэта і камп'ютэрнае абсталяванне, і спецыялісты, якія здольныя будуць карыстацца тымі інфармацыйнымі рэсурсамі, якія мы створым і якія маюцца ў свеце.

Яшчэ адзін кірунак — гэта навукова-даследчая праца. Мы выйшлі з прапановай на наступныя 5 гадоў з распрацоўкай такой тэмы, як развіццё кніжнай культуры і бібліятэчнай справы на Беларусі ў X — XXI стст. Неабходна высветліць усю нашу гісторыю, нашы каштоўнасці, тэндэнцыі і асаблівасці і на гэтым падмурку будаваць сваю будучыню — кніжную культуру і бібліятэчную справу. Сярод іх ёсць такія цікавыя праекты, як "Скарыніяна" — да 500-годдзя выдання першай кнігі Францыскам Скарынам. Маюцца планы па ўзнаўленні цэлага шэрага кніжных калекцый Радзівілаў, Сапегаў і іншых знаных беларускіх родаў. Каб зрабіць іх даступнымі шырокаму колу не толькі беларускіх, але і замежных чытачоў. Калі даць магчымасць нашым партнёрам у эканоміцы, палітыцы зразумець, якім велізарным духоўным багаццем валодае Беларусь, то зразумела, супрацоўніцтва і па іншых кірунках пойдзе лягчэй.

Паўтару: мы ўжо маем каля 40 тысяч выданняў у электронным выглядзе. Колькі такіх рэсурсаў будзе яшчэ — будзе залежаць ад узроўню фінансавай і тэхналагічнай падтрымкі такіх праектаў. Таму што на самай справе яны вельмі дарагія. Напрыклад, на стварэнне еўрапейскай лічбавай бібліятэкі Еўрасаюз штогод траціць сотні тысяч еўра. Зрабіць яе на энтузіязме немагчыма.

Што да пашырэння чытацкай аўдыторыі, то яно магчыма, на маю думку, не за кошт традыцыйнай выдачы дакументаў — хаця я якраз прыхільнік традыцыйнай кнігі, а ў першую чаргу — за кошт стварэння і выкарыстання створаных электронных рэсурсаў наведвальнікамі як у бібліятэках невялічкіх мястэчак і сёл, так і ў сябе дома праз бібліятэчную сетку.

А для таго, каб павялічыць кнігавыдачу, неабходна яшчэ больш раптоўна і істотна павялічыць паступленні новай літаратуры ў фонды бібліятэк. Гэта справа нялёгкая і не хуткая. Па той простай прычыне, што яна вельмі дарагая.

Гутарыла Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

# Вёз боепрыпасы да перадавой…

## Эпізоды Вялікай вайны

Кастрычнік суровага 1943 года. Гітлераўцы пакідалі захопленыя землі, вызвалены першыя беларускія гарады: Хоцімск, Касцюковічы, Клімавічы… Але вораг яшчэ моцны. Упарта чапляецца за водныя перашкоды: балоцістую раку Проня перитварыў у сапраўдную крэпасць сваёй абароны. Адступаючы, немцы ўзрывалі масты і мініравалі дарогі. На падмогу арміі прыйшло мірнае насельніцтва. Услед за наступаючым войскам пацягнуліся конныя абозы. Да перадавой везлі боепрыпасы, лес, будаўнічыя матэрыялы.



І мне прыйшлося быць удзельнікам усенароднай дапамогі фронту.

Тады мне было 14 з паловаю гадоў. Бацька і двое старэйшых братоў ваявалі. Маці памерла ў сакавіку сорак першага, мы засталіся ўтрох: старэйшая сястра Зіна, я і малодшая Марыйка. Зіна ўзяла на сябе клопаты маці. Калі я запрагаў свайго Орліка і на два-тры дні, а то і на тыдзень выпраўляўся ў лес, яна плакала.

Мы нарыхтоўвалі сасновыя хлысты. Мне адводзілася роля сучкасека. Паравалі падводы, грузілі на іх дзесяціметровыя бярвенні і везлі да месца прызначэння — да ўзарваных фашыстамі мастоў праз рэкі Іпуць, Бесядзь і Асцёр…

У самым пачатку кастрычніка з вёскі Макеевічы выехаў конны абоз у дзесяць фурманак. На чыгуначнай станцыі Шасцёраўка нас сустрэлі ваенныя і загадалі адвезці скрыні з боепрыпасамі на перадавую, яна праходзіла па рэчцы Проня.

На захадзе сонца спыніліся ў вёсцы Кісялёва Буда. Жудаснае відовішча: уся вёска ў папялішчы, коміны пячэй, быццам чорныя буслы. І толькі наводшыбе — ацалелая вулачка. Знайшлі начлег. Мясцовыя жыхары ахвотна ўзялі нанач. Тройка павозак з Орлікам заехала на шырокі падворак. Вароты адчыніў каржакаваты, з акладзістай сівой барадой мужчына. Назваўся дзедам Арцёмам. Распраглі коней, прывязалі да калёс. У хаце за вялікім сталом сядзелі трое чырвонаармейцаў-сапёраў. Гаспадыня паставіла на стол чыгунок з бульбай і міску квашаніны, запрасіла да стала.

Якой смачнай была тая простая сялянская ежа. Яна і зараз мне помніцца…

Калі ўладкаваліся спаць на падлозе, дзед Арцём расказаў, што задоўга да адступлення немцкія карнікі ў Мілаславічах учынілі сапраўдны пагром яўрэям. Іх выгналі з хат і пад дуламі аўтаматаў загадалі капаць магілу. Дарослых забівалі на месцы, а дзяцей хапалі за рукі-ногі і жывымі кідалі ў яму.

Адступаючы, фашысты гналі перад сабой мірнае насельніцтва.

Я ведаў, што жыхары нашай вёскі ўцяклі ў лес разам з хатняй жывёлай. Вярнуліся практычна ў мёртвае паселішча толькі з прыходам Чырвонай Арміі.

"Не доўга застаецца ворагу хадзіць па нашай зямлі", — ужо засынаючы, пачуў я.

Раніцай абоз рушыў у дарогу. Да Крычава дабіраліся ўвесь дзень. Каля пераправы нас спыніў салдат-рэгуліроўшчык: "Прытрымаць лейцы, гужавая пяхота! — з гумарам скамандаваў ён, — дарогу маторам!". Загрукалі гусеніцы танкаў, праехалі аўтамашыны. І толькі пасля, фыркаючы ноздрамі, працавалі нашы коні. З моста завярнулі ў бок да вайсковай часці. Там вячэралі. Раптам чуем каманду: "Эй, землячкі! Налятай на салдацкую кашу!".

Усталі на досвітку і зноў у дарогу. Крычаў застаўся ззаду. Да Проні — рукой падаць. Прыбліжалася прыфрантавая паласа. Выразней чуліся стрэлы гармат і перастук кулямётаў. Стала халаднавата. Прагучала каманда старшага абоза, майго хроснага бацькі: "Спыніць абоз! — падышоў да мяне і гаворыць, — да хаты паедзеш! Ты зусім босы, і няма чаго ногі ў сена хаваць". Я ледзь не заплакаў. Але хросны быў няўмольным: "Орлік — конь разумны, дарогу знойдзе, толькі будзь асцярожней, каб не панёс чаго-добрага".

Прыкра. Да слёз балюча. Але што зробіш… Еду назад. Радаваўся, што Орлік быў на дзіва прыцішаны. Пераехаў пераправу і перад маімі вачамі разгарнулася нядаўняе поле бою. Смярдзела гарэлым машынным маслам і порахам. Паўсюль валяліся падбітыя танкі, перакарожаныя самаходкі і аўтамашыны. Сярод жалезных нагрувашчванняў ляжала адзінокая павозка ўверх коламі з забітым канём, які нечым нагадваў Орліка. А недалёка — мёртвая аўчарка з воўчым ашчэрам. І я быццам заглянуў у жудасныя вочы вайны.

Здранцвенне прайшло, калі раптам заўважыў, што мой Орлік стаіць. Якраз каля варот двара, дзе мы начавалі. Дзверы адчыніў ужо знаёмы дзед Арцём: "Во, унучак! А ты чаму адзін, дзе ж астатнія?" — што я мог адказаць на яго словы? Але глянуўшы на мае босыя ногі, ён і сам, пэўна ўсё зразумеў…

І ноччу ў той хаце мне сніўся Орлік. Ён вёз мяне праз дымнае, скарожанае боем поле ў краіну шчасця, дзе спявалі птушкі, красаваліся кветкі і ярка свяціла цёплае, ласкавае сонца.

Тую дарогу я памятаю і цяпер. Помню і свайго слаўнага Орліка, які падарыў мне радасць дзяцінства і назаўсёды застаўся са мною.

Дзякуй табе, Орлік, слаўны канёк майго далёкага ваеннага дзяцінства!

Аляксей КАРАЛЁЎ



# Асяродак класічнай культуры

Сённяшні госць "ЛіМа" — Нэлі МАЦАБЯРЫДЗЕ, кандыдат мастацтвазнаўства, мастацкі кіраўнік Віцебскай абласной філармоніі, загадчык кафедры тэорыі музыкі і музычнага інструмента Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава. Нэлі Вячаславаўна распавядзе пра некаторыя аспекты сваёй работы.

— На педагагічным факультэце мы імкнёмся захоўваць традыцыі тых часоў, калі факультэт яшчэ зваўся музычна-мастацкім (перайменавалі каля пяці гадоў таму). Існавала сапраўдная садружнасць мастакоў і музыкантаў. Увогуле, у будынку, дзе ўжо больш як пяцьдзесят гадоў месціцца факультэт, заўсёды вітала ідэя вольнай творчасці, бо раней тут было мужчынскае духоўнае вучылішча.

Цяпер тут паўнапраўныя гаспадары — музыканты. На факультэце працуюць дзве кафедры: тэорыі музыкі і музычнага інструмента, харавога дырыжыравання і вакалу. Педагогі — сапраўдныя прафесіяналы, энтузіясты сваёй справы. Мы, так бы мовіць, працуем і развіваемся насуперак усяму. Асабліва пры цяперашніх умовах, калі больш папулярная маскультура, а не класіка.

У большай ступені я мастацтвазнаўца, і душа мая ляжыць бліжэй да чыстага мастацтвазнаўства, чым да педагогікі. Увогуле, культурнае жыццё нашага горада вельмі насычанае. Рэпертуар абласной філармоніі ўлучае як замежныя, так і творы беларускіх кампазітараў. Справа ў тым, што дзейнасць філармоніі арыентавана на праграмы. На жаль, мы, як нацыя, мякка кажучы, вельмі шчодрыя: "раздорваем" нашых славутых кампазітараў, мастакоў, пісьменнікаў усім нашым суседзям: Польшчы, Літве, Расіі… Няма ў нас сваіх пракокаў.

Акрамя ўсяго, вяду курс беларускай музыкі, які сама распрацавала. У мяне была ідэя зрабіць гістарычны панарамны канцэрт, але ў чыстым выглядзе ён наўрад ці будзе запатрабаваны. Можа, гэта быў бы лекторый, пачынаючы з Радзівілаўскай эпохі, пра полацкі сшытак, музыку розных знакамітых асоб Беларусі і заканчваючы сучаснай беларускай музыкай, якая вельмі цікавая, шматгранная, разнажанравая.

У філармоніі жыццё даволі складанае, але мы прытрымліваемся адзінага напрамку — мы асяродак, у першую чаргу, класічнай культуры. У нас выдатны будынак, шыкоўныя інструменты, спецыяльна заказаны для філармоніі канцэртны арган. На ім можна іграць любую музыку: ад старажытнай да сучаснай. Ёсць арганны абанемент, запрашаем выканаўцаў разнастайных нацыянальных арганных школ. Раз на месяц праводзім абавязковы абанементны канцэрт. Да слова, адзін з галоўных кірункаў працы філармоніі — дзіцячае выхаванне. У нас таксама існуюць для дзятвы абанементы выхаднога дня.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Нэлі Мацабярыдзе.

Фота аўтара

# Востраў у лабірынце горада

У Слуцку распрацавалі праграму па падтрымцы і прапагандзе дзіцячага чытання. Ужо 60 гадоў вясёлыя галасы гучаць у прасторных залах Слуцкай гарадской дзіцячай бібліятэкі. Увесь гэты час бібліятэкары праз кнігу нясуць у грамадства веды, святло высокіх гуманных ідэалаў.

Магчыма нехта думае, што ў дзіцячай бібліятэцы пануе цішыня і пакой. Але гэта не пра нашу ўстанову.

Наша бібліятэка — востраў дабрыні і мудрасці. Востраў, дзе кожны дзень напоўнены незвычайнымі прыгодамі, загадкамі, новымі ведамі і сустрэчамі.

Пачалося ўсё яшчэ ў далёкім 1949 годзе, калі для дзяцей выдзелілі фонд дзіцячай літаратуры.

Цудоўны інтэр'ер, вятлівыя супрацоўнікі, багаты фонд літаратуры на розныя густы. Колькі дзяцей Слуцка прайшло праз гэтыя залы! І праз гады нашы чытачы зноў вяртаюцца сюды ўжо са сваімі дзецьмі.

У свой час супрацоўнікі бібліятэкі пайшлі на эксперымент і арганізавалі летні адпачынак школьнікаў. І не проста занялі дзяцей цікавымі кнігамі, а вучылі многае рабіць сваімі рукамі. Пачалі працаваць гульнятэка "Каб ніхто не сумаваў", мультыклуб "Вясёлая карусель".

А па праграме летняга чытання "Лета. Кніга. Бібліятэка" мы працуем ужо 15 гадоў. Тэматыка летняга чытання кожны год змяняецца, але ў аснове заўсёды — ідэя выхавання праз кнігу.

Апошнім часам шмат працуем па падтрымцы прэстыжу мастацкай літаратуры ў грамадстве, павышэння ўзроўню адукацыі дзяцей і падлеткаў, стварэння вобраза чытання як карыснага і моднага занятку. Мы распрацавалі праграму па падтрымцы і прапагандзе дзіцячага чытання ў горадзе і Слуцкім раёне "Чытаем разам" на 2008 — 2012 гады.

Прычынай для яе распрацоўкі паслужылі сацыяльнае даследаванне "Юны чытач нашага горада ў кантэксце часу" і ўдзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Дзеці. Чытанне. Грамадства." у 2007 г.

Вынікам работы бібліятэкі па праграме сталі майскія Віткаўскія чытанні, прысвечаныя памяці нашага славутага земляка Васіля Віткі, класіка беларускай дзіцячай літаратуры. Ужо прайшлі 1-я і 2-я Віткаўскія чытанні.

Слуцкая дзіцячая бібліятэка не змагла ў сваёй працы абмінуць такі глыбокі пласт, як краязнаўства. Краязнаўчы праект "Слуцк — валошка ў вянку Беларусі" закліка790 выхоўваць у чытачоў гонар, павагу да роднай мовы, да Радзімы, вучыць любіць і паважаць свой край, фарміраваць прывабны імідж чытання беларускай літаратуры.

У выніку краязнаўчы праект "Слуцк — валошка ў вянку Беларусі" на XVI рэспубліканскім конкурсе "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры" ў намінацыі "За значны ўклад у выхаваўчую работу з падрастаючым пакаленнем" заняў першае месца.

Наогул 2008 год стаў адметным у жыцці бібліятэкі.

Занялі першае месца на IV абласным аглядзе-конкурсе на лепшую пастаноўку работы бібліятэк па экалагічнай асвеце і інфармаванню насельніцтва ў намінацыі "Лепшая гарадская і раённая бібліятэка".

Атрымалі дыплом аддзела культуры райвыканкама за актыўную творчую работу па арганізацыі дасуга дзяцей і падлеткаў у перыяд летніх школьных канікул, плённую працу па павышэнні прэстыжу чытання сярод навучэнцаў і ў сувязі з 15-годдзем з дня рэалізацыі доўгатэрміновай праграмы "Лета. Кніга. Бібліятэка.".

Бібліятэцы прысуджаны дыплом у намінацыі "Бібліятэчная справа" Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

Дыплом пераможцы спаборніцтва ў намінацыі "Лепшая бібліятэка года" Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.

Напярэдадні юбілею мы з гонарам пералічваем свае дасягненні! Што ўяўляе сабой дзіцячая бібліятэка сёння? Бібліятэчны фонд складае каля 70000 экземпляраў, 82 дыскі. Бібліятэка атрымлівае 96 назваў перыядычных выданняў. Нашымі фондамі карыстаюцца больш як 5000 чытачоў.

Паралельна пачалося стварэнне электроннага каталога гарадской дзіцячай бібліятэкі, вядзецца электронная база дадзеных "Аналітыка".

Алена ЖАКЕНАВА,
бібліятэкар
г. Слуцк

# Дотык да свету чароўнага…

Кожны народ мае свой лёс, абумоўлены гістарычнымі абставінамі, тымі рамкамі, з якіх, як кажуць, не выскачыш: "Времена не выбирают, // В них живут и умирают…". Яны, гэтыя часы, уплываюць на духоўнае быццё народа, фармiруюць яго дух, ягоную душу. Люстэрка, у якім найбольш выразна адбіваецца душа і дух народа, — літаратура, што для славянскіх народаў сталася "альфай і амегай" іх быцця. З самага пачатку свайго ўзнікнення ў славянскай (і асабліва ва ўсходнеславянскай) культуры яна сталася не толькі мастацтвам слова: у ёй канцэнтраваліся і светапоглядныя канцэпты, і палітычныя дактрыны, і гістарычная повязь часоў…




Сабраць скарбы мастацтва слова, якія падараваў свету беларускі народ, — справа не толькі адказная, але і надзвычай складаная. Тым больш, калі размова ідзе пра пераклады на іншай мове — на рускай. Славуты англійскі паэт Т.С. Эліот сцвярджаў, што паэзія амаль не можа быць перакладзена на іншую мову. Зрэшты, ён не зусім меў рацыю: калі знойдзецца перакладчык, кангеніяльны паэту, — любы носьбіт іншай мовы здолее адчуць трапяткую сутнасць паэтычнага слова…

Няшмат удалых зборнікаў, дзе сабраныя пераклады беларускіх мастакоў твораў на рускую мову, засталіся ў маёй памяці. І гэта здзіўляе, таму што нашых пісьменнікаў (і асабліва паэтаў) перакладалі часам сапраўдныя майстры мастацкага слова (М. Горкі, М. Ісакоўскі, А. Таркоўскі, М. Браун, А. Пракоф'еў, В. Шэфнер і інш.).

Актуальнасць найноўшага зборніка перакладаў на рускую мову вяршынных дасягненняў беларускай літаратуры звязана яшчэ і з тым, што разам з колішнімі савецкімі дэкадамі нацыянальных літаратуры і мастацтва адышлі ў мінулае і трывалыя моўныя, культурныя сувязі. Бо адзінай культурнай прасторы краін СНД фактычна не існуе і цяпер, хаця размовы пра яе гучаць у апошняе дзесяцігоддзе на самых розных форумах.

У савецкі час перакладныя зборнікі твораў беларускай літаратуры з'яўляліся ў рускамоўным свеце амаль кожнае дзесяцігоддзе, а класікі беларускага прыгожага пісьменства Янка Купала і Якуб Колас перакладаліся і яшчэ часцей. Але ў "ліхія 90-я" ўсё, што датычыла культуры, пачало згортвацца, анігілявацца. Праўда, напрыканцы 1990-х у Маскве, у выдавецтве "Русский двор" выйшла кніга перакладаў Г. Рымскага "Белорусская лирика XIX — XX веков". Паказальна, што Г. Рымскі быў навукоўцам, членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, які прадстаўляў прыродазнаўчую навуку. У хуткім часе пасля выхаду кнігі яго не стала. І хоць некаторыя ягоныя пераклады не зусім дасканалыя, але ж… З намі засталіся ягоная любоў да скарбаў нашай культуры, шэраг удалых паэтычных здзяйсненняў; самае важнае, што ў цяжкі час для развіцця ўсходнеславянскай культуры гэты светлы чалавек падхапіў эстафету асветніцтва, культурнага падзвіжніцтва…

У 2009 годзе ў маскоўскім выдавецтве "Художественная литература" ў серыі "Классика литератур СНГ" пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельнікаў СНД пабачыў свет зборнік "Волшебная свирель. Фольклор и литературные памятники Беларуси".

Кніга, перш за ўсё, вылучаецца акадэмічным падыходам. Гэта робіцца відавочным, калі знаёмішся з уступным артыкулам, напісаным дактарамі філалагічных навук В. Максімовічам і І. Саверчанкам; яны ж, разам з членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, доктарам філалагічных навук, выдатным літаратуразнаўцам М. Мушынскім з'яўляюцца і аўтарамі каментарыяў.

Зборнік складаецца з трох вялікіх раздзелаў. Адкрываецца кніга раздзелам "Белорусские народные сказки". Укладальнікі мелі рацыю, таму што эстэтычныя народныя ўяўленні, якія найбольш яскравае ўвасабленне атрымалі якраз у фальклоры, са старажытных часоў з'яўляюцца крыніцай духоўнасці, асновай нацыянальнай культуры. Вучоныя дарэвалюцыйнай эпохі і нашага часу не перастаюць здзіўляцца выключнай развітасці, глыбіні, вітальнасці беларускага фальклору. Спецыяліст па ўсходнеславянскай казцы С. Саўчанка пісаў у 1914 годзе: "Па жывасці і прыгажосці беларускія казкі не маюць сабе роўных. Нават лепшыя казкі Анчукова і Сакаловых саступаюць ім у гэтых адносінах, хаця пераўзыходзяць адносна строгасці эпічнай канструкцыі". Напрыканцы 1970-х у манаграфіі, прысвечанай развіццю беларускай эстэтыкі, я прыводзіў дадзеныя ленінградскага навукоўца М. Новікава, які ў класіфікацыі ўсходнеславянскіх чароўна-фантастычных казак вылучаў 144 сюжэтныя тыпы ў рускім фальклоры, 187 — ва ўкраінскім, 230 — у беларускім. У "Волшебной свирели" прадстаўлены казкі пра жывёл, чароўныя і бытавыя казкі, якія ўвабралі ў сябе мудрасць, пачуццёвасць, чуллівасць беларускага этнасу…

Выдатнае ўражанне застаецца і ад другога раздзела кнігі, які змяшчае скарбы беларускай літаратуры XI — XVIII стагоддзяў. Тут сапраўднае "ноу-хау". Зразумела, наш чытач добра ведае, хто такія Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Сімяон Полацкі. Але і гэтыя славутыя дзеячы нашай культуры прадстаўлены не ў "хрэстаматыйным глянцы". Звернем таксама ўвагу на тэксталагічную грунтоўнасць выдання. Напрыклад, пераклад "Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай" зроблены па рукапісе XVII стагоддзя, які знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургскай бібліятэцы. Пераклад гэтага твора, а таксама твора К. Тураўскага "Аб кніжным шанаванні і аб навучанні", "Пахвалы Вялікаму князю Вітаўту", "Дыярыуша" А. Філіповіча, як і пераважнай большасці тэкстаў, уключаных у раздзел, належаць І. Саверчанку. Толькі "Песня пра зубра" М. Гусоўскага прадстаўлена ва ўзорным перакладзе Я. Парэцкага і Я. Семяжона, а твор Сімяона Полацкага друкуецца па тэксце арыгінала.

Хацелася б у гэтым раздзеле ўбачыць і творы С. Буднага. Здзіўляе і адсутнасць твораў XVIII стагоддзя (між іншым, ва ўступным артыкуле складальнікі згадваюць беларускі протагістарычны раман "Магілёўская хроніка" і вядомы твор С. Пільштыновай "Авантуры майго жыцця" (1760)).

Трэці раздзел зборніка прысвечаны беларускай літаратуры XIX — XX стагоддзяў. У ім змешчаны творы пяці класікаў беларускай літаратуры: В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Выбар быў зроблены складальнікамі правільны, але неадназначны. І не толькі таму, што першага аддадзеная паэзіі. У XX стагоддзі працавалі і класікі сучаснай літаратуры, напрыклад, У. Караткевіч і В. Быкаў, з чыімі імёнамі, як і з імёнамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, таксама звязаны "лёсавызначальная сутнасць, знакавыя вехі, імклівы эстэтычны рост і росквіт, сусветнае значэнне" беларускай літаратуры (пра што пішуць В. Максімовіч і І. Саверчанка у прадмове да кнігі). Варта было б, на мой погляд, прывесці хаця б невялікія фрагменты твораў згаданых майстроў нацыянальнай літаратуры.

У цэлым, адбор твораў класічнага прыгожага пісьменства трэба прызнаць даволі ўдалым. Асабліва гэта датычыць Якуба Коласа, які годна прадстаўлены раздзеламі з "Новай зямлі", "Казкамі жыцця" і трыма апавяданнямі розных гадоў, а таксама вершамі. Можна паспрачацца наконт выбару твораў М. Багдановіча і Янкі Купалы. Колькі я ні шукаў, так і не знайшоў ні знакамітай багдановічаўскай "Пагоні", ні праніклівых, прарочых радкоў Янкі Купалы, напісаных у 1924 годзе:

Мне бацькаўшчынай цэлы свет,<br>
Ад родных ніў я адвярнуўся…<br>
Адно… не збыў яшчэ ўсіх бед:<br>
Мне сняцца сны аб Беларусі!

Існуе яшчэ адна праблема, але гэта праблема густу: на мой погляд, пераклады найбольш значных твораў вымагаюць больш пільнай увагі (хаця, як адзначалася вышэй, у цэлым для зборніка выбраны годныя пераклады).

У якасці прыкладу прывяду канцоўку трыялета М. Багдановіча "Мне доўгае расстанне з Вамі…" (1913):

Я паглядне́ў ад горкіх слёз<br>
І трыялет пачаў славамі:<br>
Мне доўгае расстанне з Вамі<br>
Чарней ад Вашых чорных кос.

А вось змешчаны ў кнізе пераклад А. Старасціна:

Я побледнел от горьких слёз<br>
И начал триолет словами:<br>
Мне долгая разлука с вами<br>
Чернее ваших чёрных кос.

Кожны, хто валодае беларускай і рускай мовамі, разумее: выраз "чарней ад…" утрымлівае вялікую прастору для раскрыцця пачуцця, а вялікая літара ("расстанне з Вамі") — зусім не "выпадковая"…

Мне надзвычай шкада, што ў зборнік не трапіла і гэтае знакамітае чатырохрадкоўе М. Багдановіча:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,<br>
У белым доме ля сіняй бухты,<br>
Я не самотны, я кнігу маю<br>
З друкарні пана<br>
Марціна Кухты.

Зразумела, розныя чытачы могуць аддаваць перавагу розным творам літаратурнай класікі, таму настойваць на ўключэнні альбо выключэнні тых ці іншых твораў — справа спрэчная. Як спрэчныя і некаторыя тэарэтычныя палажэнні, прыведзеныя ва ўступным артыкуле. У прыватнасці, вылучэнне XI — XIV стагоддзяў у развіцці беларускай літаратуры як перыяду готыкі вельмі і вельмі спрэчнае. Карані старажытнарускай літаратуры, адкуль і пайшла літаратура беларуская, — праваслаўныя, а праваслаўе і готыка — рэчы практычна несумяшчальныя.

Ды, па вялікім рахунку, апошнюю заўвагу можна прымаць за рэпліку прыдзірлівага крытыка. Бо ўвогуле зборнік "Волшебная свирель" — цудоўны падарунак усім тым, хто цікавіцца ўсходнеславянскай культурай. Да таго ж ён цудоўна ілюстраваны — тут прадстаўлены каляровыя рэпрадукцыі прац вядомых беларускіх мастакоў Ф. Рушчыца і Ю. Пэна, чароўная графіка А. Кашкурэвіча і інш.

На жаль, кніга выйшла накладам 3000 экземпляраў. А да скарбаў беларускай нацыянальнай літаратуры павінен далучыцца кожны, хто прагне духоўнага хараства.

Вадзім САЛЕЕЎ,<br>
доктар філасофскіх навук,<br>
прафесар, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь

# Урокі мудрай дабрыні




"На скрыжаваннях лёсу" — такую сімвалічную назву мае апошняя кніга Вольгі Казловай. Перакрыжаваўшы ў адной кнізе лёсы многіх выдатных людзей Беларусі, Вольга Васільеўна нібыта сама далучылася да гэтай слаўнай кагорты — тых, чыю памяць нашчадкі будуць заўсёды шанаваць.

Кніга ўяўляе сабой зборнік прац, якія ствараліся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Два раздзелы кнігі — "У агні Вялікай Айчыннай", "Класікі і сучаснікі" — прысвечаны пытанням гісторыі беларускай літаратуры і асобным пісьменнікам — Якубу Коласу, Янку Купалу, Міхасю Лынькову, Янку Брылю. Тэматыка трэцяга раздзела — "Партрэты" — больш шырокая, тут ужо не толькі пісьменніцкія постаці, але партрэты і іншых дзеячаў беларускай культуры — скульптара Заіра Азгура, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла СССР Пятра Абрасімава, міністра будаўніцтва БССР Івана Жыжаля. Чацвёрты раздзел "Рэха Вялікай Айчыннай вайны ў гісторыі Беларусі" мае гістарычную скіраванасць. Вольга Васільеўна прысвяціла яго Івану Варвашэню і Васілю Казлову, Фёдару Мадараву і Леаніду Бядзе. Асобна варта адзначыць артыкул "Вялікая перамога ў лёсе выдатнейшай кафедры гісторыі беларускай літаратуры XX ст.". Асабліва кранальны раздзел "Карані радаслоўнай": сучаснаму пакаленню варта павучыцца шанаваць сваіх продкаў і вывучаць гісторыю свайго роду так жа, як рабіла гэта Вольга Казлова. Аднак пра што б ні пісала і каму б ні прысвячала свае артыкулы аўтарка, у яе працах цесна пераплецены гісторыя, культура, літаратура, грамадскапалітычныя пытанні сучаснасці. У гэтым — і своеасаблівасць аўтарскага стылю, якая забяспечвае грунтоўнасць і глыбіню высноў.

Заканчваецца кніга "Словамі пашаны і ўдзячнасці" Вользе Васільеўне ад яе калег і спадкаемцаў на філалагічнай ніве.

У прадмове да кнігі В. Казлова патлумачыла, што пакінула тэксты артыкулаў нязменнымі, нягледзячы на тое, што некаторыя ацэнкі літаратурных твораў ужо даўно перагледжаны і не адпавядаюць яе пераканаванням на момант падрыхтоўкі кнігі да друку: "Публікацыі ў гэтай кнізе нясуць у сабе выразны адбітак часу, нават цэлай эпохі, і правіць, выкрэсліваць нічога не хацелася, нават калі сёння многае па-іншаму ўспрымаецца і ацэньваецца, думаецца і бачыцца". Менавіта таму кніга будзе асабліва цікавая філолагам: яна можа быць не толькі крыніцай вывучэння гісторыі беларускай літаратуры, але — і нават у большай ступені — гісторыі развіцця беларускай літаратуразнаўчай думкі. З гэтай прычыны хочацца засцерагчы юнае пакаленне — школьнікаў, студэнтаў — ад паспешлівых меркаванняў адносна састарэласці і неактуальнасці навуковых канцэпцый. У кнізе "На скрыжаваннях лёсу" шмат найкарыснейшага фактычнага матэрыялу, каштоўных высноў пра заканамернасці творчай эвалюцыі. Бясспрэчна, у Вольгі Васільеўны можна павучыцца метадам вядзення навуковага даследавання, уменню знаходзіць не заўсёды відавочную сувязь паміж падзеямі творчага і асабістага жыцця.

Кніга шчодра азддоблена цікавымі фотаздымкамі з архіва Вольгі Васільеўны, з якіх на нас глядзяць яе нязменна энергічныя, жыццярадасныя твар. Хацелася б адзначыць і працу "Выдавецкага цэнтра БДУ", у якім пабачыў свет зборнік прац "На скрыжаваннях лёсу". Па сённяшнім часе, зважаючы на безадказнасць многіх аўтараў і выдаўцоў, належная якасць выдання, добрая рэдактарская праца ўспрымаецца, на жаль, не толькі як норма, але і як нешта адметнае, выключнае. Чытаць такія кнігі, бясспрэчна, вельмі прыемна.

У апошнім раздзеле "Словы ўдзячнасці і пашаны" сярод юбілейных віншаванняў змешчаны яшчэ і вершы, прысвечаныя Вользе Казловай яе калегамі і сябрамі — Алегам Лойкам, Вячаславам Рагойшам, Міхасём Тычынам, Алесем Бельскім, Валянцінай Паліканінай. У іх шмат цёплых слоў і шчырых прызнанняў. Радкі Міхася Тычыны выдатна падыходзяць да характарыстыкі зместу гэтай кнігі:

Нам кожная сустрэча з Вамі —<br>
Урокам мудрай дабрыні.

Сапраўды, чытачу, які возьмуць у рукі зборнік прац Вольгі Казловай "На скрыжаванні лёсу", чакае сустрэча з "урокамі мудрай дабрыні".

Жанна КАПУСТА

# Азірнуцца на сябе самога...

## Кніга вяртанняў Міколы Купрэева




Ці існуе ўвогуле такі паэт, які хоць аднойчы не спрабаваў бы звярнуцца да прозы, а, значыць, да іншага, чым вершаваны, спосабу мастацкага выказвання? Ды ўжо сама па сабе прырода паэтычнага светаўспрымання з яго схільнасцю да сутыкнення супрацьлеглых з'яў робіць, мабыць, прыцягальным менавіта тое, што адрозніваецца па сваіх выяўленчых магчымасцях ад паэзіі. Звычайна сцвярджаецца, што да прозы паэты прыходзяць з гадамі, з набытым жыццёвым вопытам, з узнікненнем патрэбы ўспомніць і прааналізаваць перажытае. Напэўна, так яно і ёсць. У прозы іншыя ўзаемадачыненні з жыццёвым матэрыялам, для яе большае значэнне мае перспектыва бачання, часавая аддаленасць ад таго, што становіцца прадметам мастацкага ўвасаблення.

Рознае, непадобнае спалучаецца між тым у пэўную — і мастацкую, і асабовую цэласнасць. Менавіта асоба творцы з'яўляецца тым асяродкам, вакол якога аб'ядноўваюцца ўсе, часам і вельмі разнародныя, супрацьлегла скіраваныя, яго памкненні і зацікаўленні. Гэта тое сутнаснае і характэрнае ў чалавеку, што ў мастацкіх адносінах, у слоўным увасабленні атрымоўвае найменне стылю.

А ёсць такія паэты, у вершах якіх ад самага пачатку праступаюць, падспудна акрэсліваюцца прыкметы празаічнага спосабу выказвання. Для іх межы паміж паэзіяй і прозай прадстаюць больш празрыстымі і пранікальнымі, чым для іншых. Верлібр для іх — натуральная форма ўвасаблення той паўнаты паэтычнага светаадчування, якая перасягае зададзеныя жанравыя абмежаванні.

У гэтым выпадку якраз мэтазгодна гаварыць пра стыль у шырокім значэнні гэтага паняцця. Пра стыль як пэўны спосаб жыцця, калі паэтычнасць адкрываецца ў самой рэчаіснасці і абумоўлівае сабой усе сродкі мастацкага выражэння, вызначаючы ў якасці ідэалу свабоду ў абыходжанні з імі.

Да ўвогуле нешматлікага кола такіх творцаў, несумненна, належыць Мікола Купрэеў, паэт, для вершаў якога характэрны разняволенасць паэтычнага выказвання, набліжанасць мастацкага маўлення да паўсядзённага. У першым зборніку вершаў "Непазбежнасць" (1967), які на працягу амаль трох дзесяткаў гадоў заставаўся да таго ж адзіным, была ўжо досыць выразна абазначана гэта памкнёнасць да выяўлення лірычнага пачуцця ў свабоднай, не скаванай традыцыйнымі патрабаваннямі форме. Многія вершы з гэтага зборніка як бы заключалі ў сабе магчымасць іх далейшага разгортвання ў штосьці значна больш абсяжнае, у чым маглі б увасобіцца абрысы шматстайнага, напоўненага рознымі праявамі і малюнкамі, мастацкага свету.

Зрэшты, гэта, мабыць, рыса, агульная для тых аўтараў, якія аднолькава нязмушана адчуваюць сябе і ў паэтычнай, і ў празаічнай стыхіі. З твора ў твор, незалежна ад яго жанравай прыналежнасці, могуць у іх пераходзіць, удакладняючыся і развіваючыся пры гэтым, адны і тыя ж вобразы і матывы. Можна ў гэтай сувязі згадаць, да прыкладу, У. Караткевіча, творчасць якога вызначаецца незвычайнай цэласнасцю мастацкай сістэмы, цеснай пераплеценасцю і ўзаемаўзгодненасцю вядучых матываў.

У паэтычных і празаічных творах Купрэева даволі часта можна сустрэць вобразныя і сюжэтныя сыходжанні. Гэта сведчыць пра тое, наколькі істотным для аўтара з'яўляецца аўтабіяграфічны матэрыял, менавіта тое, што ім самім перажыта, адчута праз непасрэднае судакрананне з рэчаіснасцю. Цэнтральны герой і вершаў (якога мы звыкліся іменаваць лірычным героем), і прозы Купрэева — ён сам. Гэта відавочна. Разам з тым, у яго творах заўсёды адчувальныя прысутнасць творчага вымыслу, скіраванасць на вырашэнне ўласна мастацкіх задач. Літаратурнасць пры гэтым не высоўваецца на першы план, яна прадстае перш за ўсё як спецыфічная ўмова пашырэння індывідуальнага вопыту, данясення яго да іншых. Вобразы і калізіі, мастацкія прыёмы і дэталі, асаблівасці сюжэтнага разгортвання — усё тое, што можна абазначыць агульным паняццем літаратура, выяўляюцца ў творах Купрэева ў самай шчыльнай спалучанасці з адчуваннямі, намерамі, асабовымі схільнасцямі і перакананнямі аўтара. Тое, што пры чытанні ўяўляецца нязмушаным і створаным быццам на адным дыханні, насамрэч вынік складанага ўзаемадзеяння індывідуальна-аўтарскага з агульналітаратурным.

Для кожнага сапраўднага творцы ў гэтым, мабыць, і ёсць найбольшая загадка: якім чынам у кожным канкрэтным выпадку судакранаюцца, уступаюць ва ўзаемадзеянне жыццё і літаратура. Як яны, нягледзячы на мяжу, што існуе паміж імі, узаемна ўзбагачаюць адно аднаго. У паэме "З сятрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне" на заўвагу сястры пра тое, што ўсё з перажытага, што ўзнаўляецца ў творах, "гэта — літаратура", аўтар адказвае здзіўленым запытаннем: "Сястра! Няўжо ты на ганку роднай хаты, Караткевіч пад бярозамі ля Дняпра, і я ля вас, і ўсе мы тут, мёртвыя і жывыя, — літаратура?.."

Такая гранічная набліжанасць да рэальна перажытага аўтарам адчуваецца ў аповесцях Купрэева, якія склалі кнігу "Палеская элегія" (2007), што была выдадзена пасля ўжо яго адыходу з жыцця. І разам з тым я не аднёс бы гэтыя празаічныя творы паэта да аўтабіяграфічнага жанру ў яго "чыстым" выглядзе, хоць цыкл купрэеўскіх аповесцей і ўспрымаецца як своеасаблівае "падвядзенне вынікаў", падсумаванне жыццёвага шляху. Найперш гэта ўсё-такі працяг пошукаў адэкватнай мастацкай мовы, здольнай выявіць жыццёвы вопыт у эстэтычна ўспрымаемай форме.

Кожная з пяці аповесцей, змешчаных у зборніку, адрозніваецца сваёй адметнасцю ў падачы жыццёвага матэрыялу, арганізацыяй мастацкай прасторы аповеда. У кожнай з іх — па-свойму разгортваюцца адносіны паміж героем-апавядальнікам і тым мастацкім светам, які адначасова прадстае і як жыццёвае асяроддзе, якое ім асвойваецца, і як мастацкая рэальнасць, якая ім жа самім прадукуецца. Так, напрыклад, у пачатку першай аповесці — "Дзіцячыя гульні пасля вайны" — якраз спецыяльна акцэнтуецца сітуацыя расказвання, стварэння твора як бы на вачах у чытача. Пры тым аказваецца, што гэта перастварэнне, узнаўленне раней страчанага тэксту. Дакладней кажучы, аўтар прызнаецца, што ўзнавіць у тым жа самым выглядзе свой твор ён "не мог", паколькі "тыя старонкі пісаліся на адным узроўні дыхання, на нейкім адным узроўні нервовага напружання".

Гэтыя развагі апавядальніка пра значэнне "дыхання" для творчага самавыражэння адразу вымушаюць згадаць падобнае выказванне самога аўтара — на гэты раз у дачыненні да паэзіі: "Верш — гэта дыханне яго творцы на той час, калі ён, верш, "выліваецца". Такое супадзенне поглядаў, выказаных пісьменнікам у інтэрв'ю, з тым, пра што гаворыцца ў яго творы, уяўляецца досыць паказальным, выступаючы сведчаннем таго, што ў мастацкім свеце пісьменніка так або інакш выяўляюцца яго эстэтычныя погляды, яго мастакоўская сутнасць.

Інтэрв'ю з Купрэевым, узятыя Леанідам Галубовічам (ён жа — ініцыятар і ўкладальнік выдання), як бы абрамляюць апавяданні, папярэднічаючы ім і завяршаючы іх, утвараючы тым самым цікавае кампазіцыйнае кальцавое адзінства. Хоць у гэтых інтэрв'ю і гаворыцца ў асноўным пра паэзію, аднак яны маюць непасрэднае дачыненне і да прозы паэта. Асноўны матыў размовы — выбар, які мастак ажыццяўляе паміж жыццёвай неабходнасцю і творчай свабодай. А гэта ў аднолькавай ступені адносіцца да ўсіх відаў мастацтва.

Патрэбна ўвогуле зазначыць, што даволі складаная сюжэтна-кампазіцыйная пабудова празаічнай кнігі Купрэева вызначаецца мастацкай цэласнасцю, суаднесенасцю і ўзаемаўзгодненасцю ўсіх яе элементаў. Кожная з аповесцей, выяўляючы асобны этап у жыцці героя, вызначаючыся адметнасцю апавядальнага ладу, разам з тым пэўным чынам звязана з іншымі, утвараючы агульную мастацкую прастору. Жыццё цэнтральнага героя аповесцей, alter ego аўтара, паўстае ў розных часавых зрэзах, значна аддаленых адзін ад аднаго пластах яго экзістэнцыйнага вопыту, аднак разам з тым выстройваецца ў пэўнай лагічнай, прычынна-выніковай паслядоўнасці, выяўляецца ва ўзаемазвязанасці і дапаўняльнасці асобных эпізодаў, дэталей, адчуванняў. Такая прырода мастацтва, што яно збліжае, ушчыльняе найбольш істотныя жыццёвыя моманты чалавека, надае ім цалкам адметную перспектыву бачання.

Кампазіцыйная цэласнасць "апавядання ў апавяданні", якім адкрываецца зборнік, абумоўліваецца ўнутранай спалучанасцю рознаскіраваных пунктаў гледжання аўтара-апавядальніка на сябе і свет — і з боку жыцця, і з боку мастацкай рэальнасці. Тое, што адклалася ва ўспамінах, не проста згадваецца ў нейкі прыдатны для гэтага момант, але наноў перажываецца, уваходзіць паўнапраўнай складовай часцінай у жыццёвую прастору, якая разгортваецца тут і цяпер.

Узяць хоць бы такую невялічкую дэталь: аўтар, які сядзіць у бальнічнай альтанцы і збіраецца прыступіць да напісання аповесці, назірае за некалькімі хворымі, што ідуць з рыдлёўкамі на могілкі капаць дол. І вось пачынаецца аповед. І пачынаецца ён якраз такім чынам, што зноўку запыняецца ўвага на тым жа самым прадмеце — рыдлёўках, на такой жа самай, па сутнасці, сітуацыі: "...Калі мужчыны ўзялі ў рукі рыдлёўкі і сталі засыпаць маму зямлёй..."

Вядома, немагчыма адназначна сцвярджаць, што менавіта дадзеная дэталь асацыятыўна выклікае ўсё тое, што разгортваецца затым у зладжаную паслядоўнасць мастацкага аповеда. І ўсё ж яна ўяўляецца невыпадковай, як увогуле нішто не бывае выпадковым у літаратурным творы, дзе мастацкая цэласнасць абумоўліваецца ўнутранай сувяззю ўсіх яе складнікаў. Паўтор адных і тых жа вобразаў і матываў у празаічных творах Купрэева наогул блізкі па сваім кампазіцыйным значэнні да аналагічнага прыёму ў паэзіі. У многіх выпадках гэта прыводзіць да метафарычнага пераасэнсавання рэальнасці, яе канцэптуалізацыі. Утвараецца іншая сістэма бачання, у якой прадметы і з'явы атрымоўваюць шматбаковае, стэрэаскапічнае асвятленне, дзе магчымым становіцца амаль незаўважны пераход ад адной экзістэнцыйнай сітуацыі да іншай. Па меры разгортвання аповеда ад аднаго твора да другога, ён, як мне ўяўляецца, усё больш ускладняецца, дыферэнцыруецца, набываючы пры гэтым і асаблівую мастацкую цэласнасць.

Першая з аповесцей найбольш свабодна арганізаваная кампазіцыйна, у ёй вобразы і малюнкі далёкай пары маленства падаюцца як плынь успамінаў, якая абумоўліваецца і фарміруецца перш за ўсё скіраванасцю аўтарскіх думак і адчуванняў. Увогуле ўсе аповесці аб'ядноўвае такая агульная жанравая прыкмета, як лірызм, хоць у кожнай з іх ён атрымоўвае своеасаблівае праламленне. У "Дзіцячых гульнях пасля вайны" дыстанцыя паміж аўтарам і героем, мабыць, найкарацейшая. Гэта выяўляецца не толькі ў больш адкрытай мемуарнасці аповеда, але і яго форме. Часам, у найбольш узрушлівыя моманты, маўленне апавядальніка набывае рысы, уласцівыя паэтычнай мове, як гэта адбываецца, напрыклад, тады, калі пераказваецца пра тое, як уцекачы-блакаднікі апынуліся раптоўна на лініі фронту. Так, пра гэта не расказваецца, а менавіта пераказваецца, як пра перажытае раней, спазнанае на ўласным лёсе, усім жыццём сваім зведанае. Перахоп дыхання ў інтанацыі апавядальніка — як бы водгулле тых даўніх адчаю і парыву: "Мужчыны сказалі, што вось-вось пачнецца бой, нашы будуць браць Рагачоў, а мы апынуліся паміж нашымі і немцамі, і нам трэба бегчы, бегчы за Збароўскую гару, за шашу — у лес, у лес, у лес". Лексічныя паўторы як фігуры паэтычнага сінтаксісу натуральна зліваюцца з размоўнай стыхіяй і, мабыць, немагчыма тут наогул размежаваць тое, што належыць майстэрству мастака, ад таго, што выклікаецца ў яго душы наплывам пачуцця.

Можна, вядома, спрабаваць і аналітычным шляхам ахарактарызаваць сілу эмацыянальнага ўздзеяння мастацкай формы, звярнуўшы, напрыклад, увагу на тое, што ў гэтым расказе пра ратаванне пераважаюць дзеяслоўныя формы як выражэнне дынамікі дзеяння, што мова аповеда перадае дынамізм сітуацыі кароткімі, бы сечанымі, аддзеленымі паўзамі, паўторамі-пералікамі. А можна проста працытаваць (бо ніякі аналіз не ўзновіць музыкі маўлення): "І тады мы беглі, ішлі, паўзлі, падымаліся, падалі, на руках, пад рукі, абутыя і босыя, але ногі не чулі холаду, ногі нічога не чулі, яны толькі йшлі, і беглі, і пхалі снег...". Давядзецца вымушана абарваць цытаванне, бо інакш немагчыма было б спыніцца, паддаўшыся ўладарнай сіле жывога, імкнучага наперад слова. Якое, нягледзячы ні на што, злучае мінулае з будучым, сапраўдны боль са светлай надзеяй.

Яўген ГАРАДНІЦКІ

## Зорны паланез

«Горкі — адзін з маіх любімых гарадоў… У ім шмат прыгожых, інтэлігентных людзей з адухоўленымі тварамі. І сярод іх прафесар Аляксандр Віктаравіч Клачкоў», — пісаў некалі паэт Алесь Пісьмянкоў, прадмовы якога папярэднічалі паэтычным зборнікам А. Клачкова, доктара тэхнічных навук, загадчыка кафедры сельгасмашын Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

На прэзентацыю яго паэтычнага зборніка "Колер і гук" (2009) у самай вялікай зале вучэбнага корпуса сабраліся студэнты, калегі па працы, сябры, прыхільнікі творчасці паэта.

Вядучая — дацэнт кафедры рускай і беларускай моў Вольга Зяньковіч зазначыла, што вершы Аляксандра Клачкова — кароценькія маналогі-разважанні з глыбокім філасофска-лірычным роздумам над спрадвечнымі пытаннямі: "Хто мы?", "Адкуль мы?", "У чым сэнс нашага існавання?". У яго творах нямала ўдалых аўтарскіх знаходак, зіхоткіх каштоўных каменьчыкаў са скарбніцы беларускай мовы…

І сапраўды, вершы А. Клачкова напоўненыя патаемным святлом глыбокіх думак і ў той жа час вылучаюцца натуральнай прастатой. Узнікае жаданне ўтульна ўладкавацца ў крэсле і, нікуды не спяшаючыся, асэнсоўваць кожны радок. Уражанне такое, быццам вядзеш размову з мудрым чалавекам і сам ад гэтага мудрэеш… Што ж хвалюе лірычнага героя паэта? Таямніцы часу і вечнасці, матэрыя і дух, сусвет і прастора, душа і цела, вера ў Бога і райскае жыццё, зямля і неба, думкі і словы, завеі і зоркі, каханне і мары, журба і жаданні, — усё тое, што вакол нас, з чаго складаецца само жыццё.

Вершы зборніка "Колер і гук" — гэта гімн хараству, якога не могуць стварыць рукі чалавека. Сутыкаючыся з гармоніяй нерукатворнага сусвету, душа набывае гармонію думак і жаданняў. Дзіўнае хараство ўсяго створанага Богам поўніць душу чалавека мудрасцю, разуменнем неабходнасці славіць Тварца.

Пра што, яшчэ разважае паэт у сваіх вершах? Якія колеры і гукі прыкмячае ён наўкола? Маляўнічыя карціны прыроды, гукі вясны, колеры лета і кветак… Часцей за ўсё гэта светлыя вобразы дзяцінства і юнацтва. Як поры года ў прыродзе змяняюць адна другую, так і адрэзкі часу ў жыцці кожнага чалавека складваюцца ў песню яго лёсу.

Выразна і пранікнёна гучалі на прэзентацыі вершы А. Клачкова ў выкананні студэнтаў акадэміі. Шмат цёплых і добрых слоў было сказана ў адрас паэта выступоўцамі, сярод якіх былі рэдактар твораў паэта, кандыдат гістарычных навук А Каданчык, горацкія літаратары С. Варухіна, А. Пугач, Т. Рэдказубава. А паэтэса Л. Родная нават прысвяціла яму верш…

Прыгожа дапоўнілі выступленні аматараў паэзіі музычныя нумары ў выкананні ўдзельнікаў клуба творчай моладзі "Дэбют" бібліятэкі БДСГА і народнага аркестра народных інструментаў Палаца культуры БДСГА.

Начальнік упраўлення выхаваўчай работы з моладдзю БДСГА Іна Рындзіна ўручыла паэту грамату акадэміі як пераможцу ў літаратурным конкурсе, прысвечанаму Перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне і 170-годдзю акадэміі.

Напрыканцы А. Клачкоў прачытаў новыя вершы, падарыў прыхільнікам сваёй творчасці зборнік "Колер і гук" з аўтографам.

Людміла ДЗЕРУЖКОВА,
кіраўнік народнага аматарскага літаратурнага аб'яднання "Роднае слова"
г. Горкі







## Ганна МІКЛАШЭВІЧ

* * *

Я занатоўваю смяшынкі мілых воч,
Рыфмую веснаў тонкія абрысы…
Недаравальна згубленая ноч
Халодных зорак набывае рысы.
У сэрца — светлай вечнасці блакнот —
Запісваю расчуленыя словы,
А косма думак нараджае лёд
З празрыстасцю нябесна-адмысловай.
Я занатоўваю сусветы таямніц,
Рыфмую непрыснёныя сюжэты…
І што за справа мне да тых блудніц,
Якімі цешацца бяздомныя паэты.

* * *

Радок нараджаю, як светлую споведзь,
Крыніцу з празрыстай святою вадою.
Напэўна, ён некалі зможа успомніць
Хвіліны, калі я была маладою…

Калі я кахала аддана і шчыра,
Сваё ахвяруючы сэрца і волю
Таму, хто цяплом абуджаў маю ліру
І вольныя думкі свабодаю поўніў.

Калі я спазнала жыцця асалоду,
У вочы твае зазіраючы смела.
Каханнем напісаных
безліч мелодый
Табе аднаму падарыць я хацела.

Калі мітусня і жыццёвыя справы
Спрачаліся з песняй,
з душой маладою,
Калі асалодай дурманілі травы,
Пачуцці сваволі
не зналі спакою…

* * *

Я гляджу на партрэт і гляджу,
Вусны сцішана
шэпчуць замову…
Я нічога табе не скажу,
Бо жыццё не напішаш нанова.
Снег пялёсткаў —
вясновы санет —
Закружыў палахлівую Музу,
Намалёваны мною сусвет
Стаўся горкаю шрамам друзу…
Я гляджу на партрэт і гляджу,
Вусны сцішана шэпчуць замову…
Памалюся не раз, папрашу:
За цябе, за Радзіму, за Мову.

* * *

Сядзіба ў кропельках расы,
Узведзеная дзедам хата.
Суцешны звон тугой касы,
Ў кашулі белай ходзіць тата.
Язмін ад шчасця набрыняў,
Пупышкі кволяцца ў лістоце,
Шчыруе мятачка між траў —
Няма ў сэрцы месца слоце.
Мы ўсёй сям'ёю на пакос,
Што між кустоў лазы схаваўся.
Хвастом віляе наш Барбос,
Што дома сёння не застаўся.
Плывуць нябёсы ўдалячынь,
А тут духмяніць вусны сена.
І бусел, нібы важны чын,
Па полі ходзіць задуменна.
У небе пырхае жаўрук,
Спявае гімн жыццю зямному.
Ён славіць працавітасць рук,
Сялянскіх сэрцаў дух нястомны.

* * *

У мітуслівым жорсткім гуле
Я пастарэла без пары.
Вярнуся, дзе не спіць зязюля —
У нарачанскія бары.
Дзе сосны шэпчуцца таемна,
Дзе акіяны мурагу,
Дзе птушкі дораць узаемнасць,
Падалей гонячы тугу.
Абмыю вочы, твар абмыю
Святой азёрнаю вадой,
Успомню хвілі маладыя
І развітаюся з нудой.
На хутаранскім родным ганку
Ўдыхну світальнага цяпла.
І стану вольнай хутаранкай
Такой, як некалі была.





## Усевалад ГАРАЧКА

* * *

— Што малюваць? —
Спытала мяне дачка.
Я адказаў ёй:
— Дрэвы,
Якія ляцяць па небе.

…А затым я пабачыў
На паперы
Сілуэты стваловў
І карэнне,
І празрыстае лісце
На дрэвах.

Я пабачыў
нябесную восень:
Лісце,
Хмары
І дождж...

* * *

Там, дзе лініі рэек,
Сілуэты людзей
І пероны,
Нечакана адчуеш,
Што трапіў
У іншы,
Чароўны,
Загадкавы свет,
І паверыш міжволі
Ў паганскага
бога чыгункі...

Ён пачвара,
Што мае з дзяцінства
Нам родныя рысы.
Ён пяе калыханкі,
Калыша
у люльках вагонаў.
Ён нас душыць,
Нявечыць,
І ён жа —
Нам дорыць сустрэчы.
Ён знаёміць нас,
Выбраўшы двух
Сярод мора
людскога.
Але ён жа —
Разводзіць —
Хай змыюць
малюнкі мінулага
Слёзы!

Калі мы на пероне —
Мы вернікі
гэтага бога.

* * *

Ударыў звон,
І скочыў званар
са званіцы.

Ударыў звон.
А дзе ж крыжы
над царквою?

А птушкі ў небе
Кружаць,
Крычаць,
Аб чымсьці гавораць.

І хмары ў небе
Клубяцца,
Ляцяць.

А ўнізе
Бегае поп
Па царкоўным двары
Ашалелы —

Ударыў звон.

## Анатоль ГАЛУШКА

**Дэбют**

Анатоль Галушка, паэтычны дэбют якога мы прапануем вашай увазе, — чалавек цяжкага лёсу і моцнага духоўнага руху. На 15-й старонцы нашай газеты вы маеце магчымасць прачытаць нарыс В. Гапеева пра гэтага цудоўнага чалавека, мастака і паэта.

### Надзея на спатканне

Прыемны ранішняй парою
Пейзаж знаёмы, дарагі,
Дзе вербаў пышныя стагі
Стаяць, бы варта над ракою,
Укрыўшы ценем берагі.

Адпачываюць вочы, сэрца
Між зеляніны, цішыні;
Вада празрыстай чысціні
Лагоднай музыкай ліецца
І дрэваў поіць карані.

І неба колерам ружовым
Фарбуе лес і паплавы;
На росны покрыў лугавы
Ступае дзень — прыгожы, новы,
Ледзь-ледзь крануўшыся травы.

Яго вітае наваколле
Вясёлым гоманам асін.
Калыша вецер лёну сінь:
Таемным морам стала поле
Нікім не зведаных глыбінь.

Стаю на ўскрайку, на узмежжы,
Лаўлю раскрытаю душой
Жывую сілу і спакой.
Прымаю ўсё, як непазбежнасць.
Бо тут я дома, тут я — свой.

…Жыву надзеяй на спатканне —
Чакайце, луг і паплавы! —
Нясмелым хлопчыкам малым
Прайду аднойчы на світанні,
Ледзь-ледзь крануўшыся травы.

### Мары і рэчаіснасць

А можа, не трэба неба?
Даволі імкнення ўвыш.
Кавалак жытняга хлеба
Важлівей з бацькоўскіх іржышч.
Напэўна, і крылаў не трэба?
Крылатымі мары жывуць.
Вышэй неабсяжнага неба
Свабодныя думкі плывуць.

Паднімецца дух нескароны
Да самых таемных вяршынь.
Няма для душы забаронаў
І межаў няма для душы.

Хай сёння згушчаюцца хмары,
Хай паліць агністы Пярун —
На попеле спаленых мараў
Пракінецца новая рунь.

### Адгалоскі

Усё меней дымоў над вёскай,
Ды ўсё болей пустых аканіц.
І не песні гучаць — адгалоскі
Ды бяскрылыя падаюць ніц.

### Нітка жыцця

Пражытыя дні —
нібы пацеркі розных адценняў
Нанізваю ў шэраг,
на звітую нітку жыцця.
То жоўты бурштын
упадзе у раскрытую жменю,
То шэрых каменняў
адмерае скрынка быцця.

### Палын

Сярод кветак сівы, знямелы,
Нерухомы застыў палын.
І здалося, што ў свеце цэлым
Ён застаўся зусім адзін.

Ён адзін пад купалам неба
Дажывае свой шэры век,
А ля кветак прыгожых, белых
Не прайшоў мінак-чалавек.

Вабіць вочы іх яркі колер.
Захапляе прыемны пах,
Што лунае
над кветкавым полем,
Нібы той
легкакрылы птах.

А палын? Каму ён вабны...
Не прыгожы з яго букет.
Сярод поля стаіць, нязграбны
І маўкліва глядзіць у свет.

Кветкі вераць
у вечнае лета.
Толькі ведае горкі палын:
Перамеле і тых, і гэтых
Неспатольнага часу млын.



Фота Кастуся Дробава

# Два апавяданні



Галіна БАГДАНАВА

## Бульба з хрэнам

### Філасофія зямнога множання

Паліна Эдуардаўна пасля смерці бацькоў сама старанна ўрабляла шэсць сотак іхняга радавога лецішча з даўно нефарбаваным цацачным дамком, за пяць кіламетраў ад электрычкі. Урабляла, можна было б сказаць, па інерцыі. Але ёй, настаўніцы гісторыі і сусветнай мастацкай культуры, прадмета, які, зрэшты, год таму скасавалі, чалавеку творчаму і ў добрым сэнсе, апантанаму, рабіць штонебудзь па інерцыі, неяк, дзякуй Богу, ніколі не выпадала. Градаў у яе было няшмат. Але і сёлета ўрадзілі самыя буйныя сярод суседзяў клубніцы, годна квітнеў адмысловы боб, узышлі бурачкі, морква, радыс, кабачкі, рэдзька, рэпка, траўкі розныя... І нават капусты, гуркоў і памідораў па некалькі каліў прыжылося. Пасадзіла яна па вясне і бульбу. Толькі так сталася, што з-за хваробы не паспела ў час яе прапалоць. Цяпер, калі ў гарадскім парку голаў вяло ад ліпкае ліпнёвае слодычы, Паліна Эдуардаўна, нарэшце, змагла выбрацца на свае соткі, на сваю дарагую, і ў прамым і ў пераносным сэнсе гэтага слова, фазэнду. Справа была не толькі ў кошце білетаў туды і назад, бо начаваць адной удалечыні ад цывілізацыі пасля хваробы яна яшчэ асцерагалася, і не толькі ў кошце насення, угнаенняў, прыладаў працы... Самымі дарагімі былі час і чыста фізічныя сілы, якіх заставалася ўсё меней. А хацелася і нешта прачытаць, і напісаць, і навесці, урэшце парадак у рэчах і запісах. Але раз насенне кінулі ў зямлю, яно мусіла прарасці, і цяпер высакародныя парасткі, само сабою, прагнуць яе ўвагі. І яна, хоча таго ці не хоча, у гэтыя першыя ліпеньскія вольныя дні, мусіць правесці аперацыю "вызваленне бульбы з палону". А яна хоча, яна вельмі хоча гэта зрабіць.

Бацька і муж чамусьці заўжды паўсюль найперш бачылі пустазелле. Ім бы абрэзаць, скасіць, вынішчыць. Вось і сын, хаця такія прыгожыя валасы мае, стрыжэцца, бадай што, голіца пад нуль. Хаця, вядома, так яму будзе прасцей размаўляць у ваенкамаце. Чамусьці тыя мужчыны, што прэтэндуюць называцца моцнымі, усе стрыгуцца пад "бобрык" ці голяцца пад нуль. Праўда, нядаўна адзін так голены спявак даволі проста і арыгінальна тое патлумачыў: "Мая жонка лічыць мяне лысага больш сексуальным. У яе адразу з'яўляюцца пэўныя асацыяцыі.". Бацька і муж заўжды бачылі на іх сотках пустазелле. А яны з мамаю — высакародныя парасткі. І раз на тыдзень старанна выполвалі ўсе градкі, вызвалялі з палону свой будучы, хай і не надта багаты, але сваімі рукамі на сваёй зямлі ўзрошчаны ўраджай. Ад кітайскага часнаку, як і ад кітайскіх цацак не ў яе адной алергія.

Вось і цяпер, першаю электрычкай прыехаўшы, праз свежы пасля спорнага начнога дажджу птушынамі спевамі ажыўлены лес прайшоўшы на лецішча, Паліна Эдуардаўна ўгледзела-такі сярод латкі пустазелля сваімі рукамі пад лапату па вясне пасаджаную бульбачку. Чэрвень быў дажджлівы, і пустазелле ўрадзіла на славу. Чаго тут толькі не было — і дзьмухаўцы, і дзяды, і крапіва, і малачай, і макрыца, і палын горкі, і ўюнок задушлівы, падбел, хрэн... Але і бульбачка выцягнулася, распраставіла плечыкі і дзе-нідзе нават крэмавыя ды ліловыя кветачкі на капялюшыках свой паўднёваамерыканісты начапіла. Яна хацела зайсці ў хату, паставіць пакет, гарбаты сабе заварыць, але, засунуўшы руку ў кішэню курткі, успомніла, што на тыя выхадныя давала ключы сыну, які выбіраўся сюды, на лецішча, з сябрамі на шашлыкі. Ды так іх, тыя ключы, і не забрала. Добра што, што гумовікі на нагах. А новую кітайскую цяпку сабе пад бульбачку яна ўчора якраз з адпускных купіла. Адно крыўдна, вілы, каб пустазелле потым у адно месца знесці, у сарай зачынены. Але што ж, гэта і рукамі зрабіць можна.

Колькі яна жыла, ніколі не працавала на зямлі ў пальчатках. Рукі ў яе былі невялічкія, скура далікатная, і ад крапівы адразу з'яўляўся пякучы россып бубачак, якія потым ператвараліся ў вадзянікі і лопаліся. А дзьмухаўцы пакідалі на ейных бялюткіх пальчыках ліпкія карычневыя пісагі і плямкі. Але праз дзень-другі далоні зноў рабіліся мяккімі, пяшчотнымі. І яна, хоць была ў гадах, прагнула аддаваць пяшчоту. Ды браць яе не жадалі. Ні бацька, які пад канец жыцця сышоўся з маладзейшаю за маці жанчынай. Ні муж, што больш за ўсё на свеце любіў напіцца ды забыцца. Ні сын, шчымлівая, трывожная струначка ейнага жыцця. Яна сцякала тою пяшчотаю, крывавіла, бы рана, выпраменьвала святло, што нікога не грэла, ад якога нікому не рабілася святлей. Пустазелле неахвотна развітвалася з зямлёю, урадліваю, зацалаванаю сёлета дажджамі глебаю. І з бульбачкай, на якую надта прыемна было яму, таму пустазеллю абаперціся, якую і абвіць можна.

Цяжка ломкі, горкі нават на водар палын. Чаму гэтую зямлю, што адвеку звалі Белаю, значыць, чыстаю, так аблюбаваў гаркавы, сэрбны, чарнявы палын? Ворагі з захаду, ворагі з усходу. І самі між сабою браты ніяк не разбяруцца. Палын пахне ворагамі і вайною. Хоць памры, а яго трэба вырваць. Не будзь яна жанчынаю, калі не вырве палын варожасці.

Макрыца лепіцца да зямлі, маленькая, кволенькая, кажуць, нават карысная пры нейкіх хваробах. Дзед аднойчы расказаў ёй дзіўную гісторыю. Як пайшоў ён у Купальскую ноч са сваім сабакам Шарыкам у лес. Ідзе і прыглядаецца. Які ж беларус не хоча сваю папараць-кветку знайсці?! І тут дзед нечакана пачаў разумець, пра што сава вухнула, пра што сабака ягоны забрахаў. І нават дрэвы шапатаць сталі чалавечаю моваю. Здзівіўся дзед. Бо такія здольнасці, казалі, толькі папараць-кветка даць можа. Вярнуўся дамоў ён, стаў разбувацца, лапці здымаць, і ўсё. Зноў ні Шарыка свайго, ні птушак не разумее. А потым уцяміў — гэта ж ён незаўважна папараць-кветку, што ў лапаць яму недзе ў лесе патрапіла, вытрусіў. Бо яна ж, тая цуд-кветка, кволенькая, як макрыца. Бы шчасце тутэйшае. Ціхае ды някідкае. Мала каму вакол зразумелае. Але ж жывучае. Макрыцу рві, не рві, ізноў праб'ецца.

Дзьмухаўцы. Дзіўныя сонечныя кветкі, якія ператвараюцца ў лёгкія воблачкі і сплываюць парашуцікамі насення. Але для бульбы яны ці не першыя ворагі. Як для тутэйшых людзей жаданне блукаць па свеце, раскідаць сваё насенне, свае таленты і працалюбства. Вунь надрыўнае Паўлюкова, Багрымава "Зайграй, зайграй, хлопча малы!" пачуў Якуба Коласа Сымон-музыка, што вандраваў па беларускіх вёсках, і Алесь Рыбак, што давандраваў са сваімі бацькамі-музыкамі да Нарвегіі і да перамогі на Маскоўскім "Еўрабачанні". Вырывай не вырывай тыя дзьмухаўцы, усё адно разлятуцца і прарастуць сонечным ветрам, светлаю згадкай.

Але пачынаць вызваленне бульбы варта было б з калючых дзядоў. У ейнага дзеда пад канец жыцця, яна добра тое памятала на дотык сваіх далікатных ручак і не менш далікатных шчочак, і ў дзеда на твары было гэткае ж колкае, сівое шчацінне. І калі ён памёр, ёй заўжды здавалася, і цяпер, бач ты, здаецца, што ён ператварыўся ў расліну. Калючую, чэпкую, да дзявочых спадніц ліпучую. Але дзяды мусяць саступіць месца маладым высакародным парасткам. Калі ўвесь час думаць толькі пра мінулае, будучыня завяне. Цяпер ёй чамусьці ўтульней не сярод сваіх аднагодкаў, а сярод моладзі, сярод тых, хто ўмее марыць, хто смелы і дзёрзкі, хто не баіцца лётаць і чапляецца не толькі за свае хваробы і дзявочыя спадніцы.

Крапіва — самае карыснае пустазелле. З яе і суп са шчаўем зварыш, ёю галаву памыеш, і для градак угнаенне цудоўнае. Адно слова — крапіва. Усюдыісная, балбатлівая, вострая на язык пякучка. Як жа гэта навучыцца не абгаворваць, не выносіць раней часу сваю радасць, ды й бяду на людзі?

А гэты ўюнок, што так дарэчы абвівае плот, засланяючы ад суседзяў сядзібу, можа зусім задушыць бульбу. Яе з абдымкаў гэтай недарэчнай, кволай з выгляду міні-ліяны не выбавіць. Спляліся, лічы, зрасліся, як сіямскія блізняты. Усё, што ўецца, звязана з хмелем, з вінаградам, а значыць, з півам, вінoм... Затое з бульбы робяць фірменную гарэлку "Бульбаш".

Бульба, аплеценая ўюнком, не ўродзіць. Яе хіба што на гарэлку пусціць потым можна. Дзе ў хаце завялося п'янства, яно шашалем абразы сточыць, і не заўважыш, як ад кахання, сям'і труха застанецца.

А вось з хрэнам, што гэтак самавіта паўстаў сярод бульбачкі, можна было б і пазмагацца. Салярны акруглы знак здаўна быў і жаночым знакам. А мужчына, будаўнік ды ваяр, асацыяраваўся з чымсьці крышталічна ўстойлівым. Круглае яно ж коціца і коціцца. А крышталік стаіць, урастае, узрастае, спыняе тое, што коціцца. У XXI стагоддзі сярод першаэлементаў, якія на мікраўзроўні вызначаюць жаночы і мужчынскі пачаткі, навукоўцы нечакана, а для мастакоў з часоў першабытнасці і "Пацалунку" Густава Клімта, зусім нават натуральна, адкрылі, што жаночы першаэлемент нагадвае вяночак, а мужчынскі — крышталічны ромбік, лісточак. Хрэну.

Паліна Эдуардаўна хацела падчапіць цяпкаю хрэн. А падчапіла разам з ім і бульбачку. Ужо з ліловаю квеценню, ужо з кругленькім, у жменьку велічынёю маладзенькім наедкам. Корань хрэна, моцны і пругкі, ухапіў бульбачку і не выпускаў. Проста помнік нейкі жывы шчаслівай сям'і. Яна іх атрэсла і паклала на ганак з падгнілымі ад часу трыма прыступкамі. Бульбу выпалала. Зямлю цяпкаю ажывіла. Вільготным летам каларадскіх жукоў мала. Усяго пару давялося раздушыць. Брыдка, ды што паробіш. Не хочацца аддаваць сваё ні мясцовым чарвячкам, ні заакіянскім каларадскім жучкам.

Неба тужылася, тужылася і зноў заплакала цёплым летнім дажджом. Паліна Эдуардаўна, нацягнуўшы на галаву капюшон, агледзела астатнія грады, кветкі, памыла рукі, нашчыпала цыбулі, укропу, наабірала клубніцаў, суніцаў і, нарваўшы букет белых, ахутаных мройным салодкім водарам кахання півоняў, рушыла на электрычку. Сёлета, пэўна ж, у іх будзе зноў і вішань, і яблыкаў, і пэўна ж, яны зноў не будуць ведаць, дзе іх падзець. І бульба з хрэнам будуць. Каб, як любіў прыгаворваць бацька, не казалі, што няма на стале ні храна, ні хрэна. Шкада, што выдраныя з зямлі маладзенькі клубень бульбачкі з пругкім ужо коранем хрэна яна пакінула на ганку, мокнуць пад дажджом. Можна было б сваім паказаць гэткае дзіва.

— Дайце мне вабны акруглы камячок мармуру ды рэзкі, жылісты з бронзы корань. Я з'ядную іх і перавярну свет, — сказаў Скульптар.

У электрычцы, удыхаючы водар самлелых ад шчасця півоняў, яна задрамала. І ў сне пачала весці цяпер ужо неіснуючы ўрок сусветнай мастацкай культуры. На ўвесь экран ажыла адна з самых славутых сцэн "Сіксцінскай капэлы" Мікеланджэла. Стварэнне Адама. Адам яшчэ вялы. Але Бог, а можа Ева, што вызірае з-пад ягонае рукі, вымушаюць яго на нашых вачах налівацца сілаю. Дух ажыўляе цела, а цела гатовае да стварэння новага духу. Зямля прагна ловіць пяшчотныя нябесныя дотыкі цёплага дажджу. Каб урадзіла. Тут і зараз.

## Сметнік

### Сплін па васільках

Яна ніколі не думала, што апынецца на сметніку. Але ёсць мяжа болю, якую, калі пераадолець, ужо не баліць. Болевы шок называецца. Яе душа перажыла гэткі шок. Цяпер ні людзі, ні звяры былі ёй нямілы. Толькі рэчы... Тыя рэчы, што як і яна, апынуліся на сметніку. І яна, тут, на сметніку, раптам пачала адчуваць іхні лёс, як свой.

Вось разарваная нітка, жменя натуральных пярлінаў. Яна ссыпала гэтыя пярліны ў іржавую бляшанку і пачала нанізваць іх на леску, якую адарвала ад зламанае вуды. Яна сядзела на перавернутай пластмасавай скрыні з-пад бутэлек і моўчкі нанізвала пярліны. Адну, другую, трэцюю і яшчэ сорак пяць. Усяго сорак восем. Як ёй гадоў. Як гадоў той жанчыне, што калісьці ў маладосці пазіравала ў гэтых каралях мастаку. Мастак папрасіў, каб яна нічым не засціла сваё дасканалае, жывое цела. Нічым, апроч гэтых пацерак. І яна іх надзела і, скінуўшы халацік, легла на канапу. Мастак, дзёрзкі, крыху іранічны, з вусамі, з-пад якіх раз-пораз з'яўлялася не ўсмешка, лёгкі посмех, і ў капелюшы. Чамусьці ён нават у майстэрні не здымаў капялюш, з тых, што ўславілі мушкецёраў. А вочы ў яго былі лёгкія. Як гэтыя пярліны, каралі. Толькі не з малочна-белым, а блакітным святлом. Ён пісаў апантана і горача. Ён, здавалася, раставаў у яе целе. У яе вачах. І ў гэтых жывых, пульсуючых пярлінах. На выставе твор меў шалёны поспех. Потым хтосьці хацеў набыць тое палатно. Але мастак зрабіў на продаж аўтарскую копію. А арыгінал пакінуў у майстэрні, у сваёй белай, — столь, падлога, сцены — усё белае, у сваёй белай, як боскае святло майстэрні. А побач з карцінай, на цвік, што чакаў новага шэдэўра, ён павесіў пацеркі, тыя самыя, у якіх яна яму пазіравала. Белае на белым. Пярліны на сцяне. Як у ракавіне-перлавіцы. Толькі не па адной, а разам. Потым нехта зачапіў, нітка парвалася. Пярліны рассыпаліся, пакаціліся па белай падлозе. Гэта быў знак смерці. І, ведаючы гэта, жонка мастака сабрала ўсе пярліны і разам з тымі, што заставаліся на парванай нітцы, выкінула на сметнік. І тым самым уратавала яму жыццё. Можна не верыць у прыкметы. Але так хочацца жыць. Асабліва, калі ведаеш, што і як казаць людзям, чаго прагне тваё ўспрымальнае да тваіх пачуццяў і думак, да фарбаў свежае, бялюткае, як божы свет, палатно...

І яшчэ яна адшукала на сметніку рукапісы. У выдавецтве выкідалі, набраныя не на камп'ютэры, а яшчэ на машынцы, кнігі. Выкінулі і гэтую. Зборнік маладой, цяпер ужо сталай паэткі, якая адна гадавала сына. Калі нарадзіўся сын, яна забылася на здадзены ў друк, яшчэ за тым часам, калі камп'ютэры былі не ва ўсіх, свой зборнік. На выданне якога ў яе ўсё адно не было грошай. Зборнік называўся "Пярліны". Вершы нанізваліся ў ім, як пярліны на адзіную, нацятую, як струна, леску яе няспраўджанага, дакладней, спраўджанага толькі ў сыне кахання. У сыне лепш, чым толькі ў сне.

...Іглінкамі боль
Прыхавала галінка.
Так стала калючаю
Наша ялінка...
...Мой боль
З'ядае душу,
Як моль.
Моўчкі гляджу
У столь.
А па падлозе ценем сцелецца
Боль.
Дымам душыць,
Горла сушыць.
Я разаб'ю
Столь.
Выпушчу ў неба
Боль.
А сама палячу па шчасце.
Толькі б цяпер не ўпасці.

Пачуцці, ўкладзеныя ў дакладна знойдзеныя словы, маглі б суняць чыйсці боль. Каб не апынуліся на сметніку.

А гэты звялы, ссохлы, выцвілы букет васількоў яна адразу пазнала. Тры з іх яна засушыла між старонкамі ў сваім нататнічку, адзінае, што ўзяла з сабою з таго жыцця, якога, бы і не было. Сын падарыў ёй гэты букет. І цыдулку: "Мамуля! Я цябе люблю!" Яна трымала яго доўга-доўга. Тры кветкі засушыла. А складзеная цыдулка ляжала з васількамі ў яе нататніку. Сын яе любіў. І яна яго любіла. Таму не хацела замінаць яму жыць. Яна магла памерці. І нават напісала ліст пра тое, што яе пасля смерці мусяць спаліць і падхаваць да бабулі. Каб не траціцца на новы помнік. Але раптам ёй неяк востра, да душэўнага ўсхліпу, за якім пачынаецца палёт натхнення, захацелася жыць. Хоць на сметніку. Не сярод людзей. Не сярод жывёл. А сярод рэчаў, што хаваюць іхнія лёсы.

...Вось такі сплін па васільках, што калісьці красавалі ў жыцце. У жыцце, у жыцці, у чыімсьці жыцці яны красавалі. Але тое, што замінае каласіцца жыту і жыццю, мусіць быць на сметніку. Сметнік расце, шырыцца. Непатрэбных рэчаў, як і людзей, робіцца ўсё болей і болей. Яны блукаюць, як цені, люляюць сваё мінулае, не знаходзячы прытулку, ні ў тым, што ёсць, ні ў тым, што будзе. З васількоў не спячэш хлеб і не зварыш кампот. Хіба што вяночак сплесці на Купалле. І пусціць яго па вадзе. Як калісьці ў юнацтве. Калі верылася ў шчасце.



# Фільм, фільм, фільм…



З мяккім гумарам распавядае гледачу тыповую для нашага часу гісторыю пра вясковую дзяўчыну, якая шукае замежнага жаніха, кароткаметражная стужка Ігара Асмалоўскага з рабочай назвай "Правінцыялы". Камедыя з нескладаным сюжэтам зроблена калектывам, які працаваў… за ідэю. Гэта значыць задарма.

У сітуацыі, калі ўсе — і знакамітыя майстры, і моладзь — скардзяцца на крызіс і чакаюць грошай, каб пачаць здымачны працэс, "найдётся вдруг чудак, этот чудак всё сделает не так", зусім як у песні Андрэя Макаравіча. Дзівак, бо не разумее, а чаму гэтак нельга. Ці таму, што ўпэўнены: калі вельмі хочацца, усё магчыма.

Ігар Асмалоўскі ў кіно ішоў пакручастым шляхам: вучыўся ў Брэсцкім педагагічным інстытуце, працаваў "паўсюль" — музыкантам, фатографам, таксістам, напісаў дзве кніжкі ("Эктомия" і "ЦК"), надрукаваў каля дзесяці апавяданняў у перыёдыцы, узначальваў швейнае прадпрыемства са штатам 300 чалавек, якое, як сам кажа, "з дапамогаю дабрадзеяў паспяхова збанкрутавала". Урэшце І. Асмалоўскаму давялося папрацаваць памочнікам рэжысёра па рэквізіце ў сямі маскоўскіх праектах: здымкі вяліся на базе Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". У стужцы Дзмітрыя Астрахана "Усё сумленна" Ігар нават выканаў эпізадычную ролю. Прыгадвае: "Астрахан заўважыў, што ў мяне атрымліваецца, запрасіў хадзіць з ім на агучванне, мантаж". У фільме Д. Астрахана "Ярмо кахання" Асмалоўскі — другі рэжысёр, а ў "Бацьках і дзецях" Д. Смірновай выканаў ролю лёкая Адзінцовай.

І паступова нарадзілася неадольнае жаданне зняць кіно самому. Таму што дакрананне да свету кіно, як і экстрэмальныя віды спорту, зацягвае і робіцца лёсам. Першую аматарскую 18-хвілінную стужку Асмалоўскі зняў пра жонку і дзяцей. На піцерскім фестывалі аматарскага кіно "Антигравитон" яго першая рэжысёрская спроба была адзначана спецыяльным дыпломам журы. Значыць, атрымліваецца! Натхнёны ўзнагародай, Ігар Асмалоўскі робіць наступны крок — вырашае здымаць камедыю: "Запытаўся ў прадзюсера Сяргея Сямёнава: дапаможаш? — "Згодны", — кажа. — Але грошай няма. — "Усё адно згодны".

Ідэя, нібы магніт, пачала прыцягваць людзей. "Спачатку вагаўся паміж меладрамай і сур'ёзным кіно з драматычным сюжэтам, але камедыя перамагла. Ды канчаткова ад сур'ёзных ідэй не адмовіўся, яны — на чарзе", — усміхаецца Ігар. У адказ на пытанне, як угаварыў 30 чалавек (а менавіта столькі занята ў карціне) працаваць бясплатна, смяецца: "І сам не разумею".




Смяюцца і яны — маладыя і сталыя, поўныя творчай энергіі. Беларускія акцёры Алеся Прохарава, Валерый Зяленскі, Ганна Кісель ды іншыя сышліся на тым, што крызіс не ў адсутнасці сродкаў, а ў недахопе крэатыўных ідэй. І таму куды весялей працаваць, чым бадзяцца ў чаканні грошай. Абмяркоўвалі сцэнарый з Віталем Кінчаком, гаспадаром рэкламнай "Студыі 42". Той таксама пагадзіўся дапамагчы: "А ці можна і мне ў гэтым паўдзельнічаць?". І выканаў ролю немца — таго самага замежнага жаніха гераіні фільма. Музыку напісаў Віктар Гурын. Аператар Аляксандр Мароз, якога літаральна выхоплівалі для здымак з іншых праектаў, дамаўляўся з калегамі і браў патрэбную апаратуру "па бартэры". З апаратарскім кранам дапамаглі супрацоўнікі кінастудыі — дзеля добрай справы не шкада. Знайшліся і спонсары, бо здымачную групу трэба было карміць, аплаціць праезд, бензін…

І вось — "Правінцыялы". За восем дзён здымак нарадзілася камедыя — з любоўю, цёплым гумарам, лёгкая.

"Сцэнарый паводле аднаго з маіх невялічкіх апавяданняў, — гаворыць І. Асмалоўскі. — Ніякай дакументальнай асновы, чыстая выдумка. Тэма вечная: дзяўчына шукае мужа. Мы ўсе здымаем бясконцыя гісторыі Рамэо і Джульеты, Папялушкі…

Усе гісторыі даўно вядомыя, галоўнае — тваё адметнае бачанне, твая трактоўка".

У гераіні стужкі Аксаны выбар ёсць: першы хлопец вёскі трактарыст Коля згодны назваць яе жонкаю, і Воўка, які вучыцца ў горадзе на сантэхніка, — таксама. Але Аксана, якая старанна выконвае абавязкі па хатняй гаспадарцы і даглядае свіней, у вольную хвіліну сядзіць у Інтэрнеце. Шукае прынца замежнага. Замалёўкі сялянскага жыцця і добра адладжаны сюжэт вымушаюць залу рагатаць. Аксана, дзяўчына настойлівая, дамагаецца свайго — выходзіць замуж у Нямеччыну. Добраўпарадкаваны побыт, нашпігаваная сучаснай тэхнікай гаспадарка, на стале — ноўтбук, у ім на "Аднакласніках" фота Воўкі з жонкаю і немаўлём. Нямецкі муж цалуе Аксану — і садзіцца за руль трактара. А яна выпраўляецца карміць… свіней. Стваральнікі стужкі наўмысна пакідаюць адкрытым пытанне: а ці варта было шукаць шчасця так далёка, калі сутнасць наканавана не памянялася?

Нованароджаную беларускую камедыю — вынік двух месяцаў рэжысёрскага жыцця — Ігар Асмалоўскі мяркуе паказаць на ўсіх даступных фестывалях, пачынаючы ад Маскоўскага "Арт-кіно". І нават самому Эміру Кустурыцы.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: рабочы момант здымак; Жаніхі Коля і Воўка ў роспачы; рэжысёр Ігар Асмалоўскі.

Фота Віктара Зайкоўскага

Увечары 13 студзеня, а дакладней — у ноч на Стары Новы год Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі парадуе публіку незвычайнай прэм'ерай. Падзея, якую рыхтуюць гаспадары дома на Траецкай гары, адбудзецца ўпершыню за ўсю гісторыю нашага найстарэйшага музычнага тэатра і ніколі больш не паўторыцца, бо не паўтараюцца рэальныя жыццёвыя гісторыі, нават калі ў іх аснове — дакладны сцэнарый казачнага свята.

# Баль на Траецкай гары

Кажуць, што сюрпрызы не варта рассакрэчваць: тым, для каго яны прызначаюцца, потым будзе нецікава. Аднак стваральнікі-арганізатары імпрэзы "Вялікі навагодні баль у Вялікім тэатры" самі запрасілі журналістаў на размову. Загадзя раскрыць усе таямніцы новага праекта проста немагчыма, бо яго праграма, як заўважылі рэжысёр Галіна Галкоўская і музычны кіраўнік Вячаслаў Воліч, разлічаная аж на чатыры гадзіны — там і феерверк сюрпрызаў, і творчая імправізацыя, так што чарада прыемных нечаканасцей публіку не абміне.

У аснове грандыёзнай задумы — перадусім традыцыі шляхетнага беларускага балю, а таксама венскіх баляў і "пятроўскіх асамблей" (знойдзены арыгінальны сцэнарны кампраміс паміж колішнімі правіламі ды рэаліямі XXI стагоддзя). А дзявятай гадзіне вечара будзе ўрачыста абвешчаны пачатак балю. Аднак тэатр пачне прымаць гасцей з 20.00. Прычым, у гэты час кожны зможа звярнуцца да прафесійных танцмайстраў, каб атрымаць урок... паланеза: на балі яго мусяць выконваць усе! Яшчэ адна абавязковая ўмова для гледачоў — дрэс-код: хай нават сціплыя, але вечаровыя сукенкі ды туфлікі для дам, гарнітуры для кавалераў. Не толькі глядзельная зала, але і фае ўсіх ярусаў, і ўтульныя камерныя куткі напоўняцца пазітыўным духам высокага мастацтва. Прысутныя змогуць паслухаць і паглядзець некалькі канцэртных праграм з удзелам не аднаго і нават не двух аркестраў, асвоіць не толькі класічны паланез,



а і вясёлыя свецкія забавы, паўдзельнічаць у гульнях і конкурсах, адпачыць за ціхай размовай, пазнаёміцца са знакамітасцямі (хто са славутых выканаўцаў ці літаратараў запрошаны на баль — сакрэт!). І апоўначы сустрэць Стары Новы год з традыцыйным келіхам шампанскага ў асяроддзі артыстаў.

Словам, чакаецца шыкоўнае свята, дзе весці рэй будзе Яе Вялікасць Музыка. А што да прозы жыцця... Кошт уваходнага білета (сюды, скажам так, уключаны ганарар музыкантаў, артыстаў, аплата паслуг харэографа, сувеніраў і прызоў для ўдзельнікаў гульняў, шампанскага з лёгкай закускай) — 120 тыс. рублёў. Для эксклюзіўнай імпрэзы вялікага творчага калектыву гэта няшмат, асабліва ў параўнанні з круглымі лічбамі на рэкламных афішах (адпаведна, і на білетах) поп-гастралёраў, "фанерных спраў" майстроў...

С. ВЕТКА

На здымку: атрыбут свята.

Фота Віктара Кавалёва

# Тое, што блізка

Для Польскага інстытута ў Мінску ("IP") мінулы год быў знамянальны: прадстаўнічая і паважаная ўстанова адзначала 15-годдзе сваёй працы на абсягах Беларусі.

Зрэшты, адметную дату ў дзейнасці "IP" мы адзначалі разам, бо на працягу паўтара дзесятка гадоў і ў сталіцы нашай краіны, і ў рэгіёнах ладзіўся дыялог з вельмі блізкай для беларусаў культурай Польшчы, адбываліся прэзентацыі яе набыткаў і агледзіны нашай агульнай спадчыны, ажыццяўляліся супольныя праекты, скіраваныя на падтрымку дасягненняў у розных сферах беларускай мастацкай творчасці, у гуманітарных навуках — дзеля развіцця добрасуседскіх, сяброўскіх дый роднасных стасункаў між двума народамі.

Самы першы ў свеце польскі культурны асяродак быў створаны ў Будапешце — у 1939 годзе. А на пачатку 90-х, калі ва Усходняй Еўропе з'явіліся новыя незалежныя дзяржавы, Польшча пачала актыўна развіваць стасункі з тымі краінамі, з якімі мае глыбокія шматвяковыя гістарычныя і культурныя повязі. Вынікам адпаведных ініцыятыў сталася адкрыццё Польскага інстытута ў Мінску (1994), а затым у Вільнюсе (1996) і Кіеве (1998). Сёння ў розных краінах і на розных кантынентах працуюць ужо 22 такія інстытуты, якія займаюцца найперш папулярызацыяй дасягненняў польскай культуры і навукі за мяжой. Аднак відавочна, што 15-гадовая прысутнасць "IP" у Беларусі адметная не толькі правядзеннем самых розных пазнавальных імпрэз, а і супрацоўніцтвам, тым узроўнем партнёрства, што спрыяе шчырым кантактам, крэатыўнаму і пленнаму абмену ідэямі, збліжэнню краін і людзей.

Колькі адбылося запамінальных праграм, візітаў выдатных прадстаўнікоў польскай культуры і навукі! У наш каляндар арганічна ўвайшлі такія штогадовыя акцыі, як "Восень з польскай культурай", "Дні польскага кіно", "Залатая сотня Польскага тэлебачання", "Польскі відэаклуб". Выступленні польскіх арганістаў, джазменаў, дырыжораў, камерных выканаўцаў упрыгожваюць наша канцэртнае жыццё; поспех суправаджае вернісажы плакатыстаў, фотамастакоў, графікаў. Прадстаўнікі краіны-суседкі ўдзельнічаюць у значных міжнародных фэстах ("Белая Вежа", "Панарама", "Лістапад"). Дапамагае "IP" у правядзенні канферэнцый, семінараў і майстар-класаў, падтрымлівае арыгінальныя выдавецкія праекты, выпуск нотадрукаў, музычных дыскаў, літаратурных перакладаў; развівае сувязі з беларускімі музеямі, бібліятэкамі, установамі адукацыі і навукі...

Агульнае наша святкаванне 190-годдзя Станіслава Манюшкі; сустрэчы з легендарным Анджэем Струмілам; трыумфальны канцэрт мужчынскага вакальнага ансамбля "Affabre concinui"; парад плакатаў з Галерэі Кшыштафа Дыды; знаёмства з талентамі Іааны Пехі Рамана Каларуса; адкрыццё пяшчотнага і дзёрзкага — джазавага! — Шапэна ў віртуознай версіі Адама Маковіча... Мы ўспамінаем цудоўныя падзеі, да якіх "IP" на чале з яго дырэктарам Пятром Казакевічам спрычыніўся ў 2009-м, чакаем новых праектаў і ўжо ведаем, што сёлетні Год Фрыдэрыка Шапэна, прысвечаны юбілею гэтага геніяльнага "паэта фартэпіяна", беларусы і палякі адзначаць разам.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# Ролі для новых адкрыццяў

**На яе долю выпала гучная слава. Ды і сёння актрыса запатрабаваная: Матушка ў "Вяселлі", Альжбета ў "Паўлінцы", галоўная гераіня ў "Дамскім танга". Ала Доўгая гатовая іграць усялякія ролі. Ёй цікава ўсё. Але гэта не адзнака непераборлівага густу альбо легкадумнасці, а творчая пазіцыя, заснаваная на жыццялюбстве і даверы да рэжысёра і драматурга.**

У жыцці Алы Доўгай шмат шчаслівых супадзенняў, быццам сам лёс беражліва вёў яе на сцэну, забяспечваючы ўсім неабходным, каб актрыса магла засяродзіцца на галоўным — на творчасці.

Пасля заканчэння БДТМІ (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) у Дзмітрыя Арлова яна працавала ў Коласаўскім тэатры і збіралася ўжо асталявацца там, у Віцебску: муж, дзіця... Але трапіла на сталічны конкурс — шукалі новую Паўлінку для купалаўскай сцэны, маладую актрысу, якая ўмела б спяваць. Ала Доўгая паспяхова прайшла пробы, хаця да гэтага практычна не спявала і чамусьці была ўпэўненая, што ў яе няма голасу.

Яе залічылі ў трупу Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, але выйсці на галоўную сцэну краіны актрыса змагла толькі праз год. Яна памятае той выхад як сёння: 25 чэрвеня, дзень нараджэння Петруся Броўкі. Шасцідзесяцігадовы юбілей пісьменніка адзначаўся ў тэатры паказам спектакля "Паўлінка". Але здарылася фатальная нечаканасць: Бірута Дакальская, выканаўца галоўнай ролі, захварэла і не змагла выйсці на сцэну. Тэрмінова ўводзіцца ў спектакль Ала Доўгая. Ёй трэба было зрабіць неверагоднае — упершыню выйсці на сцэну ў самай аўтарытэтнай пастаноўцы, кожную рэпліку ў якой усе ведалі на памяць. Ды і публіка ў той вечар была не звычайная: эліта эліт. Таму і адказнасць вялізная. Ці трэба казаць, што гэты спектакль мог стаць апошнім у кар'еры дэбютанткі? Ад усведамлення ўсяго гэтага маладая актрыса вельмі хвалявалася. Тым больш, што не паспелі парэпеціраваць у поўным складзе з карыфеямі-купалаўцамі, ролю давялося вучыць амаль самастойна. Спадзяванне было толькі на сябе. Сёння Ала Пятроўна прыгадвае высокае нервовае напружанне, калі "мурашкі бегалі па скуры", а пасля спектакля нават падскочыла тэмпература.

Потым яна выходзіла на сцэну ў гэтай ролі сотні разоў, бо спектакль меў вялікую папулярнасць і купалаўцы часта выязджалі з ім за межы сталіцы. Кожны сезон.

І вось аднойчы падчас творчай сустрэчы ў Алы Доўгай запыталіся, колькі гадоў яна іграе Паўлінку. Адказ актрысы выклікаў здзіўленне: "Дык колькі ж тады вам?". Ёй было пад сорак, Паўлінцы, паводле Купалавага тэксту, — 18. Ад нетактоўнага пытання, на якое трэба было штосьці адказаць, Ала Пятроўна не збянтэжылася: "Мне столькі, колькі маёй Паўлінцы". Прысутныя з палёгкай уздыхнулі... Сёння актрыса прызнаецца: "Калі не гляджу ў люстэрка, не адчуваю свой узрост". І з усмешкай прыгадвае афарызм: "Каб быць маладым, трэба шмат пражыць".

А іграць Паўлінку Ала Пятроўна закончыла, калі ёй споўніўся 41 год. Яна добра запомніла словы класіка: "Ніколі не перажывай сваю славу"...

Ажыятаж вакол яе Паўлінкі прайшоў, цяпер іншыя актрысы выконваюць гэтую зоркавую ролю. Але як жа трэба любіць гэты спектакль, каб працягваць у ім іграць! Сёння Ала Доўгая выходзіць на сцэну ў Купалавай камедыі ў вобразе Альжбеты. Спачатку нялёгка было пераарыентавацца з адной ролі на другую, тым болей, што дзеянне адбываецца ў тых жа "родных" дэкарацыях. Неяк Ала Пятроўна нават падала рэпліку за Паўлінку... Зрэшты, у гэтым спектаклі яна можа сказаць тэкст за каго хочаш. Паўлінка, Альжбета... У агульнай колькасці ў гэтай п'есе Ала Доўгая іграе каля 40 гадоў!

"Чым даўжэй іграеш спектакль, тым больш упэўнена сябе адчуваеш, прыходзяць досвед, майстэрства. Але гэта не значыць, што трэба спадзявацца толькі на сваю памяць і, што называецца, на аўтамаце рабіць сваю працу. Гэта аднастайна і нецікава. Прыемна выходзіць на сцэну і соты раз, калі твая роля "абрастае" новымі падрабязнасцямі, нюансамі. Усе гэта чэрпаецца з жыцця, са штодзённых назіранняў, з кругагляду, з унутранага свету акцёра. Трэба іграць, як у апошні раз, і знаходзіцца ў бесперапынным пошуку. Тады майстэрства будзе на высокім узроўні", — мяркуе Ала Пятроўна.

Ёй пашанцавала на зоркавую, можна сказаць, этапную, ролю. Нягледзячы на гэта, А.Доўгая лічыць аднолькава ўлюбёнымі ўсе свае ролі. І прынцыповай супраць вызначэння амплуа — лічыць гэта навязваннем творчай асобе акрэсленага абрыса, што збядняе артыста, які павінен умець сыграць абсалютна ўсе, нават процілеглыя вобразы. Вось і ў самой А. Доўгай няма нічога агульнага з гераіняй "Дамскага танга" — векавухай, хатняй недарэкай. "Чатыры разы прачытала гэтую п'есу, і мяне нішто не зачапіла", — прызнаецца яна. Але таленавітая актрыса знайшла падыход да "шрага" вобраза, убачыла некранутую глебу для новых акцёрскіх адкрыццяў. Бліскуча ўвасобіла сваю новую гераіню — глядач такую Алу Доўгую яшчэ не бачыў!

Ала Пятроўна любіць працаваць з апантанымі рэжысёрамі. Рэпетыцыі з імі ператвараюцца ў буянства ідэй, нястрымную творчасць у рэжыме "нон-стоп". Узнікае ланцуговая рэакцыя: ад рэжысёра творчай энергіяй зараджаюцца і артысты. Так адбывалася падчас пастаноўкі маскоўскім рэжысёрам Уладзімірам Панковым саунд-драмы "Вяселле" паводле А.Чэхава. Актрысу захапляюць і рэжысёрскія эксперыменты кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалая Пінігіна: "У яго столькі фантазіі — цікава рэпеціраваць!".

Але не ўсе эксперыменты даспадобы патрабавальнай Але Пятроўне. Да такіх, як тэлевізійны праект "Паўлінка-new", яна ставіцца негатыўна: "Поўная безгустоўнасць. Праект-аднадзёнка, створаны дзеля рэйтынгу і незразумела на каго разлічаны. Гэта не толькі непавага да нацыянальнай літаратуры, але і адсутнасць павагі да тэлегледача. Глядач разумны разбярэцца, не будзе марнаваць час на бязглуздзіцу. "Паўлінка-new", пасрэднае шоу з "зоркамі", нішчыць твор Янкі Купалы і прайграе жывому тэатральнаму спектаклю ва ўсім. А наша "Паўлінка" і сёння папулярная сярод усіх узростаў, асабліва ў моладзі.".

Прадстаўніца старэйшага пакалення купалаўцаў, А. Доўгая ў малодых акцёрах бачыць годную змену: "Яны адразу падхопліваюць традыцыі тэатра і дадаюць новую энергію. Маладыя ў нас — таленавітыя, і рамяство ведаюць. А што не ведаюць — з часам прыйдзе. Бракуе хіба што апантанасці. Той, якая была ў нашага пакалення. Няма таго творчага асяроддзя, атмасферы, што была раней... І не ўсё ў акцёрскай прафесіі вызначаецца талентам, патрэбна вялікае жаданне іграць і вучыцца, быць у заўсёдным пошуку, шмат чытаць, глядзець, думаць".

Аддаўшы тэатру 45 гадоў, Ала Доўгая чамусьці дагэтуль застаецца без ганаровых званняў, якія яна, безумоўна, заслужыла. Аднак у святле рампы званні не маюць значэння. Галоўнае — глядацкая любоў, без якой не мае каштоўнасці тое, што ты робіш. А гледачы яе любяць.

Марына ДОЎГЕР

На здымку: Ала Доўгая і народны артыст Беларусі Арнольд Памазан у спектаклі "Паўлінка".

# Чутны крок у галерэі

**Больш як сотня работ жывапісцаў, фотамастакоў, майстроў акварэлі размясцілася ў трох выставачных галерэях Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — "Лабірынт", "Атрыум" ды "Ракурс". Гэта пераважна зусім новыя творы, прадстаўленыя чальцамі грамадскага аб'яднання "Міжнародная гільдыя жывапісцаў" у межах традыцыйнага штогадовага праекта "Арт-крок".**

Старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, загадчык галерэйна-выставачнага комплексу мастак Фёдар Ястраб добра памятае першы "Арт-крок". Здзейснены ён быў у снежні 1999-га, калі самыя паспяховыя беларускія майстры ды іх маладыя калегі, што працуюць на памежжы розных відаў і жанраў творчасці, наладзілі яскравую калядную выстаўку ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Мінула 10 гадоў. Дзякуючы таму, што ля цэнтральнай магістралі Мінска паўстаў такі гігант айчыннага дойлідства, як Нацыянальная бібліятэка, у нашых творцаў (шмат у чым дзякуючы энтузіязму і арганізатарскаму таленту іх калегі Фёдара Ястраба) з'явілася магчымасць асвойваць новую выставачную прастору. У беларускім культурным асяроддзі распаўсюджваецца цяпер не толькі водгулле арт-крокаў, што кожную зіму гучаць у галерэях бібліятэкі, а і добры розгалас іншых крэатыўных праектаў Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, такіх напрыклад, як "Арт-лінія" (выстаўка і конкурс графічных работ), біенале жывапісу, "Universum"...

Чарговая выстаўка "Арт-крок", што адкрылася на пачатку снежня мінулага года, будзе працаваць да 12 студзеня. Экспазіцыя адлюстроўвае новыя творчыя крокі знаных прафесіяналаў і дазваляе заўважыць адметную хаду тых маладых мастакоў, якія ўжо выявілі сваю індывідуальнасць. Васіль Касцючэнка, Мікола Кірэеў, Сяргей Малішэўскі, Алесь Забайчык, Уладзімір Кожух, Зоя Луцэвіч, Барыс ды Іван Сямілетавы, Георгій Паплаўскі, Фёдар Ястраб, Зміцер Сурыновіч, Каміль Камал, Уладзімір Ісачанка, Аляксандр Грышкевіч, Уладзімір Дзядзюля, Вера Джукіч, Уладзімір Шчаўкун, Віталь Губараў, Сяргей Кажамякін, Аляксандр Някрашэвіч... Дастаткова і гэтых прозвішчаў (а калі назваць усіх удзельнікаў праекта, іх будзе амаль паўсотні!), каб дасведчаны чытач зразумеў, наколькі розных — здавалася б, несумяшчальных ў адной прасторы, — мастакі прадстаўленыя на выстаўцы і наколькі гэта цікава.

Лана ІВАНОВА

На здымках: творы, прадстаўленыя ў экспазіцыі.

Фота Віктара Кавалёва




## Слова краязнаўцы



Аляксей Дуброўскі з Пінска разважае пра экалагічнае краязнаўства:

— Краязнаўства — адзін з найцікавейшых заняткаў чалавека, які жадае спазнаць наваколле. Мяне заўжды цікавіла гісторыя, прырода, падарожжы. Працуючы інжынерам, падчас адпачынкаў яшчэ ў 1970-я здолеў даехаць і да Архангельска, і да егіпецкіх пірамід, прайсціся сцежкамі Сяргея Ясеніна і Льва Талстога. Пазней, на роварах з Пінска даехаў да Адэсы, Кракава, Гданьска. Я адкрыў для сябе шмат новага, у тым ліку і багаты духоўны свет людзей. Усе мае падарожжы дапамаглі па-сапраўднаму ацаніць месца, дзе нарадзіўся і жыву. Радзіма стала яшчэ даражэйшай і цікавейшай: я пачаў адкрываць новыя старонкі ў яе гісторыі, знаёміцца з багатай прыродай.

Са сваімі захапленнямі знаёмлю і іншых. Вось адзін прыклад з майго жыцця. Звярнуліся да мяне з адной школы з просьбай, каб я для трэцякласнікаў правёў экскурсію па гарадскім парку. Прыйшоў напярэдадні, пагледзеў, якія травы растуць. З іх і пачаў свой аповед, пра іх лекавыя якасці. К канцу экскурсіі школьнікі падаставалі сшыткі і пачалі запісваць тое, што я расказваю. А пасля і ўвогуле не хацелі мяне адпускаць. У кожнага ёсць бабулі, дзядулі, якія хварэюць. І дзеці пыталіся, якімі зёлкамі іх можна вылечыць. І гэта настолькі сур'ёзна і кранальна, што вырашыў і надалей займацца экалагічным выхаваннем. Можа, веды дапамогуць людзям усвядоміць, што трэба беражліва адносіцца да прыроды. Хаця пра экалогію шмат вядзецца гаворак і ў дзіцячых садках, і ва універсітэтах, а лясы як звальвалі смеццем, так і працягваюць завальваць…

Зараз з'явілася шмат тэхнічных магчымасцяў, каб вывучаць раслінны вакол гарадоў і вёсак, фаўну старых паркаў. Тэм для такой працы бязмежная колькасць. У садках і школах больш увагі трэба надаваць паходам на прыроду з канкрэтным заданнем кожнаму дзіцёнку. Адна старэнькая турыстка з Польшчы, пасля таго, як я паказаў ёй Палессе, усклікнула: "Гэта ж рай!" Яна мела рацыю. Мы жывём у раі. Каб яго ўбачыць, трэба толькі азірнуцца навокал. Да гэтага трэба ісці. У супрацьлеглым выпадку прырода сама з намі разбярэцца і пакажа кропку на нашай цывілізацыі.

## Год Казіміра Сваяка

На Астравеччыне рупліўцамі-краязнаўцамі выпушчаны буклет да 120-годдзя нараджэння святара Канстанціна Стаповіча. Больш шырока ён вядомы як паэт Казімір Сваяк (1890—1926).

Нарадзіўся святар і паэт 19 лютага ў вёсцы Барані. У 1915 годзе быў высвечаны на ксяндза. Пасля непрацяглых пераездаў, быў прызначаны служыць у касцёл св. Яўхіма ў в. Клюшчаны, што побач з яго роднай вёскай. Выступаў з беларускамоўнымі казаннямі. Хварэў на сухоты. Памёр у Вільні. Згодна з яго жаданнем, над магілай прагучалі развітальныя словы на трох мовах: па-беларуску казаў ксёндз Гадлеўскі, па-польску — Рэпаць, па-літоўску — Чыбірас. Пахаваны на могілках Роса.

120-годдзе Казіміра Сваяка — гэта не свята аднаго дня, 19 лютага. Пад імем гэтага шчырага беларуса павінен прайсці ўвесь год, калі не ва ўсёй краіне, то хаця б на Астравеччыне. Мо землякі яшчэ перавыдадуць паэтычны зборнік Сваяка "Мая ліра" ці філасофскі дзённік "Дзея маёй мыслі, сэрца і волі"?..

Павел РАДЫНА

# Кропку ставіць яшчэ рана...

Пабачыў свет першы том "Летапісная хроніка Берастаўчыны" (Ад старажытных часоў да 1900 года. Падзеі. Дакументы. Фатаграфіі). Здавалася б, дакументальная хроніка "Памяць. Бераставіцкі раён" назаўсёды ўвекавечыла гісторыю краю ад старажытнасці да нашых дзён. Кніга аб'ёмам больш як 600 старонак, якая выйшла ў 1999-м, — яскравае сведчанне плённай працы навукоўцаў і краязнаўцаў. Нездарма рэдактар-укладальнік Мікалай Пацэнка стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Але кропку было ставіць рана. І гэта добра разумеў дапытлівы Мікалай Іванавіч — метадыст па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны раённага метадычнага цэнтра. Таму з краязнаўцамі-аднадумцамі каля дзесяці гадоў працягваў карпатліва працу над "Летапіснай хронікай". Пра гэтую працу расказвае Мікалай Пацэнка.

— Мікалай Іванавіч, што ўяўляе сабой выданне?

— Гэта кніга, у якой на 250 старонках сабраны невядомыя і малавядомыя гістарычныя дакументы і краязнаўчыя матэрыялы. На час выхаду кнігі "Памяць" яны яшчэ не былі знойдзены.

— Якія асаблівасці "Хронікі"?

— Калі ў кнізе "Памяць" гістарычныя падзеі падаюцца ў форме нарысаў, то ў "Хроніцы" па іншай схеме: дата — падзея. Як адзначыў навуковы кансультант прафесар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Сяргей Габрусевіч, "падзею трэба падмацоўваць дакументамі". А пісьменнік Уладзімір Ліпскі падчас наведвання Бераставіцы наказваў: "Абавязкова давайце каментары да падзей, калі адчуваеце, што яны патрэбны". Таму нашы "даты — падзеі" суправаджаюцца грунтоўнымі дакументальнымі матэрыяламі.



Так, пры падрыхтоўцы былі вывучаны і прааналізаваны тысячы старонак розных архіўных дакументаў. Некалькі соцень з іх уключаны цалкам ці фрагментамі ў першы том. Ёсць у кнізе і ілюстрацыі. Гэта як гістарычныя, так і сучасныя фотаздымкі.

— Якія дакументы асабіста вам найбольш дарагія?

— Мне пашчасціла цэлы месяц папрацаваць у Лондане ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны, дзе ў адным з архіўных дакументаў я знайшоў згадку пра крывавыя падзеі ў Бераставіцы ў 1794 годзе падчас паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Спатрэбілася шмат часу, каб адшукаць данясенне ў Пецярбург пра падзеі, якія адбываліся ў Бераставіцы, у адным з маскоўскіх архіваў і атрымаць яго ксеракопію.

— Першы том "Летапіснай хронікі" выйшаў у адзіным экземпляры?..

— Пакуль так. Выдадзены ён у Ваўкавыскай друкарні. Цяпер рэдакцыйны савет, які ўзначальвае намеснік старшыні Бераставіцкага райвыканкама Сяргей Чыкун, шукае спонсараў, каб выдаць "Хроніку" накладам хаця б 100 экземпляраў, каб яна трапіла ў школы, бібліятэкі, арганізацыі, прадпрыемствы, гаспадаркі раёна.

Але мы ўжо працуем і над другім томам, які ахопіць падзеі ад 1900 да 1945 года.

Галіна РАМАНЧУК
Фота аўтара




# Жывое слова памяць зберажэ…

У выставачнай зале Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея адбылася прэзентацыя калектыўнага зборніка мясцовых аўтараў "Над родным краем жураўлі", прымеркаванага да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Зборнік выйшаў невялікім тыражом за кошт сродкаў гарадскіх раённых арганізацый — "Беларускага фонду міру" і "Беларускага аб'яднання ветэранаў". Кніга змяшчае вершы, нарысы і эсэ 23 мясцовых аўтараў.

У перапоўненай зале, акрамя саміх аўтараў, было шмат моладзі — студэнтаў і вучняў-старшакласнікаў. Менавіта вучні гімназіі былі задзейнічаны ў інсцэніроўцы твора прафесара БДСГА Міхаіла Мікалаева "Жывая крынічка памяці Івана" (пісьмы з фронту), а студэнты акадэміі выразна чыталі на памяць вершы горацкіх паэтаў.

Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ветэрана вайны Міхаіла Каравульнага, нарыс якога пра абарону Сталінграда змешчаны ў зборніку. Цікава было паслухаць выступленні ўдзельнікаў вайны. Пра рэальныя факты, што леглі ў аснову верша "Смерць партызана", расказаў ветэран Леанід Самусенка. Праўдзіва і глыбока перадалі адчуванне вайны і тыя аўтары, якія нарадзіліся ў пасляваенны час: Ніна Кавалёва, Святлана Цярэшка, Андрэй Пугач, Сяргей Кісялёў і інш., а таксама маладыя паэты Лія Родная, Таццяна Гаўрыленка, Алеся Цэван. "Калі зямля праз некаторы час здольна залячыць свае раны, то ў сэрцах чалавечых яны, нанесеныя вайной, не зажываюць ніколі, — сказала Алеся. — Але чым далей захоўваецца памяць, тым большая верагоднасць не дапусціць новай вайны".

На мерапрыемстве гучалі песні на словы Ніны Кавалёвай, Льва Васільева, Святланы Цярэшкі, Ліі Роднай у выкананні Віктара Малчанава і Надзеі Курбасавай.

Шчырую ўдзячнасць усім, хто быў задзейнічаны ў выданні гэтага зборніка, выказаў ветэран вайны Аляксей Багамолаў: "Вялікі дзякуй усім горацкім паэтам і празаікам, якія ўлучылі гукі сваіх сардэчных струн, свой паэтычны талент і пісьменніцкі дар, сваю любоў і ўдзячнасць загінуўшым і жывым удзельнікам бітваў у зборнік памяці аб больш чым пяці тысячах падпольшчыкаў і партызан, савецкіх і польскіх воінаў — тых, хто аддаў сваё жыццё за вызваленне Горацкага краю ад нямецка-фашысцкіх прыгнятальнікаў, у зборнік памяці аб больш як сямі тысячах жыхароў Горацкай зямлі, загінуўшых ад куль і снарадаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Усім супрацоўнікам ідэалагічнага фронту жадаю данесці гэты зборнік да кожнага маладога чалавека, парадаваць усіх жыхароў зямлі Горацкай. Да гэтага далучаюцца заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі і пісьменніца з Масквы Ірына Малаковіч-Сяргеева, ветэран вайны, былы партызан 115-й Горацкай брыгады і былы пасляваенны аграном Горацкага раёна Яўген Курыленка з Мінска".

Людміла ДЗЕРУЖКОВА

# Ён быў беларусам

Краязнаўца Вячаслаў Афанасьеў піша пра невядомае ў Беларусі імя прафесара Пятра Галузы

9 красавіка 1980 года, на восемдзесят трэцім годзе жыцця ў Алма-Аце памёр вядомы казахскі вучоны, прафесар Пётр Рыгоравіч Галуза. У сціслым некралогу гаварылася, што гэта быў таленавіты навуковец, актыўны грамадскі дзеяч і надзвычай сціплы чалавек. Калі ў Казахстане, хаця б коратка, паведамілі пра гэтую страту, то на радзіме Пятра Рыгоравіча, у Беларусі, не з'явілася ні радка. І гэта зразумела. Большая частка жыцця, навуковая дзейнасць, прайшлі ў рэспубліках Сярэдняй Азіі і Казахстане. Таму імя Пятра Рыгоравіча не ўвайшло ні ў адну айчынную энцыклапедыю, яго няма ні ў адным беларускім біяграфічным даведніку. А быў ён беларусам.

Нарадзіўся Пётр Галуза 10 ліпеня 1897 года ў вёсцы Даргейкі Сенненскага павета Віцебскай губерні ў сям'і заможнага гаспадара. Гэта дазволіла Пятру атрымаць добрую адукацыю. Працоўную дзейнасць пачаў у 1914 годзе настаўнікам вясковай школы. З 1916 года Пётр Рыгоравіч служыў у царскім войску. Пасля звальнення працаваў у павятовым аддзеле народнай асветы ў горадзе Сянно. Але ненадоўга. У 1919-м зноў прызвалі ў войска: служыў у Чырвонай Арміі. Тады і ўступіў у шэрагі бальшавіцкай партыі, што дазволіла скончыць Камуністычны універсітэт імя Свярдлова ў Маскве. Затым Галузу камандзіравалі ў Ташкент, у Сярэднеазіяцкі камуністычны універсітэт, у якім ён загадваў кафедрай гісторыі. Да гэтага часу адносяцца першыя навуковыя публікацыі Пятра Рыгоравіча. Так, у Ташкенце ў 1926 годзе выйшаў яго гістарычны нарыс "Узбраенне рускіх перасяленцаў у Сярэдняй Азіі". У гэтым жа годзе ў часопісе "Коммунистическая мысль" распачалася, а ў 1927-м была працягнутая публікацыя вялікай навуковай працы "Перасяленчая палітыка царызму ў Сярэдняй Азіі" і шэраг іншых артыкулаў.

Пасля была вучоба ў інстытуце Чырвонай прафесуры ў Маскве. Адначасова з'яўляўся дацэнтам кафедры гісторыі СССР Камуністычнага універсітэта працоўных Усходу (Масква), пазней — навуковым супрацоўнікам Інстытута імя Леніна.

У 1930-м годзе П. Галуза вяртаецца ў Ташкент. Праца намеснікам дырэктара Сярэднеазіяцкага навукова-даследчага інстытута гісторыі рэвалюцыі, прарэктарам Сярэднеазіяцкага Камуністычнага універсітэта, намеснікам загадчыка культпрасветаддзелам Сярэднеазбюро ЦК УКП (б). З 1935 па 1937-ы Пётр Рыгоравіч — рэктар, прафесар, загадчык кафедры гістарычных навук Туркменскай вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы.

У 1937 годзе Пётр Галуза быў беспадстаўна рэпрэсаваны. І каля дзесяці гадоў правёў у лагерах. Вядома, ні пра якую навуковую дзейнасць у гэты перыяд не магло быць гаворкі. Але і пасля вызвалення, у 1946 годзе, Пётр Рыгоравіч не меў права займацца навукай. Спачатку ён працаваў эканамістам на заводзе Сярэднеазхіммаш у горадзе Чырчыку Узбекскай ССР, пасля — кіраўніком групы вытворчага планавання, інжынерам шахтабудаўнічага упраўлення трэста "Далененшахтбуд" у г. Чурубай-Нура (цяпер — г. Абай) Карагандзінскай вобласці Казахскай ССР.

Толькі ў 1956 годзе Пётр Галуза быў рэабілітаваны і атрымаў магчымасць — пасля амаль дваццаці гадоў перапынку — заняцца навукова-даследчай працай. У гэтым жа годзе яго прызначылі старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі, археалогіі і этнаграфіі імя Ч. Валіханава. На падставе апублікаваных у канцы 1920 — 1930-х гадоў прац яму была прысуджана навуковая ступень кандыдата гістарычных навук. У 1965 годзе П. Галуза абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Аграрныя адносіны на поўдні Казахстана ў 1867 — 1914 гадах", а пазней стаў прафесарам.

Пётр Галуза, член Вучонага савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР, быў удзельнікам першага з'езда гісторыкаў-марксістаў, які праходзіў у 1928 годзе ў Маскве, Усесаюзнай нарады гісторыкаў у Маскве ў 1962-м годзе, а таксама многіх іншых навукова-практычных канферэнцый па пытаннях развіцця грамадскіх навук. Яго пяру належаць дзесяткі навуковых прац па самых розных гістарычных пытаннях. Ён даследаваў каланіяльную і перасяленчую палітыку царызма ў Туркменскім краі, гісторыю аграрных адносін ў дарэвалюцыйным Казахстане, а таксама нацыянальна-вызваленчы рух народаў Сярэдняй Азіі. Было б добра, каб і на радзіме Пятра Рыгоравіча знайшліся тыя, хто зацікавіцца яго багатай спадчынай.

# Чароўныя акварэлі

Віцебская акварэль пачынаецца з Фелікса Гумена. Каб пераканацца ў гэтым, пры чарговым наведванні горада над Дзвіной завітаў да мастака.



Фелікс Фёдаравіч чалавек нешматслоўны, што датычыць уласных акварэляў. Куды больш распавядае пра творчыя стасункі з людзьмі. Надта абураецца мастак на сучасных творцаў. Маўляў, шмат сераднякоў, якім надаюць статус ледзьве не мэтраў.

А лёс Гумена складваўся так, што быць мастаком у дзяцінстве ён і не марыў. Ці не зусім выпадкова нават пайшоў вучыцца. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Амурскай вобласці, побач з Кітаем, у сям'і вайскоўца-памежніка. У два гады сур'ёзна апёк нагу. Год правёў у Ленінградзе ў бальніцы. Пасля наноў вучыўся хадзіць. Сям'я пераязджала з гарнізона ў гарнізон па ўсім Саюзе. Дэмабілізаваўся Фёдар Гумен ужо ў Ваўкавыску. Там Фелікс і закончыў школу. Як бацька камісаваўся, сям'я пераехала ў Мінск. І тады ў маладога чалавека паўстала пытанне: "Куды ісці далей?".

— Бацька, паколькі сам любіў маляваць (неяк на заставе на сцяне ён намаляваў дакладны план мяжы), хацеў уладкаваць мяне вучнем гравёра на шпалерную фабрыку. І дамовіліся ўжо. Але я пайшоў працаваць на мотавелазавод. Было мне шаснаццаць гадоў.

У сталіцы Фелікс Гумен сустрэў сябра дзяцінства Эдзіка Гуліна, які тады вучыўся ў мастацкім вучылішчы. Фелікс неяк папрасіў паглядзець ягоныя малюнкі. А калі ўбачыў, то заўважыў, што і сам так можа. На што Гулін прапанаваў Гумену паступаць таксама ў вучылішча.

Навучальная ўстанова размяшчалася ў падвалах опернага тэатра. Экзамены прымаў Леў Лейтман. Фелікс Фёдаравіч адзін з групы быў акварэлістам. Астатнія пісалі алеем. І ва ўсіх працы атрымліваліся яркія, а яго жухлая. З Гумена адразу смяяліся. А калі Лейтман выйшаў з аўдыторыі, параілі вышсці і змыць напісанае. Ён так і зрабіў. Але не губкай змыў, а падставіў працу пад струмень вады. Тое, што ўжо высахла — засталося, а што не — змылася. У выніку застаўся эзяючы, як каштоўныя камяні, малюнак. Метад змыву існаваў і да гэтага. Але Фелікс Гумен для сябе яго адкрыў непасрэдна на экзамене. І гэта дало плён — Гумен адзін з групы паступіў у вучылішча. А пасля дырэктар паведаміў, што ў Віцебску ў педінстытуце ствараецца мастацка-графічны факультэт. Дзесяць маладых людзей паехалі ў Віцебск. Было гэта ў 1958 годзе. І сёння ўсе дзесяць – вядомыя ў Беларусі мастакі. Фелікс Гумен, Аляксей Марачкін, Мікалай Кірэеў…



Праграма ВНУ прадугледжвала напісанне дыпломнай работы толькі алеем. Фелікс Гумен напісаў акварэль "Зваршчыкі суднарамонтнага завода". Але пераносіць на холст алеем не стаў. Прыйшлося скрыць перад выкладчыкамі. Затое пасля Гумена ўсім студэнтам дазволілі пісаць дыплом акварэллю.

Па размеркаванні Фелікс Фёдаравіч працаваў у школах Полацка і Наваполацка. Выкладаў маляванне і чарчэнне. Вёў таксама гурток. Вадзіў дзяцей малюваць Еўфрасіннеўскую царкву, за што мастака неадназразова дакаралі на мастацкіх і педсаветах. А пасля падаў заяву на замяшчэнне пасады старшага выкладчыка на мастацка-графічны факультэт у Віцебскі педагагічны інстытут. Так перабраўся ў абласны цэнтр.

Не перастаў мастак займацца з моладдзю нават пасля таго, як пакінуў працу выкладчыка. Яго запрашаюць правесці майстар-класы ў школах горада. Можна Фелікса Фёдаравіча ўбачыць сярод дзяцей і ў рэпінскім Здраўнёве.

А што адлюстравана на акварэлях мастака? Цікавыя індустрыяльныя пейзажы. Гэта заводы, фабрыкі… Настольки простыя сюжэты, што ў рэальным жыцці іх проста не заўважаеш. Шмат увагі творца надае вобразам прыроды. Заснежаны лес, кранутыя восеньскай жаўцізной сад, горы… А кветкі! Усе эмоцыі і не перадаць. Застаецца толькі запрасіць чытачоў наведаць залу Фелікса Фёдаравіча ў Віцебскім мастацкім музеі. Хоць там і не шмат выстаўлена яго прац, але і праз іх можна акунуцца ў чароўны свет мастацтва Фелікса Гумена.

Сяргей МАКАРЭВІЧ

На здымку: Фелікс Гумен, акварэлі мастака.

# Выданне пра незабыўны час

Да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне беларускія і расійскія архівісты распачалі падрыхтоўку унікальнага выдання — навуковага апісання асабістага архіва Панцеляймона Панамарэнкі. Дакументы з яго зберагаюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі ў Маскве, Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь і Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску.

Маскоўскі збор налічвае 108 спраў за 1946 — 1981 гг. Гэта рукапісы прац Панамарэнкі па гісторыі партызанскага руху і падрыхтоўчыя матэрыялы да іх, калекцыя дакументаў, рукапісных і друкаваных матэрыялаў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дакументы адразу пасля смерці П. Панамарэнкі паступілі ў ЦК КПСС. Большасць спраў — аб'ёмныя, некаторыя нават налічваюць больш як тысячу аркушаў. Мінскі збор складаецца з 71 справы за 1930 — 1950, 1981 — 1982 гг. У архіў яны паступілі ў ліпені 2000 г. ад унучкі Панамарэнкі Святланы Валер'еўны. Сярод дакументаў — рукапісы, дакументы, сабраныя па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Заходняй Беларусі, фотаздымкі і інш.

Архіўная частка будзе дапоўнена каталогам кніг з бібліятэкі П. Панамарэнкі, што захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі, Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, іншых дзяржаўных сховішчах і прыватных зборах. Многія выданні маюць дарчыя надпісы вядомых асоб. Плануецца таксама падаць звесткі і пра атрыманыя ад Панамарэнкі экспанаты Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі. У выніку даведнік стане не ведамасным, а міжгаліновым з назваю: "Панцеляймон Панамарэнка. Архівы, бібліятэкі, музеі". Упрыгожаннем выдання могуць стаць творы выяўленчага мастацтва з выявамі Панамарэнкі. А такіх зберагаецца нямала. Трэба толькі іх сабраць.

Сярод кіраўнікоў Савецкай Беларусі Панцеляймон Панамарэнка займае асаблівае месца. Ён прыехаў у Мінск летам 1938 г. на пасаду першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі і ў 1948 г. выехаў у Маскву "на павышэнне". Гэтае дзесяцігоддзе ва ўспамінах Панамарэнкі, староні з якіх надрукаваў у "Нёмане" у 1992 г. філасаф Ф. Канстанцінаў (месца захоўвання арыгінала невядома), названа "незабыўным часам". Менавіта Панамарэнка стаў "збіральнікам" беларускіх зямель: далучыў у 1939 г. Заходнюю Беларусь, пераканаў Сталіна ў тым, што Палессе з Брэстам і Пінскам павінна быць у складзе БССР. Пазней адстаяў перад Палітбюро ЦК ВКП(б) Полацк у межах Беларусі. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён узначальваў Цэнтральны штаб партызанскага руху, у вызваленай Беларусі шмат зрабіў для аднаўлення гаспадаркі і культуры. Пасляваенны план забудовы Мінска рыхтаваўся архітэктарамі паводле прапаноў і пад наглядам Панамарэнкі. У сучасным Мінску пра яго нагадваюць і будаваны пры ім праспект Незалежнасці, і мемарыяльная дошка на знакамітым 2-м Доме Саветаў, і вуліца яго імя.

Янка МЯЦЕЛІЦА

На здымку: Панцеляймон Панамарэнка.

# Лепельскі куфэрак

Лепельскі раённы краязнаўчы музей у снежні гэтага года адзначыў 55-годдзе стварэння першай экспазіцыі.

У скарбніцу гісторыі мясцовыя жыхары, асабліва дзеці, ходзяць ахвотна, як у храм або ў тэатр. А паглядзець тут ёсць на што. Нават сам будынак музея з'яўляецца помнікам архітэктуры пачатку XIX стагоддзя. У ім размяшчалася кантора былой Бярэзінскай воднай сістэмы (1880 — 1950 гг.). Створаны ў 1953 годзе, краязнаўчы музей стаў сапраўдным цэнтрам адкрыццяў, пазнання, асветы для насельніцтва. У шасці залах адлюстравана гісторыя Лепельшчыны са старажытных часоў да нашых дзён. Асновай экспазіцыі з'яўляюцца прадметы археалагічных раскопак і знаходак на нашай тэрыторыі. Вялікі ўклад у вывучэнне краю яшчэ ў XIX стагоддзі ўнёс знакаміты лепельскі археолаг М. Кусцінскі.

У 1920-я гады ў Лепельскім павеце былі створаны краязнаўчае таварыства і музей пры аддзеле народнай асветы. Паслядоўнае і сістэматычнае даследаванне Лепельшчыны пачалося беларускімі археолагамі І. Ціханенкавым, К. Палікарпавым. Асабліва плённымі сталі пошукі вучоных А. Мітрафанава, Э. Зайкоўскага, Г. Штыхава, Л. Дучыц, У. Ксяндзова. Апошні на беразе Лепельскага возера Проша знайшоў стаянку чалавека, якая датуецца дзевятым тысячагоддзем да нашай эры. Заўсёды цікавасцю ў наведвальнікаў карыстаюцца тры скарбы з манет часоў Вялікага княства Літоўскага, краін Заходняй Еўропы XVI — XVII стагоддзяў, Расійскай імперыі канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Краязнаўчы музей захоўвае некаторыя звесткі і геранчыя біяграфіі лепельскіх воінаў удзельнікаў бітвы пад Грунвальдам 1410 г., Ульскай бітве 1564 г., у вайне 1812 г. У Вялікай Айчыннай вайне каля 2000 нашых землякоў ваявалі на франтах і больш як 600 чалавек — у партызанскіх атрадах. Лепельская зямля нарадзіла і выхавала пяць Героеў Савецкага Саюза, аднаго кавалера ордэна Славы трох ступеняў.

Каштоўнымі набыткамі музея з'яўляюцца творы лепельскіх пісьменнікаў Тодара Кляшторнага і яго дачкі Тадзіяны Тодараўны, Пятра Дудо, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Міхно, мастакоў Ф. Бурцава, А. Бухаркіна, А. Скавародкі, В. Мядзведскага, А. Ільінова, Г. Шаўры і інш.

Сапраўднымі энтузіястамі музейнай справы, шчырымі працаўнікамі з'яўляюцца дырэктар Аліна Стэльмах, галоўны захавальнік фондаў Таццяна Шлег, навуковыя супрацоўнікі, якія праяўляюць стараннасць і настойлівасць у зборы, апрацоўцы, уліку, захаванні, папулярызацыі краязнаўчых матэрыялаў. Вядома, эканамічныя цяжкасці адбіваюцца і на рабоце музея. Тым не менш, намаганнямі супрацоўнікаў сабрана каля 18 тысяч прадметаў асноўнага і больш як 8 тысяч навукова-дапаможнага фонду. Штогод установу наведваюць больш як 6 тысяч чалавек. Музей стаў значным навукова-асветніцкім цэнтрам раёна. Тут праводзяцца экскурсіі, тэматычныя вечары, сустрэчы са знакамітымі людзьмі, канферэнцыі, семінары, урокі і мерапрыемствы для школьнікаў, арганізуюцца выставы. Навуковыя супрацоўнікі аказваюць метадычную дапамогу студэнтам і навучэнцам, забяспечваюць іх краязнаўчымі матэрыяламі для напісання курсавых работ, рэфератаў, сачыненняў і інш. Традыцыйным стала тут правядзенне навукова-практычных канферэнцый "Лепельскія чытанні", падрыхтоўка і выданне навуковых прац, буклетаў, даведнікаў.

Штодзённая напружаная, мэтанакіраваная дзейнасць музея не застаецца незаўважанай. У кнізе водгукаў можна знайсці сотні запісаў на розных мовах ад удзячных наведвальнікаў.

Ільля ЯНУШ,
г. Лепель

# Новыя адкрыцці

У Рагачове пры канцы снежня ўсталявалі помнік на магіле бабулі Уладзіміра Караткевіча Людмілы Барысевіч. Адбылося тое дзякуючы ініцыятыве журналіста газеты "Звязда" Глеба Лабадзенкі.

Яшчэ ўвосень група журналістаў, наведаўшы Рагачоў, убачыла, у якім запусценні знаходзіцца магіла бабулі пісьменніка. Тады Глеб Лабадзенка звярнуўся праз свой сайт па дапамогу да карыстальнікаў Інтэрнета. За непрацяглы час былі сабраны неабходныя сродкі для помніка. На ім змясцілі словы Уладзіміра Караткевіча:

Непадалёк ад ледзь
 жывой капліцы,
Над бабчынай
 магілаю старой,
Як слёзы залацістыя, жывіца
Цячэ з параненых
 магутных хвой.




Падчас наведвання Рагачова Глеб Лабадзенка зрабіў некалькі адкрыццяў у біяграфіі Уладзіміра Караткевіча. Як высветлілася, Людміла Барысевіч была не роднай бабуляй пісьменніка (гэта другая жонка яго дзеда). Але менавіта ў яе будучы пісьменнік у дзяцінстве праводзіў вакацыі. А таксама атрымалася знайсці яе фота, якое раней даследчыкам было невядома. Паказальны прыклад краязнаўчых пошукаў. Пабольш бы такіх ініцыятыў.

Павел РАДЫНА

На здымку: помнік на магіле бабулі Уладзіміра Караткевіча.





# Добрага дня, Анатоль!

**Анатоль заўсёды і насамрэч шчыра радуецца кожнаму, хто наведваецца ў іх з маці хату. Было раней, калі жаніліся-выходзілі замуж яго аднакласнікі — ці не кожная пара лічыла сваім абавязкам завітаць да Анатоля бы па бласлаўленне. Маці напачатку вельмі балюча ўспрымала такія візіты, бо як было бачыць побач з імі, маладымі, здаровымі, шчаслівымі, свайго сына — прыкутага да ложка інваліда. Лёс…**



Анатолю Галушку з вёскі Магіліцы Івацэвіцкага раёна было 17. За спінай — школа, экзамены выпускныя і ўступныя, атрымана запрашэнне ў мараходку. Светлая мара наперадзе. І была побач родная, такая знаёмая рака Шчара. Спякотны дзень. Нырнуў там, дзе ныраў сотні разоў.

…Траўма пазваночніка аказалася такой, што дактары потым развялі рукамі: ён павінен быў памерці. Але выжыў.

І вытрымаў, навучыўся жыць інвалідам. Хоць сёння шчыра прызнаецца: былі і думкі пра самагубства. Што выцягнула яго з адчаю? Любоў блізкіх, найперш — маці.

Сёння ён — 46-гадовы пасівелы мужчына. Верыць людзям і верыць у людзей. Эрудзіраваны, цікавы суразмоўца. Мастак і паэт. З ім лёгка размаўляць на ўсялякія тэмы. Забываешся, што перад табой інвалід, не заўважаеш стары ложак з чорнай жэрдкай над ім (для гімнастыкі). Бачыш светлы твар і неабыякавыя вочы. Ды рукі Анатоля, амаль без мышцаў, скручаныя ў паралічы пальцы вяртаюць да рэчаіснасці.

Анатоль малюе зубамі.

Першы малюнак быў выкананы звычайным алоўкам на лістку паперы. Здзівіўся сам, як гожа атрымалася. Радавалася маці, радаваліся родныя. Сёння на сценах хаты — тыя першыя малюнкі Анатоля, як пазнака яго новага шляху. Ад алоўка да гуашы, потым — акварэль і нарэшце — алей…

На ўсіх малюнках і карцінах Анатоля — родныя мясціны. Такія, якімі помняцца яму, якімі бачыць іх у летні час, калі яго ў інвалідный калясцы вывозяць на бераг Шчары.

Яго раннія акварэлі першая заўважыла супрацоўніца аддзела культуры райвыканкама Зоя Мысава. Уражаная, без слёз не магла пра гэта расказваць. Потым з'явіўся артыкул у раённай газеце пра А. Галушку, прайшла першая яго выстаўка ў Івацэвіцкім гарадскім доме культуры. Частку работ паказалі на “Славянскім базары ў Віцебску”. Вакол Анатоля паболела неабыякавых людзей. Ён стаў нейкім светлым магнітам, што прыцягвае да сябе чалавечнасць, спагаду і жаданне рабіць добра. Ён паверыў у сябе. І пачаў вучыцца працаваць з алейнымі фарбамі. Двума скручанымі нягегла кулакамі ён мог падкаціць цюбік з фарбай бліжэй. Прыціснуць яго крыху, дацягнуцца ротам і адкруціць каўпачок. Зубамі ж выціскаў фарбу на палітру. Потым — пэндзлік у зубы...

Малюе ў адзіноце. Гэта для яго — амаль інтымны занятак… “Гэтак вымажацца ва ўсе колеры, бы тое чарцяня… Пакліча, прыйду, аж спужаюся… Цяру-цяру твар, а фарба не выціраецца…” — смяецца маці Анатоля.

Пазней адзін прафесійны мастак, нічога не ведаючы пра Анатоля, гледзячы на яго карціну, скажа: “Парушана перспектыва… Ссунуты цэнтр цяжару кампазіцыі. Такое адчуванне, што яе пісалі лежачы”.

Не проста лежачы. Пачаўшы браць палотны 40х60 і 50х70 см, адну частку карціны Анатоль піша… дагары нагамі. Інакш — як дацягнуцца…

Мясцовы прадпрымальнік аднойчы заказаў некалькі карцін. “Гэта быў незвычайны час, — распавядае А. Галушка. — Два месяцы працы — як адзін дзень. Адчуваць, што твая работа патрэбная, што яна цэніцца, што за яе могуць заплаціць грошы, — тое было немагчыма выказаць словамі”. На першыя зробленыя грошы ён прыдбаў у хату спадарожнікавае тэлебачанне — не хацеў заставацца па-за жыццём.

У 2007 годзе выстаўку яго работ наладзілі ў Мінскім духоўным цэнтры. Большую частку карцін там і купілі.

У яго невялічкая пенсія і пенсія маці (на гэты час яны засталіся адны ў бацькоўскай хаце), а фарбы і пэндзлі, палотны, рамы — як жа тое не танна! Выручала людская бескарыслівая дапамога. І калі на нашу просьбу, размешчаную ў Сеціве, — дапамагчы Анатолю набыць камп'ютэр, людзі адгукнуліся, як радаваўся ён! Але не сам камп'ютэр — зусім іншае ўзрушыла: “Як добра, што столькі харошых людзей ёсць у свеце!”. А ў сваім далёка не зайздросным становішчы Анатоль цвёрда перакананы: яму ніхто нічога не вінен. Не хоча вымагаць да сябе ўвагу. І сам, і яго маці вераць у дабрыню людскую. І тая дабрыня ідзе да іх!

…Пакрысе Анатоль налаўчыўся спраўляцца з камп'ютэрнай мышкай двума кулакамі. Няхай і вельмі марудна, але сам ужо можа па літары набіраць, заходзіць у Інтэрнет…

Анатоль неяк прызнаўся: у яго атрымаўся верш. Калі мы змясцілі яго вершы на старонках раённай газеты — колькі было водгукаў у рэдакцыю, колькі людзей тэлефанавала Анатолю! У вершах яго жыве тое ж, што і на кожнай карціне, — свята… Потым у празаічным эсэ “Свята далёкай зоркі” адкрылася тая патаемная сіла, што трымае Анатоля ў жыцці. Зорка ў небе згасла, пісаў Анатоль, яе даўно няма… А яе святло з цемры неба ідзе ды ідзе да нас тысячу гадоў. Няма знаёмых дубоў, няма таго поплава, а святло ўспамінаў грэе і лечыць душу. Пазней ён напіша:

Шляхам знаёмым
вядзе мяне памяць
У тыя шчаслівыя,
светлыя дні,
Дзе кіпень садоў,
быццам снежная замець.
І зорак кахання
ў небе агні.

Адно з васьмі чатырохрадкоўеў верша “Сцяжынкамі памяці”…

Летась у Івацэвіцкім ГДК была другая выстаўка Анатоля: сапраўднае свята і для мастака, і для яго маці, для родных — і для тых, хто рыхтаваў выставу, хто шчыра захоплены жыццёвай сілай, талентам гэтага чалавека. Больш як 30 вялікіх палотнаў і да кожнага — адмысловыя чатырохрадкоўі ў якасці подпісаў. На выстаўку прыходзілі сем'ямі, школьнікі — класамі, з горада і з навакольных вёсак. Кніга водгукаў была запоўнена за некалькі дзён. А інфармацыю пра саму падзею мы размясцілі на тым самым форуме, праз які з'явіўся ў Анатоля камп'ютэр. З фотарэпрадукцыямі карцін…

Калі экспазіцыя завяршылася, работы А. Галушкі мы перадалі ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі ў Бараўлянах. Неўзабаве на адрас Анатоля прыйшоў факс: “Адміністрацыя і сацыяльна-псіхалагічная служба ад усёй душы дзякуюць Вам за бясцэнны падарунак нашым дзецям. Мы спадзяёмся, што Ваш прыклад дапаможа нашым пацыентам пераадолець тыя цяжкасці, з якімі яны сутыкнуліся і апынуліся ў нашай клініцы. Выстаўка стварае спрыяльны псіхалагічны клімат у цэнтры, паляпшае настрой дзяцей, супрацоўнікаў і бацькоў, дазваляе адчуць жыццёвую сілу і энергію, стварае пазітыўнае светаадчуванне…”.

Размяшчэнне рэпрадукцый у Інтэрнеце мела свой працяг: многія прасілі Анатоля паўтарыць асобныя карціны і абяцалі дапамагчы фінансава ў адказ на сваю просьбу… І Анатоль працаваў — узрушана, да знямогі. Па некалькі карцін стварыў для Мінска, Брэста, Масквы, Кіева.

А потым — радасная навіна з Ліхтэнштэйна, са штаб-кватэры Міжнароднага саюза мастакоў-інвалідаў (NFK): Анатоль Галушка прыняты ў гэтую вялікую і вядомую ў свеце арганізацыю! Ён стаў другім беларусам сярод членаў гэтага саюза. Цяпер у Анатоля з'явілася магчымасць выстаўляць свае карціны ў экспазіцыях NFK па ўсім свеце, удзельнічаць у міжнародных праектах. Да таго ж, ён атрымлівае дадатковую штомесячную пенсію (куды большую за сваю “інвалідскую”).

З кожным новым сваім палатном Анатоль удасканальваецца ў майстэрстве. Ён піша карціны — і чакае лета, якое дасць магчымасць зноў пабыць на берагах роднай Шчары. Ён будзе ўбіраць сэрцам прыгажосць роднага куточка зямлі, каб потым шчодра дзяліцца ёй з усімі, пераконваючы тых, хто сумняваецца: карані нашы — у зямлі роднай, сіла наша — у чысціні яе, душа наша — у яе прыгажосці…

Валерый ГАПЕЕЎ
г. Івацэвічы

На здымках: Анатоль Галушка і яго пейзажы.

# Скарбніца мастацкай спадчыны

## Культурная прастора

**У Нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны працуе выстаўка “З першых збораў Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР 1939 — 1941 гг.”, прымеркаваная да 70-годдзя мастацкай скарбніцы.**



Упершыню на гэтай выстаўцы прадстаўлены творы беларускага, заходняга і расійскага мастацтва, якія належалі Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (адкрыта 8 лістапада 1939 года) і ацалелі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Карцінная галерэя пад кіраўніцтвам мастака-кераміста Мікалая Міхалапа, якая займала 15 вялікіх залаў будынка былой Марыінскай жаночай гімназіі (цяпер вул. К. Маркса, 29), стала, па сутнасці, першым мастацкім музеем Беларусі.

Калекцыя перадваеннай галерэі складалася шляхам перадач твораў з іншых музеяў: Віцебска, Гомеля, Магілёва, Траццякоўскай галерэі, Рускага музея, Эрмітажа, Музея выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна. Пасля верасня 1939 года ў склад калекцыі ўвайшлі прадметы з нацыяналізаваных маёнткаў Заходняй Беларусі, у тым ліку з палаца князёў Радзівілаў у Нясвіжы…

28 чэрвеня 1941-га ў Мінск увайшлі нацысцкія войскі. Эвакуіраваць фонды галерэі не ўдалося. На працягу акупацыі розныя ведамствы вывозілі ў Германію калекцыі мінскіх музеяў, у тым ліку карціннай галерэі. У маі 1942 года яе рэшткі былі перавезены ў мінскі гістарычны музей, адкуль рабаўніцтва працягвалася.

Пасля вызвалення Беларусі галерэю ўзначаліла Алена Аладава. Дзякуючы энергіі і апантанасці Алены Васільеўны і калектыву яе аднадумцаў зборы паступова пачалі адраджацца. Нешматлікія творы з даваеннай галерэі захаваліся ў Мінску, але ў асноўным калекцыя стваралася наноў. Напрыканцы 1947 года ў Мінск прыбылі першыя вагоны з гістарычнымі і мастацкімі каштоўнасцямі мінскіх музеяў, вернутымі з Нямеччыны. Частка іх паступіла і ў карцінную галерэю.

Новы этап існавання калекцыі пачаўся ў 1957-м, калі галерэя атрымала найменне “Дзяржаўны мастацкі музей БССР” і пераехала ў цяперашні, спецыяльна збудаваны па праекце беларускага архітэктара М. Бакланава будынак. Дзесяць экспазіцыйных залаў, прыгожая выставачная галерэя на другім паверсе ўспрымаліся сапраўднымі палацавымі інтэр'ерамі. Але з цягам часу і гэтых памяшканняў стала замала. Экспазіцыйныя плошчы пашырыліся на 8 залаў, калі тры гады таму адкрыўся новы корпус, прыбудаваны да галоўнага, параднага.

З 1993-га Дзяржаўны мастацкі музей — буйнейшы ў краіне збор выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Беларусі — атрымаў статус “Нацыянальнага” і стаў называцца “Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь”. Яго калекцыя сёння налічвае каля 27 тысяч адзінак захавання. За 65 пасляваенных гадоў зборы ўдалося не толькі часткова вярнуць, але аднавіць і павялічыць у 10 разоў.

Для гэтай выстаўкі на сродкі спонсара музея “British American Tobacco” было адрэстаўравана 18 твораў жывапісу і графікі.

Калектыў Нацыянальнага мастацкага музея з 70-годдзем з дня заснавання павіншаваў Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка. У віншаванні, у прыватнасці, адзначаецца, што за мінулыя дзесяцігоддзі гэта унікальная культурная ўстанова ператварылася ў галоўную скарбніцу неацэннай мастацкай спадчыны, стала цэнтрам навуковай і асветніцкай дзейнасці, міжнародных сувязей з вядучымі музеямі свету. Калектыў музея самаадданна працуе на карысць краіны, захоўвае духоўныя дасягненні айчыннай і сусветнай культуры, папулярызуе беларускае мастацтва ў нашай краіне і за яе межамі, робіць важкі ўнёсак у эстэтычнае выхаванне грамадзян.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: частка экспазіцыі музея.

Фота аўтара







# Залуззеўскія матывы

Дарога з Жабінкі ў Залуззе бітая, пад новым асфальтам, таму на ровары не доўжыцца. Бываючы тут не адзін раз, здзіўленне па-ранейшаму трапляе. Першае, канечне, з незвычайнай шчодрасці зямлі. У садах шмат яблык і груш, у агародах капуста, агурочкі, цыбуля — не ўбіцца. Другое — ці часта сустрэнеш культработніка, які б цікавіўся земляробствам роднага краю? Здзіўленне трэцяе самае прыемнае — з фразы, прамоўленай дырэктарам тутэйшага Дома народнай творчасці Людмілай Пышынскай: тут зямля такая. Фраза ёмістая, крылатая, замацаваная паданнем, якое не толькі пра сокі зямлі, а найперш пра шчодрыя душы людзей, пра карані культуры і гісторыі.

Залуззе ў пісьмовых крыніцах згадваецца з сярэднявечча, аднак усё: і багатая прырода з рэчкаю, лугамі і лесам, і паганскі каменны ідал, знойдзены каля вёскі, і шматлікія дахрысціянскія народныя абрады і звычаі, захаваныя дасюль, і помнікі старажытных рамёстваў, побытавай культуры, і самабытны фальклор сведчыць, што чалавек у гэтых мясцінах пасяліўся яшчэ даўней, з незапамятных часоў. Калі дзесяць гадоў таму ў раёне паўстала пытанне, згодна з Рэспубліканскай праграмай "Спадчына", дзе адкрыць Дом народнай творчасці, нездарма выбралі Залуззе, хоць вёсак з трывалымі нацыянальнымі традыцыямі на Жабінкаўшчыне нямала. Галоўнае для выбару было тое, што тут ужо меўся падмурак храма народнай культуры, і вялікая заслуга ў гэтым Людмілы Пратасевіч, якая збірала фальклор і экспанаты з 1989 па 2006 год. Цяпер яе справу працягвае Людміла Пышынская: папаўняе Дом народнай творчасці рэчамі сялянскага побыту і працы, мастацкімі вырабамі, сама пераймае спрыт рук мясцовых майстрых. Пасябравала з удзельнікамі гурта "Багуслаўка". Спявачкі-жанчыны — яны ж і майстрыхі, у дамах якіх працяг музея, дакладней, выток яго. Яны не толькі спяваюць адвечнае і тутэйшае, выконваюць амаль усе абрады каляндарнага і сямейна-бытавога цыклаў.

— На жаль, — засмучаецца кіраўнік Дома народнай творчасці, — вёска старэе. Самадзейныя артысты ў асноўным сталага ўзросту. Праўда, сякая-такая пераемнасць у гурце "Багуслаўка" ўсё-такі ёсць. З маладзейшага пакалення — спявачка Людміла і гарманіст Аляксандр Казакі, акардэаніст Іван Пышынскі, мой муж.

Дальбог, мелі б нашы суседзі, палякі або ўкраінцы, такую вёску, як Залуззе з яго Домам народнай творчасці, дык паставілі б на кожнай паваротцы ўказальныя знакі туды, зрабілі б маляўнічыя буклеты, пісалі б і пісалі пра унікальны, запаветны куток. Мы ж — сціплыя, нават у турысцкім праспекце шкадуем адвесці яму належнае месца. А гаворым пра аграэкатурызм, патрыятызм, пераемнасць пакаленняў…

Між іншым, Дом народнай творчасці не зарабляе амаль нічога: мізэр ад дыскатэкі, гэтулькі ж ад ахвяраванняў добрых людзей, пераважна тых, хто адпачывае ў санаторыі, што знаходзіцца на другім беразе Мухаўца. Экскурсіі разам з канцэртамі ў Залуззі бясплатныя.

…Сядаю на ровар і любуюся краявідамі, цікаўлюся жыццём вёскі, успамінаю маленства і юнацтва, якое прайшло на вясковай вуліцы, калі ўсё, чым напоўнена душа, жыло ў народзе яшчэ натуральна і нязмушана, без культурна-асветніцкага "гвалту". Ці ўдасца цяперашнія эстрадна-дыскатэчныя захапленні спалучыць з тым, што блізкае і дарагое, што, як думалася калісьці, святое і вечнае? З такімі думкамі пакідаў непаўторна прыгожае зямлёй і людзьмі Залуззе.

Аляксей ГАНЧУК





На здымках: Людміла Пышынская; экспанаты Дома народнай творчасці; спявачка Людміла і музыкант Аляксандр Казакі; гурт "Багуслаўка".

Фота аўтара

## У наступным нумары 

Чарговая размова ўдзельнікаў лімаўскага праекта "Кандыдацкі мінімум" — "Міні-раман", або Выжыванне жанраў у натуральным літаратурным асяроддзі" — прысвечана праблеме суадносінаў верагодных жанравых "запытаў" сённяшняга чытача і жанравых "прапаноў" сённяшняга пісьменніка: "Хрэстаматыйны прыклад: нягледзячы на тое, што ўжо ў эпоху Антычнасці з'яўляюцца творы, якія гісторыкамі літаратуры кваліфікуюцца як раманы ("Дафніс і Хлоя" Лонга, "Залаты асёл" Апулея), менавіта ў эстэтычнай прасторы рамантызму раман складваецца як універсальная форма мастацкага спасцыжэння і адлюстравання быцця, ён становіцца паўнавартасным жанрам".

З глыбінкі

## Падарунак да саракагоддзя

**У дзень прафесійнага свята энергетыкаў на Чашнiччыне гасцінна расчыніў дзверы музей гісторыі Лукомльскай ДРЭС. 40 год таму быў пушчаны першы энергаблок буйнейшай беларускай электрастанцыі. З гэтай падзеяй звязаны лёсы тысяч людзей, якія прыехалі будаваць горад і станцыю з усіх куткоў Саюза.**

Зберагчы памяць аб працоўным энтузіязме першапраходцаў, лёсе іх спадчыны на працягу чатырох дзесяцігоддзяў — даўняя мара тых, хто цяпер працуе на флагмане. Не адзін год доўжылася стваральная справа. Аргкамітэт пад кіраўніцтвам начальніка аддзела кадраў М. Бондара па крупіцах збіраў каштоўныя матэрыялы. Дакументы, фотаздымкі, вусныя сведчанні — сёння ўсё гэта экспанаты трох залаў музея, размешчаных у Палацы культуры энергетыкаў у Новалукомлі.

Першая — прысвечана старажытнай зямлі, на якой нарадзіўся сучасны энергетычны гігант, і першапраходцам. Вялікую дапамогу стваральнікам аказалі вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Новалукомчанам пашчасціла неаднойчы сустрэцца з доктарам гістарычных навук Г. Штыхавым. Менавіта ён удзельнічаў у раскопках на месцы былога Лукомльскага княства, дзе знойдзена стаянка першабытнага чалавека. Гісторык перадаў у фонд музея шмат прадметаў быту XII — XIII стагоддзяў. Кансультацыі са спецыялістамі вядучых музеяў краіны спрыялі стварэнню макета Лукомльскага замка, размешчанага ў цэнтры залы. Уражваюць таксама скульптурныя кампазіцыі першапраходцаў — мантажніка і геадэзіста, зробленыя інжынерам В. Караблiным.

З гісторыяй стварэння вытворчасці знаёміць другая зала. Увагу наведвальнікаў адразу прыцягвае ўнушальных памераў макет сучаснай станцыі з падсветкай. Жадаючыя могуць паглядзець фільм пра кожны з дзесяці цэхаў прадпрыемства. Нямала ўзнагарод атрымана за 40 год. Унікальныя экспанаты — Грамата Вярхоўнага Савета СССР і Указ аб узнагароджанні ЛДРЭС ордэнам "Знак Пашаны", падпісаныя Л. Брэжневым. Многія ветэраны перадалі ў музей асабістыя медалі. Атрымалася вельмі цікавая калекцыя.

Матэрыялы пра сацыяльную сферу, уплыў грамадскіх арганізацый сабраны ў апошняй зале. Асаблівая ўвага сувязі Новалукомль — ЛДРЭС. Горад энергетыкаў у мінулым годзе адзначыў сваё 45-годдзе. Дарэчы, у верасні 2001 года на Лукомльскай ДРЭС пабываў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. На памяць пра сустрэчу — дароўчае фота кіраўніка дзяржавы. Захаваны ўспаміны пра візіты С. Сідорскага, П. Машэрава, П. Клімука і іншых вядомых дзеячаў.

Ірына ТОРБІНА



Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 5.01.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 6977
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686